28 верасня 2018 | № 35 (598)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



ISSN 2218-2144











# Усё ясна, што ўсё пахмурна

## Лукашэнка і Пуцін, насамрэч, «дамовіліся ні пра што»



Сяргей ПУЛЬША

Ад пачатку перамовы Пуціна і Лукашэнкі, якія адбыліся ў Сочы тыдзень таму, былі даволі загадкавымі. Дадавала інтымнасці агучаная раней умова: кіраўнікі краінаў пасля іх не выходзяць да прэсы і нікакаў не агалошваюць. У нечым гэта зразумела, калі асноўныя пытанні — вайсковыя.

Аднак пасля перамоваў, літаральна на наступны дзень, лідары Расіі і Беларусі зноў стэлефанаваліся, і Аляксандр Лукашэнка склікаў урад на тэрміновую нараду. Пра яе тэрміновасць сведчыць тое, што яна прайшла ў суботу — афіцыйны выходны дзень.

Наконт маўчання па выніках нарады нічога не абгаворвалася. І мы даведаліся, што перамовы ў Сочы былі цяжкія. «Асноўная частка перамоваў была сам-насам з прэзідэнтам Расіі. Перамовы доўжыліся 6 гадзін, нават больш. І калі шчыра, то гэта былі нават не складаныя, а цяжкія перамовы. Але дзейсныя», — сказаў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, у фармаце сам-насам абмяркоўваліся «палітычныя пытанні, узаемаадносіны Расіі і Беларусі ў рамках ЕАЭС, СНД, АДКБ і далейшага будаўніцтва саюзнай дзяржавы».

Лукашэнка на пасяджэнні з урадам літаральна фантанаваў вынікамі перамоваў. Але фармулёўкі былі настолькі размытыя, што так і не зразумела, да чаго бакі, у выніку цяжкіх перамоваў, урэшце дамовіліся.

Па словах Лукашэнкі, «літаральна на працягу тыдня будзе выпрацаваны індыкатыўны баланс, то-бок план узаемных паставак сельгаспрадукцыі». Выдатна, але на чыю карысць гэты баланс будзе?

У пытаннях прамысловай кааперацыі, праблемаў машынабудаўнічых комплексаў, квот для беларускіх грузаперавозчыкаў, перасячэння грамадзянамі трэціх краін беларуска-расійскай мяжы, Лукашэнка казаў, што «разуменне з расійскага боку ёсць».

Але што такое разуменне? Яго ў келіх не нальеш. Можна колькі заўгодна разумець праблему, але не прасунуцца ў яе вырашэнні ані на паўкроку.

Як вялікі поспех прэс-служба беларускага кіраўніка падае, што нібыта «канчаткова вырашана пытанне аб выкананні дамоўленасцяў па паступленні ў бюджэт Беларусі сродкаў ад мытных пошлін за сырую нафту і аб разліках Беларуссю за прыродны газ, што пастаўляецца кампаніяй «Газпром».

З гэтага паведамлення эксперты выказалі здагадку, што Масква адновіць замарожаныя было выплаты па схеме так званай «ператаможкі» (калі Масква вяртае Мінску экспартныя пошліны на нафту). Але, па-першае, гэты поспех часовы: даволі хутка Расія заменіць экспартныя пошліны ўнутраным падаткам на здабычу карысных выкапняў. Па-другое (і галоўнае), гэта — высноваэкспертаў. Як канкрэтна было вырашана пытанне «па паступленні ў бюджэт Беларусі сродкаў ад мытных пошлін за сырую нафту» не паведамлялася.

Цікавы і фінансавы складнік перамоваў. Лукашэнка сказаў, што шосты транш крэдыту ЕСФР мы атрымаем «у бліжэйшы час» (хаця павінны былі атрымаць напачатку года), з сёмым траншам «можна вырашыць пытанне», а новы крэдыт у мільярд долараў для рэфінансавання запазычанасцяў перад Расіяй «не выклікае адрынання».

Насамрэч, і тут пакуль — поўны змрок. «Бліжэйшы час» можа апынуцца вельмі расцягнутым паняццем.

Не менш цікава чытаць і развагі наконт перамоваў расійскіх



экспертаў. Калі беларускія СМІ аналізуюць пытанні эканомікі, то расійскія — ваенны складнік (міжволі згадваецца прымаўка пра «ў каго што баліць»). Паводле меркавання расійскіх яйкагаловых, узамен на падтрымку Крамля Мінску анічога не застаецца, як пагадзіцца на размяшчэнне ў краіне паўнавартаснай рускай вайсковай базы з «Іскандэрамі» — як адказ на будаўніцтва ў Польшчы амерыканскай ваеннай базы пад назвай «Форт Трамп». І «отсель грозить мы будем шведам».

Праўда, увесь запал крыху папсавалі тыя ж клятыя амерыкосы. Міністр абароны ЗША Джэймс Мэціс сказаў, што ніякіх пагадненняў наконт будаўніцтва «Форту Трампа» яшчэ няма і блізка. «Мы ацэньваем, у чым менавіта заключаецца прапанова Польшчы», — прыводзяцца словы Мэціса на сайце Пентагона, а значыць, калі ў Беларусі і з'явяцца «Іскандэры», то невядома, у адказ на што і на якіх умовах.

Ды што там «Іскандэры». Праз год з хвосцікам, у 2020-м, заканчваецца тэрмін знаходжання ў Беларусі іншых расійскіх вайсковых аб'ектаў — РЛС пад Ганцавічамі і станцыі сувязі ВМФ пад Вілейкай. Ці працягнуць яны сваё існаванне, а калі працягнуць, то на якіх умовах — таксама пытанне. Пра якую новую базу можна казаць, калі са старымі не разабраліся?

> **Можна колькі заўгодна разумець праблему, але не прасунуцца ў яе вырашэнні ані на паўкроку**

Карацей, па выніках візіту зразумела толькі адно: насамрэч, бакі паразмаўлялі пра тое, чаго хоча Беларусь. Пуцін у адказ ветліва ківаў галавой. Але прадметных рашэнняў ні па адным з пытанняў не было.

Відавочна, што Расія ўзяла паўзу ў дачыненні да беларускага партнёра. Як відавочна і тое, што працягваць падтрымку ў ранейшых аб'ёмах яна не ў стане, а таму выпрацоўвае новыя падыходы да саюзніка: што яна можа яму даць, у абмен на што, і што — ні ў якім разе.

Што ж тычыцца Лукашэнкі, то яго «агучка» нібыта выніакаў перамоваў — гэта не толькі матэрыял для ўнутранага карыстання і спроба паказаць, які ён удалы перамоўшчык. Гэта яшчэ і ціск на саюзніка з тым, каб ён думаў хутчэй. Ад гэтага залежыць выжывальнасць беларускай сістэмы.

Новыя раунды перамоваў адбудуцца неўзабаве. Іх будзе аж два — на саміце АДКБ у Душанбэ і на V Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі. І тады, можа быць, стане больш зразумела, чаго ўсё ж дасягнулі ў перамовах высокія бакі.

28 верасня 2018 | № 35 (598) Новы час

# Створаны сайт у падтрымку Іллі Валавіка

НЧ

**Пачаў дзейнічаць сайт valavik.com, прысвечаны Іллю Валавіку, асуджанаму на 10 гадоў зняволення па «справе антыфашыстаў». Пра гэта паведаміў праз тэлеграм-канал «Баста» анархіст Вячка Касінераў.**

На сайце можна даведацца пра падрабязнасці справы, па якой асуджаны Ілля, і, напрыклад, пра тое, што за месяц працы ў турме ён зарабіў 7 капеек.

«У чалавека спрабуюць забраць 10 (!) гадоў жыцця, здароўе, магчымасць гадаваць маленькую дачку, якая нарадзілася без яго, толькі ва ўгоду палітычнага загаду рэпрэсіўнай сістэмы МУС. Мы спадзяемся, што кожны шчыры і сумленны чалавек адгукнецца на наш заклік да салідарнасці з Іллём, па магчымасці дапаможа матэрыяльна», — піша Вячка Касінераў.

На сайце пазначаны адрас для ліставанняў палітвязню і інфармацыя пра тое, як можна падтрымаць Іллю і яго сям'ю.

Палітвязню можна пісаць на адрас: 212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК-15, атр. 11. Валавік Ілля Ігаравіч.

# За абразу дырэктаркі школы судзяць блогера

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

**У судзе Чыгуначнага раёна Гомеля пачаўся разгляд справы па іску аб абароне гонару, годнасці і рэпутацыі дырэктаркі школы Ніны Старажэнка да блогера ютуб-канала «Общество Гомель» Арцёма Шарапава.**

Нагадаем, блогер зняў ролік пра маці-адзіночку, якой Старажэнка пагражала пастаноўкай на ўлік па сацыяльна-небяспечным стане дзяцей за тое, што ў жанчыны была невялікая нясплочаная пазыка па ЖКГ, дома не паўсюль былі паклееныя шпалеры і жыў стары сабака, які, на думку дырэктаркі, ствараў антысанітарыю ў кватэры. Гэты ролік Шапараў выклаў у ютуб пад назвай «Як затравіць шматдзетную маці. Даведнік ад дырэктара школы». Карцінкай прэв'ю да гэтага роліка паслужыў фотакалаж, у якім Ніна Старажэнка апранутая ў кіцель, візуальна падобны да формы СС.

Ніна Старажэнка памер сваіх маральных пакутаў ацаніла ў 5000 рублёў, а таксама запатрабавала, каб блогер выдаліў відэаролікі.

— Тры ролікі, праз якія я пайшла ў гэты суд, Арцём Ігаравіч зрабіў як серыял, — распавяла суду Ніна Старажэнка. — У роліку «Дзеці ў закладніках, а маці-ўдава ў рабстве» Шапараў у якасці прэв'ю да свайго відэа выкарыстаў фотакалаж, дзе я паказаная ў мундзіры СС. Гэты факт мяне вельмі зневажае, бо я не з'яўляюся афіцэрам СС і не з'яўляюся фашыстам. Я не давала дазволу на публікацыю майго фотадзымка і асабістых звестак. Да таго ж у відэароліках акрамя фотакалажу ёсць звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Напрыклад, Арцём Ігаравіч сцвярджае, што наша школа знаходзіцца ў антысанітарным стане, ці што я з'яўляюся сяброўкай былой начальніцы аддзела адукацыі аблвыканкама.

Шапараў на гэтыя словы адказаў, што праца чыноўнікаў і дзяржслужбоўцаў з'яўляецца адкрытай і галоснай, а ўсе звесткі, размешчаныя ў відэасюжэтах, — праўдзівыя і былі прадстаўлены рэальнымі людзьмі. Вопратка ж, якую дырэктарка прыняла за мундзір СС, не ўтрымлівае нацысцкай сімволікі, а знешне падобная да формы расійскага паштара ці чыгуначніка.

— На мой погляд, адміністрацыйная справа супраць мяне павінна была быць спыненая па рэабілітуючых абставінах, — напісаў у пярэчанні да пазову Арцём Шапараў. — Аднак гэтага не адбылося, бо выйшаў тэрмін адміністрацыйнага парушэння. Згодна з заўвагай да артыкулу 17.10 КоАП РБ, пад нацысцкай сімволікай ці атрыбутыкай маюцца на ўвазе: эмблема, вымпел, гальштук, нагрудны ці апазнавальны знак Нацыянал-сацыялістычнай працоўнай партыі Германіі ці іх копіі. Такім чынам, КоАП даволі строга трактуе, што з'яўляецца нацысцкай сімволікай, і не дапускае рознатлумачэнняў. Ні ў адным з ролікаў на канале «Общество Гомель» няма гэтых выяваў.

Абгрунтаваць памер нанесенай маральнай шкоды Ніна Старажэнка не змагла — на жанчыну нахлынулі эмоцыі. Адвакатка Ганна Жураўлёва давяла суду, што за час, які прайшоў пасля з'яўлення відэасюжэтаў у інтэрнэце, яе падабаронная нават прапусціла выпускны вечар у школе, бо праз хваляванне трапіла ў гэты час у лякарню.

Ніна Старажэнка зазначыла таксама, што пасля публікацыі відэа ёй пачалі тэлефанаваць з пагрозамі незнаёмыя людзі, а нехта нават пашкодзіў «вочка» ўваходных дзвярэй кватэры.

Наступнае пасяджэнне адбудзецца 11 кастрычніка. Абодва бакі выклікалі на яго сваіх сведак, а таксама запатрабавалі праглядзець згаданыя відэасюжэты.

# «Метады работы засталіся ранейшыя»

**Журналіст TUT.BY Дзмітрый Бобрык паведаміў у Facebook пра пагрозы, шантаж і прымус да супрацоўніцтва з боку Следчага камітэту. Гісторык і архівіст Зміцер Дрозд знайшоў у гэтым даволі нечаканы кантэкст.**

Нагадаем, 7 жніўня прайшлі ператрусы ў офісах TUT.BY і БелаПАН. Была ўзбуджаная крымінальная справа за несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі БЕЛТА. Адным з затрыманых па справе апынуўся журналіст TUT.BY Дзмітрый Бобрык.

«Спачатку мне паабяцалі раскрыць дэталі асабістага жыцця, калі адмоўлюся ад супрацоўніцтва. А скончылася пагрозамі на адрас родных, якія могуць пацярпець. Тут мяне закалаціла, мне пагражалі самым важным у жыцці. Я напісаў паперу аб супрацоўніцтве», — распавёў журналіст пра падзеі 7 жніўня.

Паводле яго слоў, у яго «хапіла сіл па факце не рабіць гэтага». «Не ведаю, якія выпрабаванні мяне чакаюць наперадзе, і не ведаю, ці хопіць мне сіл усё гэта вытрымаць, але маўчаць пра гэта я ўжо не магу. Баюся, што далей будзе аказвацца ціск на маіх родных, блізкіх, сяброў», — напісаў журналіст.

Але ў гэтым скандальным выпадку гісторык і архівіст Зміцер Дрозд знайшоў зусім іншы кантэкст — тое, чаму ўлада да гэтага часу не раскрывае архівы КДБ часоў сталінскіх рэпрэсій.

«Чытаю сам новыя агучаныя факты вярбоўкі — на гэты раз нават не актывістаў або палітыкаў, а журналістаў — і разумею, наколькі актуальнай тэмай я займаюся: савецкія рэпрэсіі і доступ да архіваў, — напісаў Зміцер Дрозд у Фэйсбуку. — Вы думаеце, што КДБ, зачыняючы доступ да архіваў, баіцца таго, што нехта раптам даведаецца, што хтосьці на кагосьці настучаў у 30-х ці працаваў катам? Ды пляваць ім на гэта».

Адзіная і самая вялікая таямніца ў архівах КДБ і тое, што яны ахоўваюць, — гэта метады працы, лічыць гісторык.

«Тыя, хто там працаваў у 30-х, ужо даўно мёртвыя, калі хтосьці і жывы, то яму павінна быць гадоў 100. Бывае і такое. Але вось метады — запалохванне, шантаж, «ломка», вярбоўка, падман, падкуп — усё гэта засталося. І тут зусім нічога новага не прыдумаеш».

Зміцер Дрозд адзначае, што з'явілася больш магчымасцяў кантраляваць кожнага чалавека — усё яго інтымнае жыццё, а значыць, і магчымасці шантажу пашырыліся: апублікуем фота, відэа, размовы па тэлефоне, перапіску.


Дзмітрый Бобрык

«Але гэта мала змяняе саму сутнасць працы спецслужбаў. Таму дакументы з 30-х — гэта не толькі пра іх жыццё, гэта і пра наша жыццё, мінулае, сучаснасць і будучыню — калі «савок» не будзе знішчаны. Чалавек па-ранейшаму — нуль. Сістэма — усё. Псіхалогія следчага або чэкіста засталася зусім той жа. А вось мы часта да гэтага не гатовыя. Але нам трэба ведаць і памятаць, што нават у 30-х гадах, калі чалавека маглі катаваць паяльнай лямпай, пасадзіць на кол, крыжаваць на прэнгу, зламаліся не ўсе», — напісаў Зміцер Дрозд.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Начное «паляванне на Зянона»

**Кніга Зянона Пазьняка «Цяжкі Час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня» на мінулых выхадных карысталася вялікай папулярнасцю сярод беларускіх памежнікаў. Праваабаронцам сталі вядомыя некалькі выпадкаў выняцця кніг і накіравання іх на экспертызу.**

Актывістка з Мінску Наталля Саматыя вярталася ў нядзелю з Украіны рэйсавым аўтобусам. Прайшла пашпартны кантроль на пераходзе «Новая Гута», дзе падчас мытнага дагляду асабістых рэчаў у яе забралі другі том кнігі Зянона Пазняка «Цяжкі Час… », каб даследаваць на прадмет наяўнасці ў ёй прыкметаў экстрэмізму.

Як напісала Саматыя ў Фэйсбуку, яе трымалі на мытні амаль тры гадзіны, спачатку ў кабінетах, і да 24.00 на вуліцы, каб знайсці транспарт і адправіць дахаты. «Склалі акты. Копіі гэтых дакументаў падалі. Тут пачула фразу ад больш высокага чыну, чым галоўны інспектар Аляксей Леська, які займаўся афармленнем. Прыблізна так: «Сёння такія выпадкі ўжо былі не раз. Наклад кнігі 1000 асобнікаў. Рыхтуйся. Усе яны скіруюцца да нас». Урэшце спынілі аўто на Мінск. Маладыя хлопец з дзяўчынай ласкава падвезлі мяне да Уручча, выклікалі таксі. Дома была ў 5 раніцы».

Тым жа днём на памежным пераходзе «Новая Гута» затрымалі грамадскага актывіста Віктара Кулака. Ён кіраваўся дадому на аўтамабілі пасля паездкі ў Чарнігаў. Актывіст распавёў «Радыё Свабода» абставіны.

Падчас агляду аўтамабіля кнігай зацікавіўся мытнік, пагартаў і сышоў, а потым прыйшлі адразу 6 супрацоўнікаў мытні і памежнікаў. «Яны забралі кнігу і пачалі на яе складаць розныя дакументы. У выніку мне ўручылі тры паперы, сярод іх акт агляду кнігі і паведамленне аб забранні кнігі з накіраваннем яе на экспертызу накont прызнання экстрэмісцкай літаратурай. Дакументы падпісаў інспектар мытнай службы Аляксей Пакрэпа. Мне было сказана, што на экспертызу пойдзе 20 дзён», — распавёў Віктар Кулак.

Паводле сведчанняў іншых актывістаў, якія ў той вечар дабіраліся з Чарнігава аўтобусам, некатарым мытнікі дазволілі правезці кнігу ў Беларусь. Прынамсі, пра такі выпадак праваабаронцам распавёў Леанід Кулакоў.

Варта зазначыць, што кніга Пазняка «Цяжкі час» («Канцэпцыя новага беларускага Адраджэньня», частка 2) у 2015 годзе ўжо правяралі на «экстрэмізм», забраўшы на мяжы ў Паўла Севярынца. Прыкметаў экстрэмізму ў кнізе тады не знайшлі і вярнулі яе ўласніку.

**spring96.org**

# Пратаколы за 9 верасня

НЧ

**Абаронцы Курапат Дзяніс Івашын, Вольга Нікалайчык, Аляксей Марачкін, Валер Мазынскі, Віталь Рымашэўскі, Алена Талстая, Ганна Шапуцька, Тацццяна Севярынец атрымалі пратаколы па пошце.**

«За 9 верасня за масавы сход у Курапатах — адміністратыўны пратакол, Бараўлянскі РАУС», — напісала ў фэйсбуку 25 верасня Вольга Нікалайчык.

«Сябры, каму прыйшлі пратаколы за ўдзел у Курапацкай варце 9.09.2018, паведамляйце ў каментарах, — звярнулася да сваіх падпісантаў 26 верасня Ганна Шапуцька. — Пакуль мы ведаем, што пратаколы (калі гэтыя паперкі так можна назваць) па пошце атрымалі Івашын Дзяніс, Нікалайчык Вольга, Марачкін Аляксей, Мазынскі Валер, Рымашэўскі Віталь, Талстая Алена, Шапуцька Ганна...»

Удзельнікаў сходу хочуць прыцягнуць да адказнасці па артыкуле 23.34 (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў).

9 верасня ў Курапатах прайшоў мірны сход, удзельнікі якога выказалі пратэст супраць рэстарана «Поедем, поедим», збіралі подпісы за яго закрыццё і запісваліся на варту.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Магія лічбаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На гэтым тыдні адзін брытанскі матэматык заявіў, што знайшоў пацверджанне «гіпотэзы Рымана», — адной з «загадак тысячагоддзя», прынцыпу размеркавання простых лічбаў, якія дзеляцца толькі на адзінку і на саміх сябе. Трэба запрасіць гэтага чалавека ў Беларусь, каб ён хаця б паспрабаваў навучыць матэматыцы і логіцы нашых чыноўнікаў.**



Фота www.rozhkovmedium.com

У той час, калі матэматыкі ламаюць галовы над новымі формуламі, Міністэрства фінансаў Беларусі падрыхтавала праект бюджэту на 2019 год. Раздзел па выдатках на пагашэнне дзярждоўгу папросту ўражвае. Паводле разлікаў чыноўнікаў, за 2019 год выдаткі краіны на пагашэнне і абслугоўванне дзярждоўгу дасягнуць 8,7 мільярда рублёў. З гэтай сумы на пагашэнне асноўнага доўгу пойдзе 5,7 мільярда рублёў, абслугоўванне працэнтаў — 3 мільярды.

У праект бюджэту Мінфін заклаў курс долара на ўзроўні 2,2160 рубля за долар. Такім чынам, у пераліку на валюту выдаткі дзяржавы на запазычанасць за 2019 год складуць каля 3,9 мільярда USD.

Пры гэтым сукупныя даходы рэспубліканскага бюджэту чакаюцца на ўзроўні 23,5 мільярда рублёў, выдаткі — 21,8 мільярда.

Шляхам немудрагелістых падлікаў мы высвятляем, што, калі б у нас не было знешніх крыніц фінансавання (то бок новых крэдытаў), выдаткі на дзярждоўг занялі б 40% усіх выдаткаў бюджэту!

Грошы нам неабходныя — але яны неабходныя ўсім. Нам, як высвятляецца, яны неабходныя крытычна і тэрмінова. Таму Лукашэнка ў Сочы так і насядаў на Пуціна наконт крэдыту ў мільярд долараў. Для Беларусі крытычна важна аптымізаваць графік запазычанняў, каб у выніку краіна не прыйшла да дэфолту.

Як казаў той жа Лукашэнка, з Пуціным наконт новага крэдыту яны «паразумеліся». І добра, што гэтыя грошы будуць накіраваныя на рэфінансаванне нашых пазыкаў перад Расіяй — то бок, будуць толькі лічбамі і не трапяць у Сінявокую, а пяройдуць з аднаго маскоўскага банку ў іншы.

Таму што наконт «фізічных» грашовых адзінак вялікія праблемы ў самой Расіі. Валютная «падушка» нашага стратэгічнага партнёра сціснулася да крытычнай адзнакі, паведамляюць расійскія эканамісты. У верасні запасы свабоднай валюты ў расійскіх банках упалі да гістарычнага мінімуму. Гаворка ідзе пра наяўную валюту, альбо актывы, якія пры неабходнасці могуць быць хутка канвертаваныя ў наяўныя сродкі.

З красавіка «валютная падушка» сціснулася на 10 мільярдаў долараў, а астатнія сродкі ледзь пакрываюць усе ўклады насельніцтва (87 мільярдаў долараў). Тым часам з красавіка фізасобы забралі з рахункаў больш за 5 мільярдаў долараў. Яшчэ 13 мільярдаў долараў вывелі юрыдычныя асобы.

Справа ў тым, што народ і інвестары напалоханыя заходнімі санкцыямі, і таму вырашаюць больш не мець справы з банкамі. Грошы «ў панчохах» зараз падаюцца больш надзейнымі: яны, у выпадку чаго, пад санкцыі не падпадуць.

Аб'ём даступных банкам сродкаў «дазваляе пакрыць абавязацельствы перад фізічнымі асобамі ў валюце на 97%, калі не будзе панікі, і кліенты не будуць масава выводзіць валюту з банкаўскай сістэмы», — кажуць расійскія эканамісты. То-бок, 3% расійскіх укладчыкаў ужо могуць мець складанасці са сваімі банкаўскімі рахункамі. А калі паніка будзе?

Так што атрымліваць знешняе фінансаванне (нават ад Расіі) нам будзе ўсё цяжэй і цяжэй — асабліва на фоне адмовы ад перамоваў з МВФ наконт чарговага крэдыту. А выплаты па дзярждоўгу будуць расці і расці.

Канешне, крэдыты — не адзіны спосаб прыцягнення грошай у беларускую эканоміку. Ёсць яшчэ і інвестары. Але нашая ўлада падклала гэтым інвестарам такую свінню, што пасля яе звязвацца з намі будуць хіба толькі для «адмывання грошай».

Размова ідзе пра знос будынкаў дзвюх рэстарацый — «KFC» і «Burger King» ля метро «Каменная горка» ў Мінску. Зразумела, што гэтыя сеткі фаст-фуду — не апошнія гульцы на сусветным рынку з вялікімі грашыма. Але Мінгарвыканкам вырашыў, што пры будаўніцтве гэтых аб'ектаў грамхарчу некалькі гадоў таму памыліліся работнікі Мінгарвыканкаму.

Патэнцыйная шкода інвестару — 4,5 мільёна долараў. Падаецца, калі гэта памылка чыноўнікаў — улада і павінна адказваць за гэтыя памылкі. Але не — кампенсаваць страты ніхто не збіраецца.

Пасля такога пра інвестыцыйны клімат трэба маўчаць. Паглядзеўшы на нашы «прыватызацыйныя кейсы» — як дзяржава «кідала» інвестараў пачынаючы ад «Балтыкі» і заканчваючы «KFC» і «Burger King», да нас пойдзе альбо вельмі «таксічны» капітал (чытай — адмыванне грошай), альбо толькі той, які не разбіраецца ў беларускіх рэаліях. Хаця не разбіраецца ў беларускіх рэаліях пасля такога наўрад ці хто будзе.

І яшчэ адна цікавая навіна ад Мінбудархітэктуры. Падаецца, у нас зноў з'явіцца аналаг «хрушчовак». Міністр архітэктуры і будаўніцтва Дзмітрый Мікулёнак, каментуючы праект стратэгіі развіцця будаўнічай галіны Беларусі да 2025 года, паведаміў, што чыноўнікі «маюць намер» прапанаваць планіроўкі кватэр (такая задача ўжо стаіць), якія будуць «аптымізаваныя» ў параўнанні з тым, што цяпер ёсць на рынку, — мінімум на 10–15% паменшыць плошчу аднапакаёвых, двухпакаёвых, трохпакаёвых кватэр. Маўляў, гэта знізіць кошт самой кватэры, што зробіць яе больш даступнай для людзей.

Пры гэтым Мікулёнак, адказваючы на пытанне аб прагнозе па сярэдняй цане квадратнага метра, заявіў, што яго кошт будзе трымацца ў дыяпазоне сярэдняй зарплаты, «як гэта назіраецца цяпер».

Падаецца, гэта ўсё, што трэба ведаць пра беларускіх чыноўнікаў і Мінбудархітэктуры. Сярэдні заробак у Беларусі за жнівень 2018 года склаў 987,5 рублёў — паводле дадзеных Белстата, якія (пра што мы неадназарова казалі) далёкія ад рэаліяў. Паводле дадзеных Realt.by, па такім кошце на ўмовах 100-працэнтнай аплаты можна набыць кватэру толькі ў Бабруйску. Нават у абласных цэнтрах кошт «квадрату» складае ад 1188 рублёў, не кажучы ўжо пра Мінск. І нават у аграгарадку Калодзішчы за 10 кіламетраў ад сталіцы кошт жылля — ад 1650 рублёў за квадрат.

Нашы чыноўнікі жывуць у сваёй, паралельнай рэальнасці, якая не мае анічога агульнага з нармальным ходам жыцця. Таму і не дзіўна, што яны ўвесь час памыляюцца, а потым гэтыя памылкі вылазяць бокам не толькі інвестарам, але і краіне ў цэлым.

І, можа, нават запрашэнне замежнага матэматыка ў якасці настаўніка ім не дапаможа.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Васіль Палякоў

**Палітык з Гомеля добраахвотна сышоў з пасады старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Ён прабыў на пасадзе старшыні ўсяго два месяцы.**



Васіль Палякоў быў абраны старшынёй АГП 8 ліпеня 2018 года, змяніўшы на пасадзе Анатоля Лябедзьку.

«Па заканчэнні двух месяцаў пасля з'езду абраны старшыня зрабіў заяву пра тое, што не ў поўнай ступені ўяўляў сабе наяўныя ў партыі праблемы і тыя новыя выклікі, якія стаяць перад партыяй і перад ім як старшынёй. Сітуацыю пагоршыла немагчымасць яго пераезду з Гомеля ў Мінск. 23 верасня ён звярнуўся да Палітрады партыі з заявай аб складанні паўнамоцтваў старшыні АГП. Палітрада АГП прыняў адстаўку Васіля Палякова», — паведаміла прэс-служба АГП.

Васілю Палякову 49 гадоў. Родам з Гусараўкі Рэчыцкага раёна, там вучыўся ў школе. Потым паступіў у Гомельскі ўніверсітэт на гістарычны факультэт. Скончыў аспірантуру па спецыяльнасці «Палітычная навука». Дванаццаць гадоў адпрацаваў настаўнікам у школе, потым пайшоў у грамадскую дзейнасць. Палякоў — адзін з лідараў дэмакратычнай грамадскасці Гомеля.

Выконваючым абавязкі старшыні стаў былы супрацоўнік МУС Мікалай Казлоў.

## Анатоль Капскі

**22 верасня стала вядома пра смерць старшыні праўлення БАТЭ Анатоля Капскага. Менеджару было 52 гады.**



Капскага па праве называюць лепшым спартовым менеджарам Беларусі. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (цяпер БДЭУ) па спецыяльнасці «эканаміст» (1987) і Акадэмію кіравання (2007). З 1990 па 1995 год быў фінансавым дырэктарам прадпрыемства «Полымя», якое займалася аўтабізнесам. З сярэдзіны 1995 годзе Капскі ўзначаліў кампанію «Сталкер», праз якую прадаваў камплектуючыя на БАТЭ. Пазней «Сталкер» стаў адным з дылераў прадукцыі завода. У лепшыя месяцы прадпрыемства прадавала да 450 аўтамабіляў: МАЗы, Камазы, ГАЗы, УАЗы і іншую тэхніку.

У 1996-м было вырашана аднаўляць завадскую каманду БАТЭ. Кіраўніком клуба стаў Анатоль Капскі, а галоўным спонсарам — яго прадпрыемства «Сталкер». У тым жа годзе партнёры Капскага па «Сталкеры» выказалі незадаволенасць, што прадпрыемства выдаткоўвае на футбол больш за палову даходаў. Капскаму давялося ўлезці ў пазыкі, каб выкупіць частку акцый прадпрыемства ў гэтых кампаньёнаў.

Быў гендырэктарам заводу БАТЭ, добраахвотна сышоў з выканкаму АБФФ і шмат крытыкаваў работу галоўнага органа федэрацыі, называючы яго чальцоў няздарамі, ідыётамі. І шмат зрабіў для айчыннага футбола.

Рак у Капскага выявілі яшчэ ў 20-гадовым узросце. У 1999 годзе здарыўся рэцыдыў захворвання. У студзені 2013-га ў Вільні перанёс найскладанейшую аперацыю на сэрцы, пасля якой знаходзіўся ў трохдзённай коме. У 2014 годзе, па версіі «Ежедневніка», стаў самым паспяховым бізнесменам Мінскай вобласці.

## Міхаіл Бабіч

**Лукашэнка прыняў даверчую грамату ў новапрызначанага расійскага пасла.**



Лукашэнка выказаў надзею, што новы пасол Расіі ў Мінску надасць новы імпульс развіццю супрацоўніцтва дзвюх краін. «Вельмі разлічваю, што новы расійскі пасол зробіць усё, што ад яго залежыць, каб прымножыць ужо дасягнутае, надасць новы імпульс узаемадзеянню ва ўсіх сферах. Перакананы, што ў вас, Міхаіл Віктаравіч, маюцца для гэтага неабходныя магчымасці і, як мне Пуцін сказаў, найшырэйшыя паўнамоцтвы», — сказаў Лукашэнка, прымаючы даверчыя граматы.

Бабіч перад цырымоніяй уручэння даверчых грамат заявіў журналістам, што гатовы рабіць усё, каб адносіны паміж дзвюма краінамі былі па-сапраўднаму братэрскімі.

Бабіч змяніў на пасадзе пасла ў Беларусі Аляксандра Сурыкава, які ўзначальваў расійскую дыпмісію ў Мінску каля 12 гадоў. Пры гэтым Уладзімір Пуцін надзяліў Бабіча статусам спецпрадстаўніка па развіцці гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Раней Бабіча з-за яго ранейшай кар'еры ў спецслужбах Расіі адмовілася прымаць Украіна.

# Як рэфармаваць беларускія рэгіёны

Рыгор АСТАПЕНЯ, Антон РАДНЯНКОЎ

**Беларускія рэгіёны выміраюць і губляюць эканамічны патэнцыял. Што з гэтым рабіць?**



Фота Уладзіміра Цвіркі

### Галоўныя праблемы

За апошнія 20 гадоў Беларусь страціла амаль мільён жыхароў. Але гэтыя змены адбываліся непрапарцыйна — Мінск, абласныя цэнтры ды іншыя вялікія гарады раслі, у той час як вёскі і гарады, дзе жывуць менш за 50 тысяч чалавек, пусцелі. Іх жыхары не толькі вымiралі, але і з'язджалі туды, дзе ёсць большыя эканамічныя перспектывы.

Паводле Міністэрства эканомікі, да 2032-га года 77 са 118 раёнаў Беларусі не будуць мець устойлівай колькасці жыхароў (гэта значыць, што ў іх будзе жыць менш за 20 тысяч чалавек).

Разам са стратай людзей вобласці губляюць сваё значэнне для эканомікі, і, адпаведна, расце роля Мінска. У 2016 годзе доля сталіцы ў ВУП дасягнула 27 працэнтаў і працягвае расці. Пры гэтым развіццё Мінска выглядае для рэгіёнаў заганным колам: інвестыцыі ідуць у Мінск, бо тут найлепшы рынак збыту, і яны яшчэ больш узмацняюць сталічную эканоміку, таму і наступныя інвестыцыі трапляюць акурат у Мінск. Не дзіва, што інавацыі ў Беларусі развіваюцца перадусім у сталіцы.

У той жа час беларускія рэгіёны жывуць са «старой эканомікай», якая мае меншы сектар паслугаў і абапіраецца на дзяржаўную прамысловасць, якая найбольш страціла ў часе крызісу. Таму жыхары Мінска страчваюць у заробку больш павольна і сёння зарабляюць у паўтара разы больш, чым ва ўсёй Беларусі, а сярэднедушавыя прыбыткі адрозніваюцца амаль у два разы.

У Беларусі ёсць дастаткова дэпрэсіўных раённых цэнтраў, у якіх пражывае некалькі тысяч чалавек і дзе вельмі цяжка знайсці працу. Адсутнасць жа годных сацыяльных выплатаў па беспрацоўі прыводзіць да таго, што людзі трапляюць ніжэй за ўзровень малазабяспечанасці (у сярэднім каля $ 90 на месяц). Агулам жа шанцы быць малазабяспечаным ва ўсёй астатняй Беларусі ў чатыры разы вышэй, чым у Мінску.

Даволі прадказальна, што па-за сталіцай якасць сацыяльных паслуг ніжэйшая, чым у Мінску. На жыхароў сталіцы прыпадае ў паўтара разы больш лекараў і крыху больш сярэдняга медыцынскага персаналу.

Іншы прыклад — гэта доступ да вышэйшай адукацыі. У Мінску знаходзяцца 28 (з 51) беларускіх універсітэтаў. Колькасць дактароў альбо ВНУ — гэта ўсяго толькі часткі пазла, паколькі насамрэч многія сацыяльныя паслугі па-за Мінскам горшыя, чым у сярэднім па ўсёй Беларусі.

Магчыма, найвялікшай праблемай беларускіх рэгіёнаў з'яўляецца некампетэнтнасць уладаў. Мясцовыя чыноўнікі раз-пораз трапляюць пад абвінавачванні ў карупцыі, а стан рэгіёнаў паказвае, што іх прафесійнасць можа выклікаць пэўныя пытанні. Адсутнасць выбараў вядзе да таго, што чыноўнікі ніякім чынам не залежаць ад жыхароў сваіх раёнаў, таму фактычна не абавязаныя адстойваць іх інтарэсы.

Беларускае заканадаўства абмінае панятак «рэгіянальнае развіццё», а ўлады не ствараюць рэгіянальных праграмаў развіцця, апроч тых, якія складаюцца разам з заходнімі экспертамі на сродкі ЕС ці ПРААН. Аднак гэтыя праграмы «пішуцца ў шуфляду» і на практыцы не выкарыстоўваюцца. Болей за тое, на думку адмыслоўцаў, яны выглядаюць як школьныя рэфераты.

Галоўны мінус сённяшняй палітыкі развіцця рэгіёнаў — занадта вялікая цэнтралізацыя, калі ў Мінску вырашаюць, як якому рэгіёну жыць. У выніку мясцовыя ўлады замест таго, каб думаць, як развіваць рэгіён, хвалююцца толькі за выкананне паказнікаў, якія ім даюцца зверху. Не трэба падманвацца — неэфектыўная сістэма кіравання ўласцівая і Мінску, і іншым буйным гарадам. Там яна проста хаваецца за вялікім рынкам, прыватным сектарам і тлустымі бюджэтамі.

Неабходна больш актыўна выкарыстоўваць bottom-up падыход, калі на мясцовым узроўні будуць прымацца асноўныя рашэнні. Каб гэта паспяхова запрацавала, беларускім рэгіёнам патрэбны шырокі ўдзел грамадскасці ў вырашэнні мясцовых праблемаў, празрыстасць прыняцця рашэнняў і большая эканамічная аўтаномія. Нацыянальныя ўлады ў гэтым працэсе павінны толькі дапамагаць, запрашаючы да супрацы экспертаў, а не дасылаць дадатковыя бессэнсоўныя паказнікі.

Інвестыцыі ў рэгіёны скарачаюцца шалёнымі тэмпамі — толькі за мінулы год у рэгіёны інвеставалі на 25 працэнтаў менш, і гэты паказнік значна ніжэйшы за парог эканамічнай бяспекі. У сітуацыі, калі інфраструктура рэгіёнаў дэградуе, а бюджэту не хапае нават на падтрыманне актуальных выдаткаў, мроі пра выратаванне ўсіх — гэта проста самагубства.

Ёсць у гэтым і нешта пазітыўнае, бо мы добра памятаем, чым скончылася татальная мадэрнізацыя дрэваапрацоўкі ці цэментных заводаў дзяржаўнымі менеджарамі. У дрэваапрацоўцы па выніках 2016-га запазычанасць у 2,5 раза большая за гадавы аб'ём выручкі (агулам больш за $ 2,7 мільярда і працягвае расці!), загружанасць была толькі 60%, а рэнтабельнасць — ажно 1%. Відавочна, прадпрыемствам-удзельнікам яшчэ доўга давядзецца адыходзіць ад такога поспеху.

Але розныя рэгіёны маюць розную дынаміку, і трэба канцэнтравацца на найлепшых. Напрыклад, добрую дынаміку паказваюць абласныя цэнтры, рэгіянальныя агламерацыі — Полацк і Наваполацк, Мазыр і Калінкавічы. У іх адбываецца прырост насельніцтва, застаецца моладзь і расце прыватны бізнес.

Такім рэгіёнам і патрэбныя ўласныя стратэгіі развіцця, супольныя інфраструктурныя праекты.

**Найвялікшай праблемай беларускіх рэгіёнаў з'яўляецца некампетэнтнасць уладаў. Мясцовыя чыноўнікі раз-пораз трапляюць пад абвінавачванні ў карупцыі, а стан рэгіёнаў паказвае, што іх прафесійнасць можа выклікаць пэўныя пытанні**

### Што трэба рабіць

Беларускія рэгіёны знаходзяцца ў такім стане, што ніякая цудоўная пілюля не ў стане іх адразу вылечыць. Але ёсць шмат рэчаў, якія дзяржава магла б зрабіць. Калі коратка, на месца вертыкальнай палітыкі цэнтральных уладаў павінна прыйсці гарызантальная палітыка рэгіянальных суб'ектаў.

Па-першае, нашым рэгіёнам патрэбнае сапраўднае мясцовае самакіраванне. Бо калі чыноўнікі, якія кіруюць рэгіёнам, залежаць ад вышэйшага начальства, а не ад грамадзянаў, то яны для грамадзянаў асабліва і не стараюцца. У рэгіёнах павінна ўзнікнуць моцная грамадзянская супольнасць. Шырокі ўдзел грамадскасці ў вырашэнні мясцовых праблем толькі павялічыў бы якасць рэгіянальных стратэгіяў і палепшыў бы працу падсправаздачных мясцовых уладаў.

Па-другое, дэцэнтралізацыя можа быць не толькі арганізацыйнай, але і фізічнай.

Напрыклад, у Германіі Цэнтрабанк знаходзіцца ў Франкфурце-на-Майне, у Чэхіі ўсе найвышэйшыя суды вынесеныя за Прагу. Болей за тое, заходнія краіны размяшчаюць у рэгіёнах міжнародныя агенцтвы — штаб Інтэрпола пераехаў з Парыжа ў Ліён яшчэ ў 1989 годзе. У Беларусі ж усё сканцэнтравана ў сталіцы, і гэта павінна змяніцца.

Органы, якія абавязаныя праводзіць незалежную палітыку, могуць пакінуць Мінск хоць заўтра — гаворка пра такія ўстановы, як Нацыянальны банк, Вярхоўны і Канстытуцыйны суды. Гэткая дэцэнтралізацыя дзяржаўных органаў стане штуршком развіцця рэгіёнаў, знізіць выдаткі бюджэту і палепшыць якасць дзяржаўнага кіравання.

За органамі кіравання ў рэгіёны павінна пераехаць добрая частка ўніверсітэтаў. Гэта няправільна, калі ў адным горадзе сканцэнтравана больш за палову ўсіх ВНУ.

Дэцэнтралізацыя затрымае моладзь у рэгіёнах лепш за прымусовае размеркаванне. Болей за тое, развудова ўніверсітэтаў падтрымае якасць чалавечага капіталу, без якога немагчымы эканамічны рост ці прыход буйных інвестыцыяў. Сёння ў Мінску 43 працэнты працаўнікоў маюць вышэйшую адукацыю, а па-за сталіцай — у два разы менш.

Па-трэцяе, рэгіёнам трэба эфектыўнае бюджэтнае кіраванне і ўдасканальванне стымулаў.

Мясцовыя бюджэты моцна залежаць ад трансфертаў з рэспубліканскага бюджэту і фармуюцца паводле стратнага прынцыпу. Чым больш ты выдаткаваў у мінулым годзе, тым больш можаш запрасіць сродкаў у гэтым, а эфектыўнасць і эканомія будуць толькі змяншаць твой бюджэт. Не дзіва, што кіраўніцтва пры такой сістэме заўсёды імкнецца раздзьмуць выдаткі.

Палепшыць сітуацыю магла б змена сістэмы размеркавання падаткаў. Лепш было б, калі б не ўсё браў сабе цэнтр дзеля пазнейшага размеркавання праз трансферты, а большая частка падаткаў (напрыклад, падатак на маёмасць) адразу ішла б у мясцовыя бюджэты.

Па-чацвёртае, трэба дыверсіфікаваць рэгіянальную эканоміку.

Немагчыма павысіць канкурэнтаздольнасць рэгіёнаў, калі ў іх няма канкурэнцыі. Тут трэба абапірацца на прыватны бізнес і ствараць умовы для роўнага функцыянавання розных прадпрыемстваў. Падаткі ад бізнесоўцаў павінны трапляць у мясцовы бюджэт, каб мясцовыя ўлады мелі стымул пашыраць падатковую базу.

Кожнаму рэгіёну варта вызначыцца з 1–2 прыярытэтнымі накірункамі развіцця, а накірункі розных вобласцяў варта ўзгадніць паміж сабой на нацыянальным узроўні. У свеце гэты падыход называецца «разумнымі спецыялізацыямі» (Smart Specialisation) — ён дапамагае пазбегнуць дублявання рэгіянальных стратэгіяў развіцця ды празмернай канкурэнцыі паміж суседнімі рэгіёнамі.

Пры гэтым выбар спецыялізацыі павінен грунтавацца на ўважлівай ацэнцы існых ініцыятыў і зацікаўлены бакоў у рэгіёне, уцягванні з розных сектараў як мага большай колькасці актараў у інавацыйны цыкл. Добрым прыкладам з'яўляецца Ніжнесілезскае ваяводства Польшчы. Традыцыйна прамысловы рэгіён з развітай горназдабываючай прамысловасцю апошнімі гадамі перанакіроўваецца на бія- і нанатэхналогіі, а таксама на транспартную мабільнасць.

Калі кошт выбару пэўнага накірунку робіцца надзвычай вялікім, прынята распрацоўваць некалькі сцэнараў развіцця падзей. Такія сцэнары паказваюць, якія вынікі прынясе выбар таго ці іншага прыярытэту, як вынікі будуць змяняцца ў адпаведнасці з хуткасцю рэалізацыі захадаў, агульнай сітуацыяй у эканоміцы краіны ды колькасцю даступных сродкаў. Адначасова для ўладаў было б больш відавочна, што без рэальнага развіцця малога і сярэдняга бізнесу, без прыватызацыі немагчыма рэалізаваць жыццяздольную стратэгію.

Па-пятае, улады павінны вырашыць агульнарэспубліканскія праблемы.

Але без рэструктурызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў сістэма кіравання, як і якасць жыцця, будзе заставацца на нізкім узроўні. Відавочна, што прыватызацыя і прыватны сектар застаюцца галоўнай надзеяй — узровень жыцця вышэйшы ў тых беларускіх рэгіёнах, дзе прыватны сектар найбольшы.

Разам з рэформамі прадпрыемстваў улады павінны пачаць па-сапраўднаму падтрымліваць малазабяспечаных і беспрацоўных. Большасць з іх знаходзіцца акурат па-за сталіцай і стала ахвярай няправільнай палітыкі ўрада. Наўрад ці ўлады могуць кампенсаваць гэтым людзям свае памылкі, але яны павінны пачаць нарэшце рэфармаваць рэгіёны.

**Паводле сайту ideaby.org**

# «Я да сёння адчуваю сябе членам сям'і ворагаў народа»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У сям'і Ігара Станкевіча 20 чалавек зведалі сталінскія рэпрэсіі ў 1937–1938 гадах, восем з іх былі расстраляныя ў Оршы. Праз даследаванне сямейнай трагедыі мужчына прыйшоў да стварэння мемарыялу ў аколіцы Кабылякаў — «аршанскіх Курапатах».**

Мемарыяльны камень у Кабыляках паставілі ў 1990 годзе.


Фота www.svaboda.org

**Здаралася, чалавека арыштоўвалі, расстрэльвалі, і толькі праз некалькі дзён заводзілі дакументы з яго прызнальнымі паказаннямі. 96% былі расстраляныя ў пазасудовым парадку**

### Пра рэпрэсіі не казалі

У Прэс-клубе Беларусі Ігар Станкевіч прадставіў вынікі свайго даследавання аб рэпрэсіях на Аршаншчыне.

— У мяне дома быў альбом са старымі здымкамі, і маці ніколі не магла распавесці, хто на іх. Толькі пра маіх прадзеда і прабабку неяк расказала, што яны нібыта былі расстраляныя, а за што і калі — не ведала. Гэта хавалі ў сям'і, — падзяліўся з «Новым Часам» даследчык. — Але ў нас была сваячка, цяпер ёй 94 гады, і яна пачала распавядаць, што гэтага расстралялі, гэтага расстралялі... Але за што і калі — таксама невядома. Калі з'явіўся інтэрнэт, я знайшоў у базе «Мемарыяла» прозвішчы сваіх прадзеда і прабабкі, потым там аказаліся яшчэ некалькі імёнаў сваякоў.


Ігар Станкевіч

У 2015 годзе Ігар звярнуўся ў архіў Свярдлоўскай вобласці, на які была спасылка ў адной са справаў брата прабабкі Антона Каменскага, якога арыштоўвалі некалькі разоў. І ў архіве знайшліся справы на Антона і яго стрыечнага брата Мікалая. Сярод папер быў і пратакол допыту Антона, дзе ён пералічваў усіх сваякоў. Ігар пачаў шукаць іх і высветліў, што амаль усе яны былі расстраляныя за шпіянаж на карысць Польшчы, у тым ліку і жанчыны.

Тады ж мужчына даведаўся пра Кабылякі — адно з найбуйнейшых месцаў аршанскіх расстрэлаў. Ігар Станкевіч не ведае, ці тут палеглі яго продкі, але вырашыў, што хоча пакінуць тут знак у памяць пра іх. Павесіў мемарыяльныя шыльды, да яго далучыліся іншыя сваякі рэпрэсаваных, і такім чынам у Кабыляках стаў шырыцца народны мемарыял, які паўстаў тут у 1990-х гадах.

### Ад калгасніка да старшыні райвыканкама

У 1982 годзе, яшчэ да адкрыцця Курапатаў у Мінску, пры пракладцы чыгункі пад Оршай была знойдзена расстрэльная магіла на 50 чалавек. Афіцыйная камісія ўстанавіла, што гэта былі даваенныя расстрэлы НКУС. Створаная яшчэ ў 1990-х база рэпрэсаваных змяшчае 1738 імёнаў людзей, расстраляных пад Оршай.

Паводле нацыянальнага складу большасць з іх (1128 чалавек) былі беларусамі, другая група — палякі (503 чалавекі). І гэта афіцыйныя звесткі ў «русіфікаваным» рэгіёне — цікава, што на гэта скажа кіраўнік дзяржавы, згодна з выказваннем якога, за часы сталінскіх рэпрэсій у Беларусі не забілі ніводнага паляка?

94% расстраляных складалі мужчыны, узрост ад 30 да 60 гадоў. Найбольш распаўсюджаныя заняткі — калгаснікі, рабочыя, аднаасобнікі. Але некаторыя прафесіі выбіваюцца са спісу, напрыклад, вартаўнікі (37 чалавек), хатнія гаспадыні (сярод якіх прабабуля Ігара Станкевіча), 37 настаўнікаў, кіраўнікі прадпрыемстваў (38 чалавек), кіраўнікі сярэдняга звяна (22 чалавекі), вялікая група святароў (з 20 чалавек 18 былі праваслаўныя, адзін ксёндз, адзін равін). Сярод забітых аказаўся і старшыня Чашніцкага райвыканкама, а таксама сакратар Сенненскага райкама камсамолу.

Удалося аднавіць нават асобныя біяграфіі расстраляных. Напрыклад, ксёндз Адольф Каэтанавіч Кашыц, які служыў у аршанскім касцёле, меў настолькі кепскія фінансавыя справы, што пісаў ліст у польскую дыпмісію з просьбай даслаць грошай на паліто.

Адукацыя ў большасці забітых была пачатковая, незакончаная пачатковая, альбо яе ўвогуле не было. Але нкусаўскія каты не задумваліся пра тое, што непісьменныя людзі не справяцца з абавязкамі польскіх шпіёнаў...

Асноўная маса расстраляных жыла ў Оршы, наступнымі ішлі Сенненскі, Лепельскі, Ушацкі, Бягомльскі, Заслаўскі і Барысаўскі раёны. Цікава, што з адной вёскі звычайна пад рэпрэсіі траплялі некалькі чалавек, але выключэнне склалі вёскі Малыя і Вялікія Жаберычы і Радзіца — тут расстралялі ажно 40 чалавек. Аказалася, частка з іх былі забітыя як чальцы банды антыбальшавіцкага змагара Юркі Моніча, бо ў гэтых ваколіцах у 1920-х гадах месцілася яго база. Атрымліваецца, бальшавікі помсцілі людзям, звязаным з ім, хоць прайшло ўжо больш за 10 гадоў.

### Расстрэлы па разнарадках

Адметна, што ўсплёскі арыштаў на Аршаншчыне ў 1937–1938 гадах супадалі з выхадам загадаў аб карных аперацыях НКУС (напрыклад, загад 00447 ад 30 ліпеня 1937 года «Пра рэпрэсаванне былых кулакоў, крымінальнікаў і іншых антысавецкіх элементаў»). Першыя прысуды па згаданым загадзе былі вынесены ўжо ў жніўні 1937 года, а іх пік адбыўся ў лістападзе. Расстрэлы ж пачаліся ў верасні і найбольшай моцы дасягнулі ў лістападзе-снежні 1937-га — студзені 1938 года.

Даследчык савецкіх рэпрэсій 1920–1950-х гадоў Ігар Кузняцоў тлумачыць гэта тым, што чэкісты «закрывалі каляндарны год».

— Гэта значыць, «дабівалі» па разнарадках мінулы год. То-бок, прыходзіла разнарадка «зверху», колькі людзей трэба было расстраляць, а план за 1937 год быў не выкананы — таму такі ўсплёск расстрэлаў быў у студзені. Да таго ж у снежні 1937 года расстрэлы былі прымеркаваныя да выбараў у Вярхоўны савет (тады адбывалася так званая зачыстка ад контррэвалюцыйных элементаў), — патлумачыў гісторык.

Ігар Кузняцоў зачытаў цытату з архіва следчай справы былога начальніка НКУС аб тым, чым павінен быў займацца начальнік аперсектара:

— «Знайсці месца, дзе прысуды будуць прыводзіцца ў выкананне, і месца, дзе закопваць трупы. Калі гэта будзе ў лесе, неабходна загадзя зрэзаць дзёран, і пасля ім пакрыць месца, каб усяляк канспіраваць яго, бо яны (месцы. — НЧ.) могуць стаць месцамі рэлігійнага фанатызму. Апарат ніякім чынам не павінен ведаць ні месца прывядзення ў выкананне прысудаў, ні колькасць выкананых прысудаў, бо ён можа стаць распаўсюднікам гэтых звестак». Вось чаму мы сёння з вялікай цяжкасцю спрабуем адшукаць канцы.

Разнарадкі былі не толькі па колькасці расстраляных, але і па іншых класіфікацыях.

— Напрыклад, у 1938 годзе прыходзіць загад расстраляць пэўную колькасць святароў. А ў начальніка аперсектара быў адзін святар у раёне, ды яго ўжо расстралялі ў 1937-м. Тады ён тэлефануе свайму калегу ў суседні раён і запытваецца, ці ёсць у яго святары. І калі ёсць, іх прысылалі, — прыводзіць рэальны прыклад Ігар Кузняцоў.

У сваім даследаванні Ігар Станкевіч паспрабаваў прааналізаваць, колькі дзён чалавек знаходзіўся ў засценках аршанскага НКУС. І хоць гэтыя лічбы вельмі ўмоўныя, але ў сярэднім атрымаўся 71 дзень. Мінімум з моманту арышту да расстрэлу праходзіла 3 дні, максімум — 332 дні.

— Можна прывесці прыклады, калі чалавека арыштоўвалі, расстрэльвалі, і толькі праз некалькі дзён заводзілі дакументы з яго прызнальнымі паказаннямі, — каментуе Ігар Кузняцоў. — 96% былі расстраляныя ў пазасудовым парадку, і толькі 4% справаў разглядалі ў судзе.

Многіх расстрэльвалі ўвогуле без складання дакументаў, таму правільна казаць, што ў Оршы было расстраляна не менш за 1800 чалавек, а верагодна, што гэтая лічба большая, падсумоўвае гісторык.

Асноўная маса абвінавачанняў — польскі шпіянаж (1046 чалавек), антысавецкая дзейнасць (379), шпіянаж (194). Прычым на аднаго чалавека маглі павесіць некалькі абвінавачванняў.

### У ладам не патрэбная памяць пра рэпрэсіі

— Я да сёння адчуваю сябе членам сям'і ворагаў народа. Бо мне не даюць магчымасці нават сімвалічна пазначыць месца расстрэлу сваіх продкаў, — зазначае Ігар Станкевіч.

Справа ў тым, што ўжо досыць працяглы час нашчадкі расстраляных у Оршы вядуць перамовы з Аршанскім райвыканкамам.

— Мой дзед Маркевіч Аляксей Захаравіч быў расстраляны ў Оршы. Мая бабуля Матруна Маркевіч выткала канву беларускага сцяга, арнамент. Летась мне захацелася даведацца, дзе быў расстраляны мой дзед. Мы прыехалі ў Кабылякі, і мяне ўразіў бруд, які там быў. Мы з цяжкасцю туды дабраліся. Мяне гэта кранула. Я напісала ў Аршанскі райвыканкам. Адказу на першы ліст не атрымала, напісала паўторна. Тады адказалі, што месца расстрэлу не ўсталявана, — падзялілася сваёй гісторыяй спадарыня Дзіна Кацар.


Дзіна Кацар

Яна і яшчэ шэраг аршанскіх актывістаў сталі «бамбіць» райвыканкам лістамі, хадзілі на прыём да тагачаснага старшыні Аляксандра Пазняка, якога ўжо знялі. Нашчадкаў рэпрэсаваных улады запрасілі абмеркаваць тэкст мемарыяльнай шыльды, якую пагадзіліся павесіць у Кабыляках. Актывісты прапанавалі, каб на ёй на чатырох у тыя часы дзяржаўных мовах было напісана: «Памяці ахвяр палітычных рэпрэсій». Але калі атрымалі ўзгоднены тэкст, надпіс на шыльдзе быў зусім іншы: «Месца памяці і смутку». Больш за тое, польскую мову на «дазволеную» шыльдзе замянілі на англійскую, патлумачыўшы гэта тым, што яна больш распаўсюджаная.

— Нас, груба кажучы, падманулі. Мы прасілі адно, а атрымалі іншае. Адзінае, што зрабілі ўлады з гэтым месцам, — прыбралі смецце. Але месца трагедыі так і не пазначылі, — кажа Дзіна Кацар.


Дзеда мастака Міколы Купавы расстралялі пад Оршай яшчэ ў 1919 годзе

Да таго ж невядома, які лёс чакае народны мемарыял у Кабыляках, бо крыжы і памятныя знакі людзі ўсталёўвалі самі, без дазволу мясцовых уладаў.

Пакуль што аршанскія чыноўнікі не пагражалі знесці стыхійны мемарыял. Затое гэтая пагроза ўжо гучала ў іншым нацыянальным некропалі — Курапатах, дзе ўлады рыхтуюцца ўсталяваць афіцыйны помнік.

Фота аўтаркі



Фота «Еўрарадыё»

# Мечыслаў Грыб: бацька няўдалай беларускай дэмакратыі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Ён падпісаў першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі, стаў другім кіраўніком нашай краіны. Ягоны жыццёвы шлях, канешне, не абышоўся без памылак, аднак на асабістым рахунку больш добрых спраў. 25 верасня адсвяткаваў сваё 80-годдзе Мечыслаў Іванавіч Грыб.**

## З міліцыянераў у парламентарыі

Калі ў сакавіку 1990 года ў БССР адбыліся выбары ў Вярхоўны Савета 12-га склікання, то сярод дэпутатаў фігуравала імя Мечыслава Іванавіча Грыба. На той момант Грыб займаў даволі высокую пасаду — начальнік УУС Віцебскага аблвыканкама. Па Віцебскай-Савецкай выбарчай акрузе №178 Грыб змагаўся за дэпутацкі мандат з 11-ю кандыдатамі. Некаторыя супернікі былі даволі моцныя. Напрыклад, рэктар Віцебскага медыцынскага інстытута (цікава, што па гэтай жа акрузе была зарэгістравана кандыдатура непасрэднага падначаленага рэктара — асістэнта адной з кафедраў інстытута).

4 сакавіка 1990 года з 22 314 выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у галасаванні, Грыба падтрымалі 3 791. У другі тур, які адбыўся 14 сакавіка 1990 года, Грыб выйшаў не з вялікім начальнікам, а са сціплым археолагам, супрацоўнікам абласнога аддзялення «Белспецпраектрэстаўрацыя» Ігарам Цішковым, які набраў 3753 галасы. У выніку большасць прагаласавала за Мечыслава Грыба.

## Старшыня камісіі

Калі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання была створана пастаянная камісія па законнасці, правапарадку і барацьбе са злачыннасцю, то лепшай кандыдатуры, чым Грыб, было не знайсці. 7 чэрвеня 1990 года дэпутат Аляксандр Лукашэнка заявіў: ***«В первую очередь мы должны обсудить личность товарища Гриба Мечислава Ивановича. Зная все нюансы, я преклоняюсь перед этим человеком».*** У гэты ж дзень дэпутаты большасцю галасоў зацвердзілі Грыба на пасадзе старшыні камісіі (18 чэрвеня 1991 года камісія была ператворана ў камісію па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю). У склад камісіі ўвайшлі 15 чалавек — прафесіяналы сваёй справы, у тым ліку і былы міністр унутраных спраў Віктар Піскароў.

Камісія Грыба ўдзельнічала ў распрацоўцы, экспертных абмеркаваннях усіх профільных законапраектаў. Так, 26 лютага 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання прыняў закон «Аб міліцыі ў Беларускай ССР». Яго важнасць падкрэслівалася яшчэ і тым, што да гэтага дзейнасць беларускай міліцыі, у тым ліку і ў сферы барацьбы са злачыннасцю, рэгулявалася выключна агульнасаюзным заканадаўствам. З прыняццем гэтага закона ў беларускіх праваахоўнікаў істотна пашырылася поле для манеўру, праявы большай ініцыятывы барацьбы са злачыннасцю, яе прафілактыкы. Закон прымаўся ў абстаноўцы вострых дыскусій, асабліва ў той частцы, дзе гаворка ішла менавіта аб правах міліцыянтаў. Спрэчкі вяліся і пра назву закона. Ужо тады ў Вярхоўным Савеце была прапанавана альтэрнатыўная назва «паліцыя», якая, зрэшты, была адкінутая большасцю парламентарыяў.

24 красавіка 1992 года дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прыступілі да абмеркавання законапраекта «Аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю». У законапраекце ўпершыню былі зробленыя спробы даць комплексныя вызначэнні карупцыі і арганізаванай злачыннасці, размежаваць гэтыя паняцці. З-за рознагалоссяў дэпутатаў гэты законапраект не быў зацверджаны, яго адправілі на дапрацоўку. Супраць законапраекта ў такім выглядзе выступіў непасрэдна Грыб, які назваў законапраект ***«винегретом»,*** зробленым з Крымінальнага кодэкса і Крымінальна-працэсуальнага кодэкса. У некалькі змененым выглядзе гэты законапраект пад назвай «Аб барацьбе з злачыннасцю ў сферы эканомікі і карупцыяй» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў 15 чэрвеня 1993 года.

## Канстытуцыя

Мечыслаў Грыб стаў актыўным чальцом Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета. З ліпеня 1990 года камісія пачала працу над новым праектам Асноўнага Закона. У Нацыянальным архіве захаваліся прапановы Мечыслава Іванавіча. Ён выказваўся за моцную прэзідэнцкую ўладу, аднак супраць таго, каб паўнамоцтвы прэзідэнта ў выпадку непрадбачаных абставінаў пераходзілі да кіраўніка парламента. Грыб быў, бадай, адзіным, хто прапанаваў увесці пасаду віцэ-прэзідэнта.

Калі Мечыслаў Грыб стаў на чале Вярхоўнага Савета, то ўзначаліў і Канстытуцыйную камісію і стаў актыўна прасоўваць ідэю новай Канстытуцыі. На пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 22 лютага 1994 года Грыб ультыматыўна заявіў, што калі парламент не зацвердзіць новую Канстытуцыю, то ён вымушаны будзе пайсці на рэферэндум.

Рэферэндум не спатрэбіўся. Канстытуцыя была зацверджаная Вярхоўным Саветам 15 сакавіка 1994 года. У гэты ж дзень Сяргей Навумчык заявіў, што Канстытуцыя — бомба, якая рана ці позна ўзарве грамадства. І сапраўды: супярэчнасці і недасканаласці новага Асноўнага Закона абумовілі ў краіне рэжым асабістай улады аднаго чалавека амаль на чвэрць стагоддзя.

## Канфлікт з Лукашэнкам

Канфлікт з Лукашэнкам пачаўся, калі той 4 чэрвеня 1993 года заняў пасаду старшыні часовай камісіі парламента па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання. Грыб увогуле выступаў супраць такой камісіі: навошта, калі маецца пастаянная камісія Вярхоўнага Савета.

Канфлікт абвастрыўся, калі Лукашэнка ў спецыяльным дакладзе 14 снежня 1993 года моцна зачапіў малую радзіму Грыба — Гродзеншчыну, назваўшы яе самай карумпаванай. Адмоўную рэакцыю Грыба выклікала тое, што Лукашэнка безапеляцыйна абвінавачваў былога Гродзенскага губернатара Дзмітрыя Арцыменю і яго намесніка Мечыслава Гіруця.

Новы віток меў месца падчас першых прэзідэнцкіх выбараў. 17 мая 1994 года Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю «Беларускай маладзёжнай» і «БелаПАН» заявіў, што Грыб — злодзей і мае кантакты з нейкім Баданавым Амангельды Арэнтабекавічам. Па словах Лукашэнкі, Баданаў ***«вынашивает террористические планы, связан с чеченскими боевиками в Москве, имел контакты с Лисничуком*** (вядомы бізнесмен, былы старшыня Заслаўскага гарвыканкама; забіты ў Мінску ў маі 1993 года. — Аўт.)».

27 мая 1994 года Грыб накіраваў генеральнаму пракурору Васілю Шаладонову заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы. Аднак канфлікт удалося пагасіць. 22 лютага 1995 года Міхаіл Удавікоў — старшыня часовай камісіі па праверцы выкарыстання матэрыялаў апаратыўна-вышуковай дзейнасці ў СМІ — заявіў, што інфармацыя Лукашэнкі ***«была необъективной и мягко говоря, досконально непроверенной».***

Узначаліўшы Вярхоўны Савет, Мечыслаў Грыб прыклаў усе намаганні, каб спыніць дзейнасць камісіі Лукашэнкі. У пачатку красавіка 1994 года Грыб афіцыйна заявіў, што камісія выканала сваю задачу. Гэта выклікала гнеў Лукашэнкі, які патрабаваў не толькі працягнуць дзейнасць камісіі, але надаць ёй пастаянны статус і больш істотныя паўнамоцтвы. На нечарговай чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета ў канцы красавіка 1994 года Лукашэнка заявіў, што ***«Мечислав Иванович погорячился»,*** і заклікаў старшыню Вярхоўнага Савета аднавіць дзейнасць камісіі. Грыб адмовіўся, а Лукашэнка гэта запомніў назаўсёды.



**Знакамітае фота на памяць у апошні дзень сесіі 13 красавіка 1995 года. Разам з Лукашэнкам сфатаграфаваліся былы старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей (злева ад прэзідэнта) і тагачасны кіраўнік парламента Мечыслаў Грыб. Былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч адмовіўся ад сумеснага з Лукашэнкам фота**

## На чале Вярхоўнага Савета

Мечыслаў Грыб быў абраны на гэтую пасаду большасцю дэпутатаў 28 студзеня 1994 года. За два дні да гэтага быў адкліканы Станіслаў Шушкевіч. Яшчэ раней на пасаду старшыні парламента разглядалі кандыдатуру гродзенскага губернатара Дзмітрыя Арцымені, аднак 20 верасня 1993 года ён загінуў ад рук кілера.

Апазіцыя БНФ абвясціла вылучэнне генерал-лейтэнанта Грыба (званне атрымаў у 1993 годзе) як спробу паўзучага дзяржаўнага перавароту. Так, Аляксандр Шут лічыў, што не трэба на чале краіны ставіць генерала.

Аднак парламенцкая большасць была няўмольная. Іншыя кандыдаты (Міхаіл Марыніч і Віктар Ганчар) не здолелі скласці сур'ёзную альтэрнатыву Грыбу. У сваёй першай прамове ў якасці старшыні вышэйшага заканадаўчага і прадстаўнічага органа Грыб заявіў, што настаў час вырашыць, што нам патрэбна: прэзідэнцкая ці парламенцкая рэспубліка.

## Па спіралі

Мечыслаў Іванавіч, напэўна, са здзіўленнем назіраў, як чалавек, які ўзначальваў сярэдні правінцыйны саўгас, пачаў хутка пашыраць свае паўнамоцтвы і нават наступаць на парламент. Але Лукашэнка яшчэ быў не настолькі моцны, каб дыктаваць свае ўмовы. Так, у канцы верасня 1994 года дэпутаты катэгарычна адмовіліся даць Лукашэнку надзвычайныя правы па зацвярджэнні ўказаў у эканамічнай сферы.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (145)
(верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# «Паміж крывавых вех»

## Курапаты

Алег ЛОЙКА

*1*
*«Чорны воран», чорны, кляты,*
*Пад'язджаў пад Курапаты.*
*Перад ім, як чужаземка,*
*Фыркала бензінам «эмка».*
*Ды зусім не чужаземцы*
*Ехалі ў віхлястай «эмцы».*
*Бартавы пазвягваў шворан:*
*Разгружаўся «чорны воран»,*
*Кат руплівеў на зарплаце*
*(Норму перавыканае —*
*ордэн адхваціць):*
*«Станавіся!..» — роў стакраты*
*І —*
*ні слова лішняга, —*
*Не з міндальнічання калішняга*
*Курапаты...*

*2*
*«А людцы ж мае, а Божа!..» —*
*Людзей не ўспамінаць*
*калгаснік з-пад Слуцка*
*не можа,*
*Ды аглушаны ўшчэнт Курапаты:*
*Расстрэлы год пяты,*
*І не да літання кату:*
*«Калі ты — тут, значыцца, —*
*вінаваты!..»*
*Вінаваты кожны, хто не баіцца,*
*У вачах каго — сляза спачування*
*іскрыцца,*
*Хто не стукач, не падслухач-падлюга —*
*Даносаў поўная глюга!..*
*Жывеш без дрыжання, без страху,*
*Ды пад уласным дахам?..*
*Уласнік! Кулак!*
*Сотаму закажаш, баяцца трэба як!..*
*Цябе падманўшы,*
*Зямлю забраўшы, свабоду, —*
*Ты не баішся, — цябе баіцца*
*Бацька народаў;*
*А што, як запрагнуць адплаты,*
*Дык лепш — у яму:*
*Прымайце, Курапаты!*
*Прымай, зямля,*
*Калі яны цябе любяць!..*
*Бо што, як касу назубяць?!*
*Косы ж кляпаць умеюць,*
*Рукі маюць,*
*ходзяць, глядзяць, разумеюць.*
*Жонак маюць, дзяцей, хату,*
*Ды яшчэ беларусы...*
*Вінаваты!*
*Вінаваты, што рэвалюцыяй, Леніным*
*хрышчоны,*
*Што ўвогуле нараджоны,*
*Кожны — вораг народа свайго закляты,*
*Вінаваты!*
*Ці хопіць яшчэ на іх Курапатаў?!*

**1990-я гады**

## Крыжы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ

***29 чэрвеня 2018 года былі арыштаваныя крыжы, якія беларусы везлі ў Курапаты, каб абараніць Нацыянальны мемарыял ад нячыстай сілы.***

*Арыштаваныя крыжы.*
*Нябесны Ойча, адкажы,*
*Ці час нам брацца за нажы,*
*Ці падстаўляць шчаку другую,*
*Як падстаўляе з года ў год*
*Яшчэ няспраўджаны народ,*
*Што сам з сабою варагуе?*

*Даруй нам, Божа. Не карай.*
*Хай сам сябе знішчае край*
*Той родны кут, што так нам мілы,*
*Дзе ў храмах молімся чужых,*
*Дзе мёртвым сорамна за тых,*
*Хто зневажае іх магілы!*

*Даруйце нам, дзяды, бацькі...*
*Хай вам баляць, пякуць цвікі,*
*Якімі вы раскрыжаваны,*
*Хай Беларусь, уся ў слязах,*
*Пакуль мы таньчым на касцях,*
*Галосіць, ліжа вашы раны!*

*Няхай паміж крывавых вех*
*На здзек сыходзіць і на смех*
*Усё, што стала нашай доляй,*
*І хай знямее той народ,*
*Няхай той род ідзе на звод,*
*Які не заручыўся з Воляй!*

*Даруй смяротны грэх, Гасподзь!*
*Хай век не скінуць нам аброць,*
*Хамут, што самі мы надзелі!..*
*Хай прахам стануць дух і плоць,*
*Але пакінь надзею хоць,*
*Пакінь мне, Госпадзі, надзею...*

**29.06.2018,**
**Курапаты**

## Курапаты

Анатоль ДЭБІШ

***1. Аблога***
*Ноч халодная... Крыкі і крокі.*
*Хтось нябачны стаіць за акном,*
*Нехта змрочны, чужы і высокі*
*Аж да рання вартуе мой дом.*

*У пакоі — адзін я. Лагодна*
*Зззяе ветах на небе... Маўчу...*
*І, прамоклы, худы і галодны,*
*Безупынку за госцем сачу.*

*Хвілі часу — бы вострыя спіцы.*
*Жахам ноч маё поўніць жыццё,*
*І нябачная воку ігліца.*
*Упіваецца ў сэрца маё.*

***2. Уцёкі***
*Я, знямоглы, паўзу праз туман*
*Да святочніца айчыннай дубровы.*
*І струменіцца кроў з маіх ран*
*На імхі і на дол вечаровы.*

*Жаўрукі не пяюць нада мной.*
*Толькі мне паміраць яшчэ рана.*
*Я стаміўся жыць праўдай чужой*
*Пад уладай забойцы-тырана.*

*Ды бліжэй да мяне ўсё тыран,*
*Чую подых яго нада мною.*
*Я, знямоглы, паўзу праз туман...*
*Дзень гарачы сплывае крывёю.*


Фота www.narodny.org

***3. Пакаранне***
*Смерці выбраннік, ляжу я на пласе самотны,*
*Молячы Бога, каб даў мне цярпенне і сілы*
*Цвёрда ступіць у хаўрусную цемру магілы,*
*Жахі і роспач змагчы ў гэты*
*час мой смяротны.*

*Дзень адплываў, дзень агнём дагараў*
*незваротны.*

*Чуліся гукі трубы, пахавальныя спевы*
*Хору дзяўчат маладых...*
*Вецер прагна разносіў*
*Спеў іх дзівосны па вулках... І гордая восень*
*Вецце зрывала, у злосці ламаючы дрэвы.*

*Чуліся крыкі пракляцця, надзеі і гневу.*

*Даў бы хто крыж — цалаваў бы за маці і веру.*
*Ды не пачуюць. І кроў на зямлі запяклася...*
*Не, не мая, а чужая. Увіўі я сякеру,*
*Што ў гэты міг над маёй галавой узнялася.*

*Я не адзін, нас мільёны ляжала на пласе.*

*Млосна зрабілася. Вусны мае задрыжалі.*
*«Гэта — усё...» Мітусіліся роспачна мроі...*
*З жаху прачнуўся я, кінуўшы коўдру і шалі*
*Прэч ад сябе... Гэта ж я ахвярую сабою.*

*Светла і ціха было ў халодным пакоі.*

*Я падышоў да акна... Залацілася восень.*
*У хованкі дзеці ў парку забаўна гулялі.*
*Дзед мой прыпомніўся мне...*
*Каляндарны лісток... 38 —*
*Год ракавы... Мы вяртання яго доўга чакалі.*
*У трыццаць восьмым — яго расстралялі.*
*..................................................*
*Смерці выбраннік, ляжаў на смяротнай*
*я шалі.*
<...>

***6. Суд***
*...І калі раскапаюць травою*
*зарослыя ямы —*
*Выйдуць змрочныя здані да сонца*
*з халоднай зямлі.*
*Загалосяць яны, зазвіняць*
*на ўвесь свет кайданамі*
*І папросяць у Бога,*
*каб ка́таў на суд прывялі.*

*Сотні, тысячы сотняў, мільёны*
*нявінных ахвяраў,*
*Што здабываю сталі знявагі*
*і дзікай маны...*
*І збялеюць у катаў і ў служак іх*
*сытыя твары,*
*І папросяць збавення*
*і літасці ў Бога яны.*

*Ды адкажа ім Бог: «...Не суддзя вам...*
*Вось вашыя суддзі.*
*Ім ваш лёс вырашаць, ім —*
*над вамі чыніць свой прысуд...»*
*Нехта крыкне з натоўпу:*
*«Даруйце ім, добрыя людзі!..»*
*...І даруе, усё ім даруе падмануты люд.*

## Скрушны матыў курапацкі

Васіль Жуковіч

*Есці і піць ля касцей,*
*Як падаецца мне, —*
*Цешыць ліхіх чарцей,*
*Не! —*
*дагаджаць сатане!*

*Хто рэстаран адчыніў*
*Ля курапацкіх крыжоў,*
*Той людзям боль прычыніў,*
*Каяцца хай бы прыйшоў!*

*Трэба сумець не смець*
*Ганьбу сеяць і жаць,*
*Дзе лютавала смерць, —*
*Там, дзе ахвяры ляжаць!*

*Бацька крывавых спраў —*
*Грозны крамлёўскі кат*
*Процьму чыніў распраў —*
*Шмат учыніў КУРАПАТ.*

*Цень бяспамяцтва, згінь!*
*Я паўтару ўсім нам:*
*Горкіх сваіх святынь*
*Не аддавайма псам!*

**Лета 2018 года**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (145) | 28 верасня 2018 | № 35 (598) Новы Час

# Уладзімер Арлоў. «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань»

**Памятаеце тэорыю нелінейнага часу? Не існуе мінулага і будучыні. Ёсць толькі бясконцае палатно з кропкамі — усімі падзеямі, што быццам былі і будуць. Быццам — бо ўсё адносна. Найперш — адносна вашага становішча на палатне.**

У грузінскай баладзе Уладзімер Арлоў піша:

*Гвірабі вяртае ў іншы час*
*тады свой час ствараў ты сам*
*выдзьмуваў час*
*вясёлкавымі мыльнымі пухірамі*
*мелодыяй трысняговай дудачкі*
*трапяткой куляй на экскурсіі ў гуце*
*чамусьці ты думаў:*
*твой час нараджаецца ад твайго*
*дыхання*
*для полацкага мальца зусім няблага*

Полацкі малец вырас, але не пакінуў надзею кіраваць часам. У кнізе «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» ён збольшага тым і займаецца, што вольна перасоўваецца па бясконцым палатне. Пераскоквае з купіны на купіну, а вакол — твань забыцця.

Следам крочаць прывіды. Уласна, гэта і ёсць Пятровіч і Здань. А яшчэ Францішак Скарына, Ціт Лівій, Віслава Шымборска, Стэндаль, Актавіян Аўгуст, Данатэла і Дантэ, Адам Міцкевіч, Лютар, Борхес, нават Хрыстос з Пілатам... Пералік далёка не поўны.

Адны з іх прыйшлі ў тэкст выпадкова. Яны ажылі праз судакрананне аўтара з месцам, якое захавала сляды даўно спачылых людзей. Іншыя здані былі з Арловым заўсёды. Гэта рэальныя людзі, якія у часавых каардынатах аўтара больш няма. Яны ў іншых кропках. Мы гэта завем іншасветам.

Але як такога іншасвету ў Арлова не існуе. Так, ён іранічна разважае пра тое, што ў пекле цікавая кампанія і ўвогуле добрая інфраструктура... Але і гэты, нібыта рэальны свет, і той, нібыта прыдуманы, існуюць на роўных.

Крытыкі, якія разважалі пра папярэднія паэтычныя кнігі Арлова, прыпісалі гэтую рысу: рэальнасць прывіднага, прывіднасць рэальнага — магічнаму рэалізму. З тым жа поспехам можна сцвярджаць: Уладзімер Арлоў — ідэаліст. То бок прыхільнік вучэння Платона пра свет ідэальны і матэрыяльны. Ідэя першасная, і нават калі яе матэрыяльнае ўвасабленне будзе знішчанае, сутнасць рэчы застанецца непарушнай...

І што цікава: паторгванне ніткі памяці не проста ажыўляе персанажа, але робіць яго галоўным героем. Ён перахоплівае аповед. Становіцца на месца аўтара.

І сам торгае за нітачку ўспамінаў.

Так разгортваецца складаная сетка сувязяў паміж рознымі фрагментамі тэксту. У кожнай баладзе ёсць нешта накшталт сюжэта. Ёсць дзеянне ў часе аўтара, паралельна — дзеянне ў свеце «прывідаў». Часы перагукаюцца. Арлоў рэзане з мінулым, з сугучнымі асобамі. Напрыклад, Бальтазар з полацкай балады, які жыве аднachасова ў старадаўнім княстве і ў сучасным Полацку. Гэтая балада — пра тое, як няпроста быць катам. «Аркады Падуі» — пра вандроўку ў насычаны гісторыяй горад. Эратычныя прыгоды таксама ёсць. «Мёд» — пра дзяцінства і лёсы сяброў. «Алека» — пра паездку ў Балгарыю. І г.д.

Безумоўна, усе гэтыя «пра» — вялікая-вялікая ўмоўнасць. Сам Арлоў выдатна праілюстраваў абсурднасць спробы ўсталяваць хоць якое «пра»:

*паэтка Ольга просіць прачытаць*
*твой улюбёны верш*
*о Радзіма мой светач цудоўны адзіны*
*явар мой мой агністы снягір на сасне*
*ледзь цябе не забыў я з чужою*
*жанчынай*
*што ў душы не хацела і ведаць мяне*

*пра што верш?*
*верш пра снегіра*
*такая птушачка з чырвонай*
*грудкай*

Да пытання жанру. Аўтар з літасці пазбавіў тэарэтыкаў літаратуры галаўнога болю, пастанавіўшы: гэта балады. Раней адны называлі яго паэзію вершатэкстамі, іншыя — паэтычнымі эсэ. Кожнае з азначэнняў мае права існаваць, а гэта значыць — ніводнае не мае сэнсу.

Балады Арлова — гэта спрэс асацыяцыі, сімвалы, шырокая геаграфія, пераназеленасць, і ўсё аздоблена ірoніяй... Але найбольш уражвае не эрудыцыя аўтара ці паэтычны досціп, а ўменне ўпарадкаваць хаос, які твoрыцца наўкол і адбіваецца ў паэзіі Арлова. Здаецца, ён адразу скарыўся хаосу. І хаос адказаў тым жа. Як дзікі звер, які адчуў, што яго не збіраюцца прыручаць, заспакоіўся і дазволіў даследаваць сябе. Ад пухнатай і мяккай грывы — да смертаносных іклаў.

І аказалася, што яны аднолькава прыгожыя.



*хто гэта сказаў пра час:*
*мы тут былі і адбыліся?*
*маўляў мілы прытулак*
*пяшчотны і эфемерны*
*твой варыянт пазбаўлены*
*лірыкі:*
*былі і не адбыліся*
*развеяліся ў экзістэнцыйным*
*тумане*
*у мілым пяшчотным прытулку*
*дзе над ложкамі схіляюцца*
*пачвары і дэманы*

Застаецца адкрытым пытанне: чаму ў любым творы Уладзімера Арлова абавязкова прысутнічае жанчына?

Зразумела, ёсць катэгорыя пісьменнікаў, якія ва ўмоўным узросце «за пяцьдзясят» маніякальна апісваюць эратычныя перажыванні (сублімацыя на сублімацыі). Але Арлоў не з гэтых шэрагаў. Датычна паэта-інтэлектуала такое тлумачэнне было б, мякка кажучы, прымітыўным.

І яшчэ пытанне: дзеля чаго ўсё-такі гэтыя шэрагі ценяў, паўсюднае ўваскрашэнне прывідаў? Няўжо для стварэння т.зв. «еўрапейскага кантэксту»?.. Ці адно з павагі да спачылых калегаў па пяры? Паэзія, паэзія, *твой арганізм атручаны паэзіяй да самых карэньчыкаў валасоў*

...Адказ аказаўся простым. Анталагічным, можна сказаць.

І літаратура (гэта значыць, творчасць), і жанчыны (што значыць — каханне) у свеце мужчыны пакліканыя перамагаць Смерць.

Цяжка паверыць у гэта, перачытаўшы сакавітыя гімны жыццю, але ўсё да таго: у аснове кожнага верша Арлова — той самы першабытны страх. «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» — гэта вялікая барацьба са Смерцю. Змаганне з непазбежным, спробы зацугляць час. Таму Арлоў так пільна ўзіраецца ў твары вялікіх, так часта іх згадвае. Пры тым, што кніга пакідае па сабе вясёлае ўражанне (збольшага — за кошт гумару), у ёй багата сцэнаў, дзе Смерць правіць баль.

Надзвычай важна, што ўсе прывіды, якіх Арлоў перанёс у сучаснасць, мужчынскага полу. Калі ж размова ідзе пра жаночага персанажа, Яна перанараджаецца (чытайце «Вуліца Саламеі»). Усё тлумачыцца старой тэорыяй, згодна з якой мужчыны дасягаюць несмяротнасці праз Подзвіг. У нашым выпадку — праз літаратурны геній. Што да жанчыны, яна жыве ў дзецях (тое ж перанараджэнне).

Няўжо толькі пра страх смерці гэтая кніга? Вядома, не. У кожным радку гэтаму страху супрацьстаіць жыццё. А галоўнае — сам Уладзімер Арлоў. Як належыць, з адкрытым забралам.

# Пятро Васючэнка. «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага»




**...Вы бачылі хоць адну значную дзіцячую кнігу, якая не мела б схаваны мэсэдж да чытача «дарослага»?**

Дзіцячых пісьменнікаў, мне здаецца, увогуле не існуе. Ёсць проста пісьменнікі, якія пры наяўнасці адпаведнага жадання ствараюць рэчы, цікавыя аднachасна дзецям і дарослым. І ёсць кепскія аўтары, якія пішуць рэчы прымітыўныя — толькі з тае нагоды, што дзеці бачацца ім гэткімі ж прымітыўнымі істотамі...

Новая кніга Пятра Васючэнкі «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» мае некалькі прывабных (яны ж вызначальныя) рысаў: у яе арыгінальны сюжэт; яна вясёлая; яна напісаная мовай, якая сапраўды існуе, а не выводзіцца ў інкубатары.

Але самае значнае — узрост магчымага чытача. Ён неабмежаваны. Чытаць яе можна ад таго самага моманту, калі ты ўласна навучыўся гэта рабіць, і да таго часу, пакуль не перастанеш чытаць... з тэхнічных прычынаў.

Калі казаць пра дзяцей, іх у казцы Васючэнкі найперш «зачэпіць» сюжэт. Самае галоўнае — тут ёсць падарожжа з прыгодамі. Гэта значыць — заўжды трымаецца інтрыга. Як жа складаную сітуацыю вырашыць герой?.. Кожны раздзел мае такую мікрапраблему, кожны раздзел — асобная гісторыя з завязкай і развязкай.

Наступны «кручок» — тэмы. Першая частка казкі, уласна да падарожжа паноў, напоўненая ўсялякай жыўнасцю. Пачынаючы ад планктону ў сажалцы — заканчваючы дзівоснымі мутантамі (Жук-і-Жаба, напрыклад). У казцы з'яўляецца персанаж, якога дзіця будзе ўспрымаць як роўнага (праз узрост персанажа) — юны натураліст Максім. Ён прыўносіць у сюжэт мастацкі вэрхал, а яшчэ — педагагічную хітрасць. Не ведаю, ці яна спрацуе, але: праз Максіма аўтар прамаўляе пра значнасць усякай жыўнасці на планеце. З аднаго боку — справа высакародная, ніякіх сумневаў. З іншага — гэтая частка аповеду прапарцыйна выбіваецца з казкі. Гісторыя пра Максіма (ці не з Дарэла ён спісаны?..) і экапытанні маглі спакойна скласці асобны твор.

Што асабліва цікава: пытанне пра роўнасць і братэрства між людзьмі і астатняй жыўнасцю паўстае ў творах Пятра Васючэнкі не ўпершыню. Той жа кумір Максіма, Карл Лінэй, патрапіў у назву зборніка вершаў «Піраміда Лінэя». Некалькі раздзелаў з «Дзівоснага лета...» і ўся «Піраміда Лінэя», у прынцыпе, пра адно і тое ж.

Улюбёны прыём Пятра Васючэнкі менавіта ў гэтай казцы — пeтварaць фразеалагізмы, ці іншыя ўстойлівыя выразы, у рэальныя сітуацыі. Так ствараюцца парадоксы, атмасфера вясёлага абсурду. Напрыклад, матэрыялізуюцца Піліп з канапель і Макар са сваімі цялятамі.

Калі ад веку непарушныя, застылыя ў свядомасці выразы ажываюць, пачынаюць рухацца і прамаўляць ад сябе, — апрача смеху ўзнікае адчуванне зыбкага жудаснае. Магчыма, праз тое, што прыходзіць разуменне: мова і сэнсы могуць жыць асобна ад чалавека. Чалавек не гаспадар нават тым сэнсам, якія прадукуе сам.

Каб ацаніць жарты аўтара, трэба іх, зразумела, убачыць. А для гэтага, у сваю чаргу, трэба мець базавыя веды ў беларускай культуры, асабліва што датычыць мовы. Перакласці гэтую казку на іншую мову будзе гэтак жа складана, як перакласці паэзію Барадуліна.

Пры ўсім пры тым у аснове казкі (прынамсі, другой часткі) — архетыповая мадэль, у цэнтры якой знаходзіцца матыў падарожжа. Герой атрымлівае выклік (паны задаюцца пытаннем пра сэнс жыцця) — выпраўляюцца ў шлях — фінал (найбольшае выпрабаванне, адказы) — пагібель — уваскрэсенне — узнагарода (распаўсюджаны варыянт — жаніцьба).

У «Дзівосным леце...» ўзнагарода падвойваецца: да вяселльнага матыва далучаецца сюжэт пра пераўтварэнне пачварыны ў «прынца». Вядома, праз каханне.

Для чаго я зрабіла гэты нудны разбор?.. Каб паказаць, як на ўніверсальнай мадэлі казкі дзякуючы адной толькі мове можа вырасці непаўторны твор. А таксама — што казка мадэлюе сусвет, шыфруе ў просценькім аповедзе асноўныя правілы існавання. Пра што Пятро Васючэнка таксама любіць паразважаць, і гэта можна заўважыць у саміх «Дзівосных прыгодах...».

Зрэшты, ён пра гэта не толькі разважае. У «Дзівосным леце паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» таксама ёсць свае дэміургі. Ёсць, скажам так, Сіла, якая застаецца незаўважнай воку, але выдае сябе напрыканцы. Па-першае, гэта Той, хто казаў, — персанаж, які напачатку ўспрымаецца камічна, а пасля перайтварае казку ледзьве не ў прытчу. Другі такі «герой» — Зорны Ровар.

І апошняе «назіранне». Чым больш чытаеш казку, тым больш упэўніваешся, што вось гэты «закадравы» смех аўтара, гэтую іронію ты ўжо недзе чуў. Ужо гучалі пытанні пра сэнс быцця — у камічнай абгортцы; ужо выпраўляліся на пошук адказаў героі-авантурысты. Нават Зорны Ровар з выхадам у гіперпрастору нешта нагадвае...

«Што яно і адкуль яно, дзе пачатак і дзе канец, і дзе сярэдзіна быцця?..» Карацей, «галоўнае пытанне жыцця», адказ на якое быў агучаны ў рамане Дугласа Адамса. «Аўтаспынам па галактыцы» і «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» гучаць у адной танальнасці. Я б нават сказала, надзіва гарманічна. Шлях да іранічна-горкай філасофіі дзіцё можа пачаць якраз з Васючэнкі — а там і да Адамса дойдзе.

Галоўнае — не ўспрымаць усё надта ўсур'ёз. Ці мала што...

**Наста Грышчук**

# Лірычны герой паэзіі Ніны Мацяш

## (Да 75-годдзя з дня нараджэння паэтэсы)

**Асоба паэта звычайна асацыіруецца з лірычным героем яго твораў. Але ці правільны такі падыход? Ці супадае па характары, паводзінах у жыццёвых варунках асоба аўтара з учынкамі лірычнага героя? А ўвогуле — хто ён, лірычны герой паэзіі Ніны Мацяш?**



Перачытваў паэтычныя творы Ніны Язэпаўны, і мне падалося, быццам бы сярод іх ёсць вершы... скажам так — не зусім беларускія і нават зусім не беларускія. І мяне зацікавіла, хто ж у гэтых вершах лірычны герой. Ад чыйго імя Ніна Мацяш стварае паэтычны вобраз?

Дзеля прыкладу — даволі просты на першы погляд верш «Расчараванне». Напісаны ён у далёкім 1969 годзе. Спытаеце, а ў чым яго небеларускасць, чым верш вылучаецца ў шэрагу іншых? Ды хоць бы для пачатку — апісаннем горнага пейзажу, на фоне якога разгортваецца дзеянне. Скалістыя горы, якія зусім не характэрныя для нашага раўніннага ландшафту. Калі казаць пра сюжэт твора, то ён даволі просты: горы, сцежка, з-пад нагі ў любы час можа выслізнуць каменьчык. А калі ўсё ж выслізне, то пры падзенні сутыкнецца з іншымі. І каменная лавіна будзе грукатаць уніз, да долу. А потым стане ціха-ціха. Расчараванне — як абвал.

### Расчараванне

*Расчараванне — як абвал.*
*Хіба ўгадаеш гэта ліха?*
*Уцёк каменьчык з-пад нагі,*
*За ім знянацку і другі,*
*Чацвёрты, восьмы... Шчэ імгненне —*
*І вось пад кручу ўжо, уніз,*
*Лавіна груку і камення!*
*Галёнке рэха ў катлавіне,*
*Заб'ецца спуду ў стромах сініх,*
*І раптам стане ціха-ціха...*
*Расчараванне — як абвал.*

Можна меркаваць, што для большасці чытачоў, аматараў паэзіі Ніны Мацяш, гэты твор — удалае параўнанне стану расчаравання лірычнага героя з каменяпадам у гарах. І калі не спрабаваць разгадваць глыбінны сэнс выказаных думак, то сапраўды можна заўважаць гэтую ланцуговую паслядоўнасць расчаравання чалавека ў нечым. І яшчэ можна апісаць каменяпад формулай матэматычнай прагрэсіі альбо знайсці падабенства з ланцуговай ядзернай рэакцыяй. Гэта калі паспрабаваць паэзію «праверыць алгебрай». І праверка ні ў якім разе не прыадкрые сакрэтны механізм нараджэння Паэзіі, які насамрэч невядомы нават і самому Паэту. Бо вершы, у гэта верыцца, не пішуцца, а толькі запісваюцца пад дыктоўку з нябесных вышыняў.

Але чаму ўсё ж горы? Быццам бы Ніна Мацяш ніколі не была ў гарах... Гэта калі прымаць пад увагу фізічную абмежаванасць паэткі. Між тым старэйшая родная сястра Ніны Алена Літвінчук сцвярджае, што ў 14-гадовым узросце будучая паэтэса ўсё ж такі была ў гарах Сярэдняй Азіі. Але, прынамсі, я не ўпэўнены, што спадарыня Ніна ў тую паездку набыла хоць які вопыт рухацца вузкімі горнымі сцежкамі. Хоць, безумоўна, вобразы горнага краю маглі адбіцца ў дзіцячай памяці.

Верш «Расчараванне» быў напісаны паэткай ужо ў сталым узросце — у 26 гадоў. Выкажу здагадку, што менавіта пад канец 60-х у Ніны Мацяш маглі ўзнікнуць глыбокія расчараванні, звязаныя з тым, што бацька (зноў жа са слоў Алены Літвінчук) адмовіў хлопцу, які прасіў руку і сэрца дачкі, а хвароба перакрэслівала надзею на сямейнае шчасце.

А што горы?.. Вядома, што рухацца праз іх можна не толькі патаемнымі сцежкамі, але і даволі-такі ўладкаванымі дарогамі. Прычым дарогай і бяспечней, і хутчэй. Тут можна сустрэць спадарожніка, які паспагадае і суцешыць, калі ты расчараваны ў каханні альбо сяброўстве. Але аўтар чамусьці выбірае для лірычнага героя менавіта горную сцежку, на якой існуе небяспека сарвацца ў бездань, на якой цяжка размінуцца з сустрэчным.

Горная сцежка не пачынаецца ад вялікай дарогі, а ўзнікае раптам ля самой гары. І таму без праваднікa ў першы раз на яе не патрапіш. Значыць, лірычны герой быў падрыхтаваны да магчымага расчаравання. Яно было «абвальным», але не неспадзеўным.

Нехта адмахнецца: «Герой выбірае горную сцежку, а не дарогу, бо так трэба для верша, для драматызацыі сітуацыі».

Дык з якой прычыны лірычнаму герою трэба было некуды рухацца так таемна, каб нікога на сваім шляху не сустрэць, ступаць так асцярожна, каб не «ўцёк каменьчык з-пад нагі»? З рызыкай сарвацца ў бездань і загінуць. З рызыкай выдаць сваё месцазнаходжанне незнарочным каменяпадам. Але і з магчымасцю адхіліцца ад сцежкі і зліцца з камянямі ў выпадку непажаданай сустрэчы...

І калі маюць месца такія меры перасцярогі, то можна меркаваць аб праследзе, аб пагоні. І раптам заўважаеш, што стан расчаравання паказаны ў вершы не проста праз хаду па горнай сцежцы, а праз уцёкі.

Але ўцёкі куды? Той, хто ступіў на горную сцежку, пэршасна ведае, куды яна прывядзе. У вершы, думаецца, паказаны не толькі ўцёкі ад праследу, але і... калі гаварыць юрыдычнымі тэрмінамі, спроба эміграцыі ў іншую краіну. Што ж магло паслужыць прычынай для такіх дзеянняў? І хто ён тады, лірычны герой? Тое, што лірычны герой знаходзіцца ў шэрагу людзей, над галавою якіх занесены меч, якія падлягаюць знішчэнню, відавочна.

Толькі ў чым можна было расчаравацца да такой ступені, што трэба было ратавацца ўцёкамі ў іншую краіну. У сябрах? У каханні?

### Amo te

*Amo te, ama me, fides immortales» —*
*«Кахаю цябе, кахай мяне,*
*вернасць несмяротная», —*
*пісалі старажытныя рымляне*
*на заручальных пярсцёнках.*

*З Рыма, з даўніх давён,*
*Праз стагоддзі-вякі,*
*У абрадавым звоне крыштальным*
*Прыкаціўся пярсцёнак*
*Да жаночай рукі,*
*Прыкаціўся пярсцёнак*
*Да мужчынскай рукі, —*
*Amo te,*
*Ama me,*
*Fides immortales.*

*Блаславіў Гіменей,*
*Абяцаў Гіменей*
*Сонца, шчасце раскрыленых даляў.*
*І выстукваюць сэрцы*
*У цябе і ў мяне:*
*Amo te,*
*Ama me,*
*Fides immortales.*
<...>

Несумненна, гэты верш пра каханне і пра шчасце. Напэўна, спадарыня Ніна марыла пра вяселле. Я помню, як і праз два дзясяткі гадоў яна натхнёна чытала гэты твор на сваіх творчых вечарынах. Але літаратурныя крытыкі чамусьці не звярнулі на яго належнай увагі. Мо былі зачараваныя паэтычным словам? Хто ведае. Дык пра што ж гэты верш? Скажу адразу: ён не пра беларускае і не пра сучаснае вяселле. Першыя словы — «З Рыма...» — адразу адсылае чытача ў Ватыкан. Папаў Рымскіх было шмат, але Ніна Мацяш указвае перыяд часу — «праз стагоддзі-вякі», — у якім мог правіць нейкі канкрэтны Папа Рымскі. А калі алічбаваць словы, то атрымаецца перыяд часу ад 200 да 900 гадоў.

Пра каго напісаны гэты верш? Вядома, што Папа Рымскі не абслугоўвае праваслаўных, а толькі каталікоў. У дачыненні да Беларусі гэтая акалічнасць «падзяляе» краіну на дзве вялікія часткі, адна з якіх, калі можна так сказаць, застаецца «па-за вершам». Да таго ж Ватыкан не абслугоўвае і звычайныя вяселлі, а толькі вяселлі асобаў каралеўскай крыві. Яшчэ можна з упэўненасцю сказаць, што ў вершы апісваецца вяселле караля, і ні ў якім разе не князя альбо нейкага цара. А пра вяселле якога ж караля можа ісці гаворка?

Тут узнікае здагадка: Мацяш — гэта сапраўднае прозвішча паэтэсы, а не псеўданім. Самы вядомы «ўладальнік» гэтага прозвішча — вугорскі кароль Мацію. Кароль Маціяш нарадзіўся за 500 гадоў да нараджэння Ніны Мацяш — у 1443 годзе, праўда, не 20 верасня, як Ніна, а 23 лютага. Паміж Вугоршчынай і роднай вёскай паэтэсы Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці з гор — толькі Карпаты.

І падобна на тое, што ў згаданым вершы апісваецца вяселле караля Мацiяша з Катарынай Падэбрад (Кунінгай), дачкой чэшскага караля Іржы Падэбрада ў 1463 годзе. А 8 сакавіка 1464 года пятнаццацігадовая жонка памірае пры родах, а праз дзве гадзіны памірае і народжаны сын...

А як там жыве кароль Мацiяш Корвін? Аказваецца, па-ранейшаму ў яго няма законнанароджаных нашчадкаў. Але ж «каралі могуць усё», ды толькі не жэняцца па каханні. Аказваецца, у караля Маціяша быў сын Янаш, названы ў гонар бацькі караля Маціяша Яна Хуньядзі, вядомага военачальніка, які спыніў асманскае нашэсце на Еўропу і быў нават рэгентам Вугоршчыны з прычыны малалецтва яе караля.

Маці сына караля Маціяша была аўстрыйская прыгажуня Борбала Эдэльпек, якую ён выпадкова сустрэў у 1472 годзе на паляванні ў венскім лесе. Адно што... не была Борбала каралеўскай крыві...

А што азначаюць «Хуньядзі» і «Корвін»?

Ды адно і тое ж. Толькі Хуньядзі — гэта Воран па-вугорску, а Корвін — на лаціне! Воран з залатым кольцам у дзюбе — гэта родавы герб Маціяшаў.

Але я вельмі заглыбіўся ў гісторыю. Цяпер — пра мару лірычнага героя.

### Балада мары

*Дзівосным пер'ем грае*
*цёплы птах, —*
*Ажно шчыміць і замірае сэрца*
*Ва ўзбуджана-шчаслівай*
*паняверцы*
*Раскошу гэту бачыць блізка так.*
*І рукі ўзлятаюць да яе,*
*І пальцы чуюць трапятлівасць*
*цела*
*Але,*
*зіхоткая,*
*амаль нясмела*
*Ірвецца птушка прэч*
*і растае...*
*Асірацела гойдаецца трон —*
*Вечназялёны куст, што цуд той*
*гушкаў.*
*Была такой вясёлкаваю*
*птушка —*
*Скуль на далоні чорнае пяро?*

Ключавыя радкі «Балады мары»: «Дзівосным пер'ем грае цёплы птах», «Асірацела гойдаецца трон» і «Скуль на далоні чорнае пяро?». Вядома, што мара — гэта журавель. А сініца ў руцэ — гэта рэальнасць. «Балада мары» складаецца усяго з 15 радкоў. І хоць памерамі да твораў гэтага жанру не дацягвае, па змесце — гэта балада, і абысці яе ўвагай ніяк нельга, бо гэта адзін з ключавых твораў Ніны Мацяш.

«Дзівосным пер'ем грае цёплы птах». Як многа гэтым радком сказана! Тут і сініца, і... журавель. Тут тая птушка, якая ўжо была ў руках лірычнага героя, бо вядомая, адчутая яе цеплыня.

А яшчэ ў «Баладзе» згадваецца галоўнае слова, якое з'яўляецца марай для лірычнага героя. І гэтае слова «трон», які «асірацела гойдаецца». Янаш Корвін не можа яго заняць, бо ён незаконнанароджаны. А кароль Маціяш Корвін, які ўсё рабіў, каб Янаш заняў яго месца, «памёр у эпілептычным прыпадку» 16 верасня 1490 года...

Не, ён не памёр — яго, хутчэй за ўсё, атруціла жонка італійка Беатрыс Арагонская. Проста набліжаўся час, калі каралю трэба было пазбавіцца каралевы, якая не нарадзіла нашчадка кароны. А каралеве — караля, каб надалей заставацца каралевай...

Мяцеж Янаша Корвіна быў задушаны ў 1491 годзе.

Расчараванне — як абвал...

Паспрабуем прыдумаць надмагільны помнік Ніне Мацяш. Вядома — кніга і крыж. А яшчэ воран. Але воран на крыжы ў разуменні беларусаў быў бы вестуном бяды. Неяк так. Таму з'явілася стылізаваная птушачка. А яшчэ кольца. І «прыкаціўся пясцёнак да жаночай рукі». І проста неверагодна, што прыкаціўся партрэт-пясцёнак Ніны Мацяш з самой Італіі...

Калі разгадваецца вобраз лірычнага героя паэзіі Ніны Мацяш, то і вершы становяцца зразумелымі. Дык хто ж ён? Калі коратка, то, напэўна, той, хто быў каралём, хто мог заняць каралеўскі трон, хто знайшоў прытулак на чужыне, чый род захаваўся насуперак усім нягодам.

**Сяргей Амяльчук**


Фота www.pastavy.by

# Проста людзі...



Мікола ІЛЬЮЧЫК

### Дажыць да Спаса

Штогод, яшчэ задоўга да Спаса, вёску ахопліваў яблычны бум. Яблыкі толькі пачыналі наліваца, есці хіба што можна было нешта з ранняга — «Белы наліў» ці «Малінаўку», але ніхто не хацеў чакаць, калі яблыкі канчаткова даспеюць.

Яблыні трэслі, яблыкі збівалі кіямі, збіралі падалку на зямлі, насыпалі ў мяхі і везлі, хто на чым, у сярэдзіну вёскі да мясцовай крамы. Там стаяла вялізная машына. Мяхі збольшага ўзважвалі і высыпалі яблыкі ў агромністую жалезную скрыню грузавіка. Здзек з вясковых садоў паўтараецца колькі гадоў запар, столькі ж гадоў доўжыцца алкагольнае шчасце мясцовых выпівох...

З самай раніцы Мішка Дальнабой валок па цэнтральнай вуліцы гружаны мяхамі ровар. Адзін мех замацаваў на багажніку, другі ляжаў пасярэдзіне веласіпеднай рамы, а трэці — ажно на стырне. Мішка ледзьве трымаў ровар у руках, узмакрэў увесь ад натугі, але яговыя вочы свяціліся неймаверным бляскам.

Мішка некалі сапраўды працаваў шафёрам на вялікіх машынах, шмат паездзіў па свеце. Але добрая праца і заможнае жыццё раптам скончыліся. Некалькі залётаў па п'янай справе выліліся ў вялікія непрыемнасці. Вытурылі Мішку з працы, ад чаго ён запіў ужо па-сур'ёзнаму. П'янкі, а пасля іх сямейныя сваркі, сталі звычайнай справай. У жонкі цярпенне скончылася хутчэй, чым насталі часы, пра якія ён увесь час казаў сваёй суджанай: «Усё! З панядзелка завяжу». Не ўдакладніў толькі, з якога панядзелка, бо тыдні міналі, праходзілі месяцы і нават гады, а ў яговым жыцці нічога так і не змянілася. Жонка турнула Мішку і падала на аліменты.

Так апынуўся ён у бацькоўскім доме і стала сеў састарэлай матулі на шыю.

Мала таго, што карміла і апранала, час ад часу бегла старая на пошту, каб даслаць нейкія грошы яговым дзецям. Каб толькі сыночка не пасадзілі і не прымусілі адрабляць прымусова тыя аліменты. Суседкам казала: «Што ж будзе, як мне жыць на свеце, калі дзіцёнка ў турму забяруць?»

Побач з машынай стаялі некалькі чалавек: Вадзік Эстонец, дзед Піліп і Шчаслівая Пара — Петрык з Ганначкай. Мішка Дальнабой прыпаркаваў свой ровар з каштоўным грузам, папросту падпёршы роварам задняе кола грузавіка. Крысом даўно не мытай кашулі абцёр узмакрэлы твар і замест прывітання прамовіў:

— А што, нарыхтоўшчыка няма?

— Міша, можа, з людзьмі вітацца трэба... — сказаў дзед Піліп голасам строгага настаўніка.

— Добрай раніцы, дзядуля, — Мішка правёў даланёй па той жа бруднай кашулі і працягнуў старому руку для вітання.

— Вось, зусім іншая справа, з гэтага трэба было пачынаць, а нарыхтоўшчык хутка прыйдзе, — задаволена адказаў на прывітанне дзед, — паспееш яшчэ за дзень дзвюма альбо нават трыма навваратамі пад плотам паляжаць.

Мішка ніяк не адрэагаваў на словы старога і стаў вітацца з іншымі.

— Здароў, Эстонец, а чаму толькі адзін мех натрос?

— Не твая справа, — незадаволена адказаў Вадзік.

— Добрай раніцы, добрыя людзі, — нарыхтоўшчык абвёў позіркам прысутных, — зараз толькі дастану з кабіны паперы — і пачнём працаваць.

— Эстонец, кладзі свой мех на вагі, ты ж, напэўна, першы прыйшоў, — азваўся Дальнабой.

— Не, мы першыя прыйшлі, — у адзін голас вымавіла Шчаслівая Пара.

— О, як вы ўмееце, быццам усё жыццё хорам размаўлялі, — зарагатаў Мішка, — канечне ж, чаргі парушаць не будзем, парадак ёсць парадак, тым больш, што вам толькі мяхі парожнія і трэба, а ці будуць яны поўнымі — яшчэ не факт.

Шчаслівая Пара нягучна абмянялася паміж сабой некалькімі словамі, а потым Ганначка нясмела прамовіла: «Ой, людзі, дзеда Піліпа трэба прапусціць наперад, шанаваць трэба старых».

— Дзякуй табе, Аня, за турботы, але я так сабе стаю, я не па гэтых справах, вось купіў бохан хлеба, будзе нам з Бобікам дні на два. Дома сумна, самотна, а тут, як кажуць, у віры падзей...

Неўзабаве і Вадзік Эстонец упэўненым крокам рушыў да крамы, балазе тая зусім побач. Першая на гэты дзень доза ўжо, можна сказаць, у кішэні, а потым яшчэ нешта намалюецца.

— А што, ён сапраўды з Эстоніі? — нарыхтоўшчык паглядзеў услед Вадзіку.

— Ха-ха, ну які ён эстонец, з нашых, — адказаў дзед Піліп, — жыў некалі недзе ў Прыбалтыцы, там жонка засталася і дзеці. Калі спіўся канчаткова, то вытурылі яго з таго Еўразвязу. Цяпер не толькі віно, але яшчэ і кроў у бацькоў састарэлых п'е.

—А гэтыя, блажэнныя, ці як вы іх называлі?

— Шчаслівая Пара — Аня з Пятром? Таксама мясцовыя. Ён стары халасцяк, бабыль. Каму такі трэба, калі жлукціць амаль з дзяцінства, ды і яна недалёка ад яго адышла. Абое рабое. Аб'ядналіся ў адзінай любові да алкаголю, жывуць дзень да вечара, бацькоў ні ў аднаго, ні ў другога ўжо нямашака, браты і сёстры паз'язджалі. А яны то ў адной хаціне валяюцца покатам, то ў другой. Нічога ім у жыцці не патрэбна, акрамя паўлітра, адзіная радасць у жыцці. Паводзяць сябе як юныя закаханыя, вось і сталі Шчаслівай Парай, курам на смех...

— Ну хопіць добрых людзей абгаворваць, — падаў голас Мішка Дальнабой, — і пра мяне, калі пайду, будзеш языком малоць, нейкі ты надта правільны, дзед Піліп!

— Буду, бо і ты, Міхась, усё ўтапіў у бутэльцы. Яна ж зусім невялікая, паўлітра ўсяго, але ў ёй прапала і сям'я твая, і праца, і ўсё астатняе.

— Не трындзі, дзед, калі захачу толькі, то ў любы момант кінуць магу, завяжу. Я ж не алкаш кончаны, як некаторыя. У мяне сіла волі! Калі хочаш ведаць, стары, я некалі цэлы тыдзень не піў.

— Ага, ведаю, як ты не піў, вавёрачку злавіў, і на тыдзень цябе зачынілі тады ў наркалагічным аддзяленні.

— Хопіць табе, стары, давай лепш пра што-небудзь прыемнае пагаворым, а то знайшоў жа ты тэму.

— Чаго ж не пагаманіць аб добрым з добрымі людзьмі, — лагодна адказаў дзед Піліп.

— А вось скажы ты мне, добры чалавек, — Мішка Дальнабой звярнуўся да нарыхтоўшчыка, — куды нашы яблычкі павязуць? Няўжо праўда, што на вінзавод? Гэта так разумець трэба, што яны неўзабаве вернуцца да нас у вёску. Але ўжо ў выглядзе бырла пладова-ягаднага?

— Э, хлопча, загнуў ты. Сокі ды дзіцячае пюрэ будзе з вашых яблычак. Нічога, што недаспелыя яшчэ. Там тэхнолагі папрацуюць з імі, і атрымаецца ўсё, што патрэбна, — смаката. А бырла зробяць вам са спірту самага таннага, развядуць вадой водаправоднай, дададуць туды рознай «хіміі»: араматызатары, узмацняльнікі смаку, фарбавальнікі ды яшчэ якой трасцы, і ўсё будзе выглядаць як натуральнае. Чытай тое, што дробнымі літарамі на этыкетцы напісана.

— О, ты чуў, Мішка, — уступіў у размову стары, — але ж не ўсё там узгадваецца на той этыкетцы.

— Ха-ха-ха, — зарагатаў Мішка Дальнабой, — хімік знайшоўся, Мендзялееў недароблены!

— Грэх са старога смяяцца, — строга прамовіў дзед Піліп, — дажыві яшчэ да маіх гадоў.

Нарыхтоўшчык зацікаўлена слухаў размову гэтых людзей, вясковых прадстаўнікоў двух розных пакаленняў.

— Дык што ж там яшчэ бырла змяшчае, а, дзед? — голас Мішкі стаў больш лагодным.

— Там шмат чаго. Напрыклад, ёсць «разбуральнік сям'і», «дэградантасобы», «мачанетрымальнік», «імпатэнтавітальнік», «алкаголезалежнік», «усягодобрагазаменнік»...

— Цьфу на цябе, так і думаў, што падкалоць хочаш, — Мішка вылаяўся і са злосцю паглядзеў вачыма-свярдзёлкамі ў выцвілыя зрэнкі старога, — клываў ужо дадому, правільны знайшоўся! Вучыць мяне ён... Я памятаю, як ты кляў мяне, смерці маёй хацеў.

— Не кляў я цябе, вы самі жыццё сваё губіце, наўмысна скарачаеце. Нішчыце і сябе, і тых, хто побач з вамі — не жывуць, а пакутуюць. Радуйцеся, што пакуль маткі вашы жывыя, кормяць вас, даглядаюць.

— А гэта ўжо не твая справа. Кормяць, даглядаюць... — Мішка наўмысна перадражніў старога Піліпа, — дрэнная тая маці, што сына да пенсіі не пракорміць! — Мішка зноў зарагатаў з удалага, як яму падалося, жарту.

— Сапраўды, пайду я ўжо, пара мне. Бобіка карміць трэба, а я языком мялю тут з вамі, час марную на размовы.

Дзед Піліп паклонам галавы развітаўся з нарыхтоўшчыкам і няспешнай старэчай хадою пайшоў сваёй звыклай дарогай. Мішка Дальнабой нарэшце вярнуўся да справы. Паклаў мяхі на вагі, потым высыпаў яблыкі ў кузаў.

— Э, браце, забудзь пра пенсію, што ты там старому пра пенсію казаў? Цяпер усё па-іншаму. Ты што, газет не чытаеш? Не бачыць вам пенсіі, як уласных вушэй. Ды і дажыць цяпер праблема, нават непітушчым, пенсійны ўзрост павысілі і яшчэ, кажуць, будуць павялічваць, — выказаўся нарыхтоўшчык.

Мішка нічога не адказаў. Хацеў ужо ісці ў краму, але нечакана ля машыны з'явіўся Вадзік Эстонец — з паўлітрай у кішэні старых нагавіц.

— Дальнабой, ты яшчэ ўсё тут чухаешся. Бяры «малую» ды даганяй, пасядзім разам, — прапанаваў ён Мішку.

— Дык я ўвогуле нікуды не спяшаюся, паспею...

***

На вялікай хуткасці, разразаючы святлом фар цемру ночы, пранёсся па вясковай вуліцы легкавік. З яго даносілася музыка, што заглушала нават роў рухавіка. Вярталася з нейкай гулянкі п'яная кампанія. Можа, таксама яблыкі здавалі. Пасля легкавушкі на абочыне дарогі застаўся ляжаць нікім пакуль не заўважаны пакурочаны ровар.

Шчаслівая Пара вярталася ў адзін са сваіх дамоў, каб адпачыць і пачаць раніцу таксама, як і сённяшнюю. Дзень будзе добры, бо сёння нагледзелі колькі неабтрэсаных яблынь у закінутых садках, а машына з яблыкамі будзе стаяць яшчэ колькі дзён, пакуль загрузіцца яблыкамі, што не дачакаліся Спасу. Як і трэба закаханым, крочылі яны, ўзяўшыся за рукі.

Вадзік Эстонец мірна спаў на старым ложку, які быў прадбачліва засланы матулінымі рукамі цыратай. Яму сніліся Балтыйскае мора і сады, поўныя прыгожых і спелых яблык.

Па хаце тупала туды-сюды старая Настуля, што не змагла заснуць, бо не дачакалася сына.

— Прыйдзе, не раз такое было, — супакойвала сябе гаротная маці, — і гэтым разам прыйдзе, абавязкова прыйдзе, дачакаюся.

### Аблізаны анёл

Цімафей Лук'янавіч Лысы толькі прачнуўся. Спяшацца не было куды, але і ўставаць з ложка не хацелася. Тут увогуле ніхто і нікуды не спяшаўся. У прытулку для знямоглых і састарэлых ніхто нікуды не бег. Адбегаліся.

Сягоння асаблівы дзень. Прыедуць новенькія. І, можа, Цімафею Лук'янавічу пашчасціць, і ў яго будзе сусед, а можа, і два. Будзе з кім перакінуцца словам. У яго пакоі пустуе два ложкі, акуратна засланыя, яшчэ з мінулай вясны чакаюць новых гаспадароў.

Цімафей Лук'янавіч ведае ўсе асаблівасці гэтай установы. Шосты год, як-ніяк, жыве тут. Толькі позна ўвосень тут шматлюдна. Бо з вёсак прывозяць усю старэчу, што паціху дажывае свой век. Улады баяцца, каб не пагарэлі за зіму са сваімі абшарпанымі печамі і трэснутымі комінамі. Вось і вязуць сюды ўсіх, каго змогуць угаварыць.

А гэта не так проста. Большая частка пенсіі застаецца дзяржаве на іх утрыманне, а дзецям гэта ой як не падабаецца. Самім даглядаць старых бацькоў не надта хочацца, але ж, бываючы ў іх рэдкімі наездамі, ад грошай ніхто не адмаўляецца. Колькі іх трэба тым старым? Вопратку носяць тую, што засталася з мінулых гадоў, а на ежу трацяць зусім мала, бо кожны, пакуль ёсць сілы варушыцца, стараецца і бульбачку вырасціць і, як кажуць, да бульбачкі.

Цімафей Лук'янавіч мог бы доўга разважаць над гэтай тэмай, але хутка сняданак, і будзе сорамна перад персаналам, калі прыйдзе ў сталоўку няголены.

Не, гэта не па ягоных правілах. У гэтым плане нічога не змянілася ў яго жыцці.

Тут ён бескампрамісны: галенне раніцой праз дзень. Нават адэкалон яму купляла загадчыца, пэўна ж, за ягоныя грошы. Няхай сабе і не самы лепшы.

Стары паглядзеў на сябе ў люстэрка, што вісела на сцяне побач з ракавінай.

Густая шавялюра сівых валасоў нервова ўздыбілася за ноч. Іх таксама трэба змачыць вадой і ўтаймаваць іхнюю непаслухмянасць расчоскай. Гэта таксама адна з ранішніх працэдур, што стала звычкай.

— Вось табе і лысы, — прамовіў, як і ўчора, як і кожны мінулы дзень, быццам насміхаючыся з уласнага прозвішча, што ніяк не адпавядала рэчаіснасці.

Цімафей Лук'янавіч выканаў усе гігіенічныя працэдуры. Напаследак пырснуў з бутэлечкі на далонь, задаволена паляпаў па шчоках і пайшоў у сталоўку.

Павітаўшыся з прысутнымі, ён узяў паднос са сняданкам і сеў на сваё ўлюбёнае месца ля акна. У сталоўцы было шмат пустых месцаў: у прытулку было нямала знямоглых. Іх кармілі ў пакоях, дзе тыя жылі. На адмысловым вазку санітаркі вазілі ім ежу, а калі хто не здужаў есці самастойна, кармілі іх, быццам маленькіх дзяцей.

Наконт назвы памяшканняў, дзе жылі старыя, адзінага меркавання ніколі не было. Нехта называў іх адпаведна нумарацыі боксамі, хтосьці палатамі. Але Цімафею Лук'янавічу бліжэй было слова пакой. Так неяк больш душэўна, па-хатняму, чым казённае «бокс» альбо бальнічнае «палата».

Вяртаючыся са сталоўкі ў свой пакой, у калідоры Цімафей Лук'янавіч сустрэўся з загадчыцай.

— Прывітанне, Вера Сяргееўна, — ён элегантна нахіліў галаву і ўзняў руку, быццам спрабуючы прыўзняць нябачны капялюш.

— Вітаю, Цімафей Лук'янавіч! Вы, як заўжды, элегантны і сапраўдны прыгажун.

— Вера Сяргееўна, сёння ж новенькія прыедуць, а ці мне сусед будзе?

— Будзе, Цімафей Лук'янавіч, а калі пашанцуе, то, можа, і два.

— Вось і добра, а то здзічэю зусім тут у вас. Пагаманіць няма з кім, хіба што з радыёпрыёмнікам.

— А вы не сядзіце ў боксе са сваімі кнігамі, пахадзіце. Вы ж яшчэ вунь які зухаваты кавалер. Спусціцеся на другі паверх да дзяўчат. А то ім самотна.

— Эх, Вера Сяргееўна, каб тым дзяўчатам хто гадкоў пяцьдзясят адрэзаў, то была б размова.

— Цімафей Лук'янавіч гучна засмяяўся, на што загадчыца таксама адрэагавала звонкім рогатам...

Цімафей Лук'янавіч узяў са стала кніжку, у якой прыкладна на палове замест закладкі ляжаў фотаздымак. З яго ўсміхаўся прыгожы малады чалавек у форме лётчыка грамадзянскай авіяцыі. Хтосьці мог падумаць, што гэта фота самога Цімафея Лук'янавіча з часоў маладосці. Але не, гэта быў сын. Ягоны Вадзік. Як жа даўно яны не бачыліся! Як яны з жонкай любілі яго! Ён любіў яго і цяпер. Гэта ж адзіны сын. «Анёлак наш», — любіла казаць Марыя. А ён і сапраўды лётае ў небе на вялізных і прыгожых лайнерах. У яго іншае жыццё, жыццё без хвароб і адзіноты. «Няхай будзе яму добра, барані яго, Божа», — нячутная штодзённая малітва з бацькавага сэрца паляцела ў неба.

Прастаяўшы ля стала ў нейкім асаблівым настальгічным роздуме, Цімафей Лук'янавіч так і не наважыўся чытаць пачатую кнігу. Узгадаліся нейкія эпізоды з мінулага жыцця, з часоў маладосці, з тых шчаслівых дзён і гадоў, калі ўсе яны былі разам: Марыя, Вадзік і ён...

Цімафей Лук'янавіч падышоў да акна. Зіма паціху ўступала ў свае законныя правы. На газонах і счарнелай клумбе шэрань. Дрэўцы зусім голыя, ім холадна і адзінока, бо нават птушкі недзе падзеліся і не хочуць сядзець на аголеным голлі.

У двор прытулку заехала машына — бела-чырвоны фургон хуткай дапамогі. Цімафей Лук'янавіч, як ніхто іншы, ведаў, што ў гэтай установе ніхто і нікуды не спяшаецца, і нават надпіс на бачыне аўто «Хуткая дапамога» выглядае недарэчна. Звычайны аўтамабіль з гаража раённай бальніцы. Можа, лекі нейкія прывезлі, ці, можа, бялізну з пральні, а можа, дактары на чарговы, для галачкі, медагляд прыехалі. Што тут аглядаць? Косці старэчыя ці збрыжавелую скуру.

Бывае, што і чыноўнік нейкі завітае, асабліва перад выбарамі, каб зрабіць справаздачу пра клопат дзяржавы пра старых і сацыяльную абарону хворых, самотных і знямоглых. Але тыя едуць на вялікіх чорных машынах — у доўгіх седанах, хоць едзе адзін, толькі з кіроўцам, ці ў высокіх пазашляхавіках, хаця едзе ўвесь час па асфальтаванай дарозе.

Цімафей Лук'янавіч тупаў па пакоі і перыядычна пазіраў, каб ведаць, што там робіцца на двары. Ён знаў са свайго ўласнага досведу, што дзесьці паміж сняданкам і абедам павінен прыехаць аўтобус з новенькімі. Вера Сяргееўна не магла яго падмануць. Сёння ў яго абавязкова будзе сусед, а можа, і два. Няхай сабе і два, але калі нават адзін, то гэта таксама вельмі добра. Хоць нейкая разнастайнасць у ягоным жыцці, у якім кожны новы дзень падобны на папярэдні.

Хто ведае, можа, нехта і са знаёмых трапіцца. Цімафей Лукьянавіч доўгі час працаваў на розных высокіх пасадах, шмат ездзіў па раёне і ведаў многіх.

Ён пстрыкнуў пімпачкай на панэлі радыёпрыёмніка. Палілася нейкая рытмічная музыка. Пакруціў кола настройкі. Наступная радыёстанцыя аж залягалася ад смеху з нейкага глупства, сказанага ў прамым эфіры.

Крутнуў зноў. Кіраўнік дзяржавы бэсціў мясцовых карупцыянераў і замежных ворагаў. Крутнуў яшчэ. З дынаміка палілася прыемная мелодыя. Але Цімафей Лук'янавіч не мог уцяміць — Бах гэта ці хто? Прабачыць сабе такога ён не змог, тузануў шнур і выключыў прыймач.

Зразумеў — гэта нервовае, і зноў стаў тупаць па пакоі, раз-пораз паглядваў у акно.

Раптам у двары неяк па-добраму, прывітальна прасігналіла машына. Цімафей Лук'янавіч паглядзеў скрозь шыбу. Там стаяў невялікі аўтобус. І гэта былі сапраўды яны — новыя, няхай сабе і часовыя жыхары ўстановы, якая для яго стала сапраўдным домам, бо ягоны ўласны дом, дом ягонай сям'і належаў цяпер іншым людзям.

Казырок над уваходам у будынак перашкаджаў разгледзець усё, што там адбывалася і колькі дакладна людзей прыехала на засяленне. Але ж сэрца ўсхвалявана і радасна затрымцела ў грудзях. Цімафей Лук'янавіч дакладна ведаў: у яго будзе сусед па пакоі, і зіма, што хутка набліжалася, не будзе для яго такой сумнай і доўгай.

Цімафей Лук'янавіч падумаў, што для афармлення новенькіх патрэбен нейкі час, але вырашыў сёння нікуды не ісці са свайго пакоя, каб самому сустрэцца з новымі жыхарамі. Праз сілу, але прымусіў сябе ўзяць у рукі кнігу. За кнігай і не заўважыў, як прайшоў час. Неўзабаве ў дзверы пастукалі. Першай увайшла Вера Сяргееўна, за ёю, крыху нерашуча, у пакой увайшлі двое мужчын.

— Ну вось, Цімафей Лук'янавіч, дачакаліся, нарэшце, — у голасе загадчыцы адчувалася радасць.

— Добры дзень, — прамовілі новенькія.

— Вітаю і вас, — Цімафей Лук'янавіч працягнуў кожнаму руку.

— Іван Яўхімавіч, — лаканічна назваў сябе першы.

— Юзік, проста Юзік, — бадзёра вымавіў другі.

— Вось і пазнаёміліся, займайце плацкарты, — Цімафей Лук'янавіч паказаў на вольныя ложкі.

— Уладкоўвайцеся, тут вам будзе добра, а я пабегла — справы. Не буду вам замінаць, — скорагаворкай выпаліла загадчыца, а праз імгненне пра яе нагадваў толькі цокат абцасаў у калідоры.

Новенькія нерашуча наблізіліся да ложкаў і пачалі распакоўваць свой скарб і раскладваць яго на паліцах тумбачак. Цімафей Лук'янавіч не наважваўся першы пачаць размову і чытаў, зрэдку адводзячы позірк ад кнігі. Новенькія сціпла, амаль шэптам, размаўлялі аб нечым паміж сабой, стараючыся не турбаваць Цімафея Лук'янавіча. Атмасфера насцярожанасці і лёгкага недаверу захоўвалася, і толькі пасля таго, як мужчыны разам схадзілі на вячэру, яны пачалі гаварыць так, быццам ведалі адзін аднаго доўгі час.

Цімафей Лук'янавіч ні з кім з іх ніколі раней не сустракаўся. Іван Яўхімавіч — настаўнік-пенсіянер з аддаленай вёскі. А Юзік, таксама вясковец, з ліку перасяленцаў. Уся іх вёска закапаная ў зямлю разам з пабудовамі, садамі і агародамі. А насельніцтва рассялілі ў чыстую зону. Вось пакуль і ўсе звесткі, якія сталі вядомыя Цімафею Лук'янавічу за гэты кароткі тэрмін знаёмства.

Пра сябе ён шмат чаго распавёў. Хоць асабліва і не было чаго расказваць, хіба пра сына, пра сваё ўдаўство і што прытулак стаў для яго сапраўдным домам. Што ўласны дом давялося прадаць, бо ў сына былі цяжкасці, трэба было набываць добрую кватэру, знайшліся людзі, што былі гатовыя заплаціць добрыя грошы, і ён пагадзіўся. Ведаў, што Марыя была б таксама не супраць такога рашэння, бо яны любілі Вадзіка і былі гатовыя для яго на ўсё. Сын абяцаў, што купіць бацьку аднапакаёўку ў горадзе альбо дамок у прыватным сектары. Але ў выніку — ні дамка, ні кватэры, а ён у прытулку дажывае свой век.

Можа, і зашмат чаго ён расказаў гэтым зусім малазнаёмым людзям. Але ж што тут такога? У гэтай установе амаль у кожнага лёсы нечым падобныя. Цімафей Лук'янавіч нават фота паказаў свайго сыночка — Вадзіка-анёлка, які недзе лётае па сваіх нябесных маршрутах.

Вечар у прытулку настаў імгненна. Лёгкі змрок насунуўся на зямлю, а ў пакоях пачалі запальвацца лямпачкі. Але хутка яны пачалі тухнуць. Не любяць тут яркага святла. А яшчэ старыя, быццам дома, эканомяць і вядуць свае ціхія размовы ў прыцемку. Канечне ж, тады, калі ёсць з кім размаўляць.

— Іван Яўхімавіч, а што вы выкладалі ў школе? — запытаўся Цімафей Лук'янавіч.

— Прасцей будзе сказаць, што я не выкладаў, — весела адказаў той, — выкладаў усё, нават пабыў завучам і нейкі час у дырэктарскім фатэлі пасядзеў.

— А вы, Юзік, кім працавалі, — Цімафей Лук'янавіч звярнуўся да другога суседа, — чым займаліся?

— Я? Я з простых. Да перасялення на трактары працаваў, а пасля Чарнобыля на новым месцы ў калгаснай брыгадзе рознымі справамі займаўся, а потым ужо і пенсію далі.

Мужчыны ціха размаўлялі паміж сабой, распавядалі нейкія падрабязнасці са свайго жыцця. Нават тое, пра што не гаварылі ніколі і нікому. Тут можна, тут усе ў аднолькавым становішчы. Тут ніхто не абгаворыць і не насмяецца. Тут у кожнага свой боль, свая крыўда і ўласнае асэнсаванне жыцця, якое амаль прайшло.

— Мабыць, я адсюль ужо і не паеду, — прамовіў Іван Яўхімавіч, — тут добра, ніхто мяне не будзе папракаць кавалкам хлеба.

— А што ў вас здарылася? — Цімафей Лук'янавіч яшчэ падумаў, ці не пакрыўдзіў малазнаёмага чалавека такім пытаннем.

— Як вы тут апынуліся? Прабачце, калі пакрыўдзіў вас, можаце нават не адказваць.

— Чаму ж не адказаць, што было, тое было.

Ён крыху памаўчаў і пасля кароткай паўзы загаварыў. Пачаў амаль з юнацтва. Пра вучобу, працу ў школе, сям'ю. Пра тое, што рана аўдавеў, што дзеці з'ехалі за мяжу яшчэ пасля распаду Саюза. З-за акіяна не так проста і прыехаць. Ды і свае праблемы, што ў сына, што ў дачкі. Даглядаць састарэлага пагадзіўся пляменнік, які быў таму бліжэй за сына. Ён рана застаўся сіратою, і Іван Яўхімавіч клапаціўся пра яго, як пра ўласнае дзіця. Вывучыў, ніколі не шкадаваў грошай. Але цяпер у таго падраслі дзеці, і жыллёвая плошча была не лішняй. Таму і ўгаварылі перапісаць жытло на пляменнікавага сына з умовай, што будуць даглядаць старога да скону. Толькі нейкі тыдзень прайшло пасля афармлення папер, як Іван Яўхімавіч зразумеў, што новыя гаспадары не рады ягонай прысутнасці. Пачаліся абра́зы, крыўды і папрокі...

Ён рабіў кароткія паўзы ў размове. І калі б у пакоі гарэла больш яркае святло, можна было заўважыць слёзы на ягоных вачах. То, можа, і добра, што свяціла толькі настольная лямпа і старэчых слёз не было відаць. Мужчыны, нават у такім узросце, не павінны плакаць, нават калі гэта слёзы крыўды ад пакут за дабро.

Іван Яўхімавіч сядзеў на ложку, глядзеў у сцяну, а потым нібыта падсумаваў:

— Таму я тут і, мабыць, застануся тут ужо назаўсёды...

Усе прыціхлі. Кожны думаў пра сваё. Раптам закашляўся Юзік і, нібыта нават выбачлівым тонам, сказаў:

— Я што хачу вам сказаць, паважаныя... Чалавек я просты і прабуду тут з вамі толькі да вясны. Бо ў вёсцы ў мяне і хата, і сад з агародам. З гаспадаркі, праўда, толькі куры засталіся, суседка пракорміць, зерня хапае. Не магу я без зямліцы. Ды і царква мая там, у вёсцы. Не перайначу я ўжо сябе. Але, дальбог, скажу вам... вы людзі адукаваныя, разумныя, але ж нешта не тое рабілі ў сваім жыцці. Я б і не паехаў сюды, але дачка кажа: «Тата, зімуй у прытулку. Бо я так дагледзець цябе не змагу». А тут цёпла і сытна. Чаму б і не зімаваць, як птушка ў выраі. А потым да сваіх берагоў, а як жа інакш?

Яму ніхто не пярэчыў. Тут умеюць слухаць адзін аднаго. Інакш нельга. І нават калі ты не скажаш нешта сёння, то ў цябе будзе магчымасць расказаць гэта заўтра ці ў нейкі іншы доўгі вечар.

Пасля кароткага перадыху Юзік адгаварыў-адспавядаў:

— Што ж вы, хлопцы, усё жыццё дагаджалі людзям? Адзін свайму сыну-анёлку, другі чужога аблізваў усё жыццё. Але ж гэта людзі, яны такія. Ты яго ўсё жыццё аблізваеш, а калі адзін раз не абліжаш, не дагодзіш, то крыўдзе на цябе, ставіцца варожа. Хіба не так? Хіба з вамі не так было?

Ён задаваў пытанні, але не чакаў на іх адказу, а таму працягваў:

— Вось і век вам свой дажываць не з тымі, каго ўсё жыццё любілі і каму нічога не шкадавалі, а тут, няхай сабе і ў добрым, але чужым казённым доме. Таму што дагаджаць трэба было не людзям, у першую чаргу, бо яны ж проста людзі, а таму, хто там...

Юзік узняў руку і паказаў пальцам уверх, у неба. Ён больш нічога не гаварыў, але пальца не апускаў.

Цімафей Лук'янавіч з Іванам Яўхімавічам узнялі вочы, але там была толькі столь.

# Радкі любові



Данута БІЧЭЛЬ

### У Курапатах

*Выбіраеш свой шлях? Выбірай!*
*З апраметнай не трапіш у рай!*
*З Курапатаў шлях — на той свет,*
*а цяпер там спраўляюць банкет.*

*Скачуць чэрці ў гасцях на касцях*
*нявінна забітых людзей...*

*...Жывыя за рукі трымаюць дзяцей...*
*Дзеці трымаюць сцяг.*
*Немаўляты, таму што анёлы...*
*тармозяць чортавы колы!*

*У чарцей шмат іншых хадоў —*
*іх машыны заводзяцца зноў...*
*Нібы град, арда чарцянят*
*на крывавых касцях Курапат.*

*...Беларусь у яме маўчыць...*
*Вам смачна жэрці і піць, —*
*хто святую памяць Яе*
*за юдаў мядзяк прадае?*

*...Мара, Давід і Франак,*
*Ян, Якуб і Сымон...*
*у жывым ланцугу перад ямай:*
*— Вымятайцеся, чэрці, вон!*

*На магілах не сеюць пшаніцы!?*
*Курапаты — дарога ў нябыт.*
*Крыж Хрыста на нявінна забітых*
*з татам уздымае Давід.*

*Хто скрыўдзіў мяне адну —*
*таго стараной абміну...*

*Хто зняважыў наш род і сцяг —*
*таму люцыфер суддзя!*
*За здзек над касцямі без трун —*
*няхай пакарае пярун!*

### Радкі любові

*Пад збаўленчую музыку цішы*
*прачынаюся на гарышчы,*
*праз шчылінку месячык з неба*
*цалуе вуснамі таты.*
*Праз стрэху ляцець страшнавата...*
*Усё само адбудзецца неяк...*

*Абы Ты, мая Ластаўка ў стрэсе,*
*маё сунічнае ўзлессе,*
*Галубка мая, Свіцязянка,*
*аднаўлялася з ранку да ранку.*

*Каб Дняпра і Нёмана хвалі*
*з любоўю цябе цалавалі,*
*чыстыя хмаркі і росы*
*сукруху з сэрца змывалі.*

*Радзіма, на мапе нябёсаў*
*адбітак Божай далонькі.*
*Цень ад далонькі Божай*
*на мапе зямелькі босай...*

### Заполле

*Светлай памяці Алеся Зайкі*

*Я думала: наша Заполле*
*ад Ліды да Косава,*
*там канюшыну косяць*
*літоўкамі-косамі,*
*каб не параніць пчолак...*
*А сябра Алесь Зайка*
*заблукаўся паміж вясёлак...*

*Прачынаецца ў паднябессі,*
*на крылцах школьных анёлаў,*
*у горы палескай сям'і,*
*у смутку духоўнай радні...*

*У памяці тэлефона*
*шчэ захаваўся Ваш голас...*
*Вы адгукаліся зрэдку...*
*Таму і прашу:*
*— Пазвані!*

*Пазваніце мне з таго свету,*
*сябра Алесь Зайка!*
*Як там на Божай градцы*
*зернем сябе пасеялі?*
*Няўжо і там мы заціснуты*
*між Польшчаю і Расеяй?*
*— Яны думаюць, што мы ўгнаенне,*
*але мы тут насенне!*

*Пакуль не памерлі словы*
*ў агародах вясковых,*
*пакуль жыву, буду памятаць*
*Ваш голас, бадзёры самы:*
*— Калі ёсць рай на небе,*
*то насельнікі яго — нашы мамы.*

*Як збіралі Вы тут,*
*як выцягвалі з багны на груд,*
*абціраючы бруд,*
*моўны скарб, гэты цуд,*
*што бабулі пакінулі нам,–*
*так збірайце і там*
*непамерлыя словы,*
*і замест тэлеграм,*
*там, пры Богу, прыдумайце спосаб,*
*як вярнуць нашу мову адтуль.*

### Натхненне

*З рэўнасці, па маладосці,*
*нехта некаму пазайздросціў...*
*Злосная, як запалак,*
*распаліла пажар ад сварак.*

*Вось такое здарэнне...*

*На прымірэнне*
*яна пасылае яго*
*на бязлюдную выспу...*
*Ён павінен сваё натхненне*
*на выспе на досвітку высыпаць...*
*І каб аніхто не ўбачыў...*

*А Паэт усё перайначыў!*
*Захацеў так жыць, каб натхненне*
*не з'ўлялася на імгненне,*
*а пасялілася ў сэрцы*
*ад нараджэння да смерці,*
*і без перасялення*
*заняло ўсяго сэрца абшар...*
*І няхай там палае пажар!*

*Так навучыцца трываць,*
*усё па-свойму мяняць,*
*і кожнае імгненне мяняцца,*
*ёй, адзінай, жыццё аддаць,*
*нікому больш не здавацца.*

### Як з Гародні суполкай Максіма да Айца Уладзіслава Чарняўскага ў Вішнева ў пілігрымку хадзілі

*Ніхто не зрабіў здымка,*
*як адбывалася пілігрымка...*
*Непапраўная страта...*
*Паэтам Максімам сабрана брыгада.*
*А я служыла як папялушка*
*ў Максіма на пабягушках...*

*Да Іўя, пасля да Юрацішак*
*ехалі, надзеі не страціўшы.*
*А далей — маршрут да Смаргоні...*
*А да Вішнева шлях праз Валожын.*
*Каб жа мелі мы свой самалёцік прыгожы*
*або панскую брычку ды коней!*

*Пешкі рушылі ў Вішнева.*
*З намі — жабкі, польныя конікі...*
*шпакі ды ўсе лішнія.*

*А неяк ужо так выйшла,*
*што ў Беларусі лішнія*
*ўсе — хто тут нарадзіўся...*
*А Краінай кіруюць іншыя,*
*хто ад краю чужога прыбіўся...*

*Акром мяне, наіўноты зухвалай,*
*Пацюпа ў Менску збірае славу...*
*— А ты памятаеш, Юрась,*
*як пілі мы ў Юрацішках хлебны квас?*
*— Памятаю, як елі піражкі з салам!*
*— Не-а! Гэта было ў іншы раз...*

*— Хто йшоў з намі ў Вішнева,*
*нібы на той свет?*
*— Зміцер Кісель, Васіль Бязмен*
*і Едрусь Мазько, вучоны-паэт.*

*— І я, якая «плохо себя вела»,*
*на хворых нагах, як начная імгла.*
*І ты, Пацюпа, з юнацкай адвагай,*
*падвязаўшы джынсы чырвонай дзягай.*

*— А яшчэ памятаю Дзяўчыну...*
*— Алу, Алену, Ніну, Аліну?*
*— Дзяўчына імя свайго не называла,*
*каб нас падбадзёрваць, «Гадзінкі» спявала...*

*Дзяўчына сонца на промні вяла,*
*а вакол сонейка хмарка плыла,*
*дзе Яна йшла, свяціўся гушчар...*
*напаўняліся душы дзіўным святлом,*
*нібы агнём паветраны шар,*
*і нібы коцік, мурлыкаў гром.*

*Пайшлі мы ў галодную пілігрымку —*
*чорнага хлеба сухую скарынку*
*ніхто не меў у кішэні ні крошкі...*
*— А яшчэ памятаю, на плоце ў Юрацішках*
*вісела аб'ява — прадаюцца цімошкі!?*

*Ні крамы, ні студзенькі, ні крынічкі,*
*ні жывой душачкі, ні жывічкі.*
*Ні цягніка, ні дыван-самалёта,*
*ні казачных гуселькаў, ні скараходаў...*

*Ні коніка ў яблыкі, ні закінутай хаты...*
*Толькі вецер крылаты,*
*хмарак лёгкія стрэшкі,*
*на сонейку спечаныя галавешкі...*

*Свята святла паміж жніўнем і верасnем,*
*жыта пажалі, буракі не капалі.*
*На вялікіх балотах буслы збіраліся,*
*а людзі, накрыўшыся скурамі, спалі.*

*Вуркала навокала, скрыпела,*
*стракатала, цёхкала, млела,*
*клекатала нашымі продкамі,*
*якія збіраліся ў вырай,*
*плюскалася, сагрэтая, на поплаве,*
*нас незаўважна паіла*
*дабрынёй, любоўю і сілай.*

*Не доўга цягнулася пілігрымка,*
*таму што мы ішлі, як у снах, —*
*убачым наперадзе вешку, і, ах! —*
*пераскокваем цэлы абсяг,*
*а сонейка нас чакае ў кустах,*
*а недзе, збоку, іграе катрынка...*

*А чаму навокал было так пекна,*
*і ніхто ў балоце не ўграз?*
*Бо Максім зачыніў перад намі пекла,*
*Дзяўчына з балота вывела нас!*

*Калі на абочыне ў пыле*
*ногі мяне падкасілі,*
*выйшаў з лесу вясёлы трактар,*
*падвёз да сядзібы святарскай...*

*А як мы ў мястэчка ўязджалі,*
*людзі так дзіўна казалі:*
*— Вучні вяртаюцца ў Ерузалем!*
*А дзе ж на вослiку Пан Гаспадар?*
*Хрыстос адвергнутых, нас, навярнуў!*

*Дзень гэты — так пісаў Катул...*
*Дзень асенні даўгі...*
*Расцягнуліся мы па дарозе, але дайшлі*
*да беларускага святара.*
*Каб зняць правіны ўсяго жыцця*
*на святарскім гародзе працай,*
*хлопцы ў садзе пачалі завіхацца —*
*зграбалі ў кучы, палілі бульбоўнік...*
*З любячым нас Айцом*
*размаўлялі з любоўю.*

*А ў памяшканні*
*цуды чыніла маўклівая Пані —*
*прайшлася па ўсіх закутках,*
*пыл змахнула блакітнай хусткай...*
*У Дзяўчыны выходзіла ўсё наляту:*
*чыгункі перамыла, запаліла пліту,*
*замясіла цеста, напякла бліноў...*
*Насмажыла рыбы, зварыла куццю...*
*А мне захацелася спаць, як дзіцю...*
*Прачнулася, нібы нарадзілася зноў.*

*З лісцем у садзе спалілі грахі.*
*Вячэралі сціпла ў святой сям'і...*
*Як добра ўрэшце знайсці свой дом*
*за адным сталом са святаром,*
*які роднай мовы не зрокся — адзін...*
*спавядаў па-роднаму і хрысціў.*

*Айцец Чарняўскі, просты, вясковы,*
*ён распаліў нашы сэрцы, як дровы.*

*Добры Божа пасля таемнай вячэры...*
*нашым хлопцам таемныя справы даверыў...*
*Зміцер, Васіль і Едрусь-паэт*
*пайшлі ў пілігрымку ў таемны засвет...*

*Зміцер Кісель забіты ў сваёй кватэрцы.*
*Едрусю Мазько на вуліцы спынілася сэрца.*
*Васіля Бязмена звёў у магілу рак...*
*Проста, будзённа, сцішана так...*

*Бог вызначае людзям іх час...*
*О, Прачыстая Дзева, памаліся за нас!*

### Экспромт пасля кароткага сну

*Ва ўсіх вялікіх хаты спалілі.*
*Залічаю сама сябе да вялікіх...*

*Мама, тата, вы ў маім сне,*
*падобныя да спарыша...*
*Спынены час глыбока на дне,*
*і вечная з пяткаў душа...*

*Прыходзіце сном*
*з няспаленай хаты,*
*знікаеце зноў*
*за свае небагляды...*
*і анігадкі...*
*Болей наш кроцік не поле*
*вольныя градкі.*

*Высахлі ў лесе суніцы...*
*Мама, тата,*
*не ўздумайце мне не сніцца...*
*Не шкадуйце вы мае вочы,*
*няхай плачуць...*
*Не шкадуйце вы маё сэрца,*
*няхай б'ецца!*

### Галіне Скарыне, сяброўцы Ніны Мацяш

*Белым кветам адзета каліна...*
*У Белым возеры белы глей.*
*Унучка Францішка Скарыны Галіна*
*з продкам святкуе свой юбілей.*

*У Белым моры ёсць цёмнае месца,*
*там гадуецца зграя гадзюк.*
*Гады, чуеце добрае сэрца*
*і пяшчоту Галініных рук?!*

*Нават смутак з'яўляцца рэдка*
*паміж светлых хвілін пачуцця.*
*На руках у Галіны — паэтка,*
*усё жыццё, як малое дзіця.*

*Адбаліліся слоўцы Ніліны...*
*Хвалі, воблакі, белы птах...*
*А нашчадкі Францішка Скарыны*
*прадаўжаюць Скарынаў шлях!*

### Святлане Варонік да Дня нараджэння

*Мілая Света!*
*Прымі ад мяне ў падарунак —*
*спякотнае лета:*
*нават цыбулька, асенняя кветка, —*
*зацвіла, што ў чэрвені рэдка...*

*Ад калючых асокаў і сарокаў букеты —*
*на дзень нараджэння складаю для Светы!*

*Магчыма, Света,*
*буду дарыць табе кожнае лета —*
*і паспею стварыць вянок запаветаў.*
*А, можа (о, Божа!), адзін гэты верш,*
*і ты яго на кускі не парвеш,*
*бо ён не з газеты, а з інтэрнэту,*
*і няхай так ляціць у бязмеж...*


Фота www.fotokto.ru

*Але ты, якая без працы,*
*усё ж змагла здагадацца,*
*што мая стамлёна сівая галоўка*
*памятае не так, як у траўні салоўка,*
*а рыфмуе замглёна,*
*нібы паважная пані Варона,*
*якая зляцела з гняздзечка ў траву*
*ды каменем аб галаву…*

*Я табе пасылаю містычна*
*сваю малую варонку*
*і гэту Краіну-замглёнку,*
*і ўсю тутэйшую завядзёнку:*
*зрыфмаваць такі просты верш.*

*Каб паслаць табе мора шчасця —*
*гэта было б найлепш!*
*Але дзе ж узяць яго? Дзе ж?*

## Пра цемру

*Ноч зацягнулася.*
*Дровы ў печы згарэлі, попел датлеў.*
*Выпілі, з'елі — хто запас які меў.*

*Усё, што любілі, граць заказалі музыку…*
*«Вітай, Марыя!» — харам малітву*
*паўтаралі без ліку.*

*— У цемры з дарогі не збіцца —*
*вось што было б найлепш!*
*Нехта, каб не сварыцца,*
*прыдумаў конкурс на верш.*

*Сярод сабраных паэт быў адзін Сляпы.*
*Яго не палохалі вушакі, тарапы.*
*Нічога ён, як аслеп, не ствараў.*
*Дзедаву хату крокамі мераў, шпацыраваў*
*туды-сюды, набіваў гузякі на лоб…*
*Рукамі навобмацак бачыў, патыліцу скроб.*

*Сляпы беспрасветнай ноччу сярод сляпых!*
*Навошта вершы Сляпому,*
*калі ён не чытае кніг?*
*Але перастаў наракаць на цемру натоўп…*
*Пачалі падслухоўваць,*
*што ў цемры Сляпы сабе чоўп.*

*«Там ад шырокіх веялак*
*сыплюцца на гладкі ток*
*бомбы чорнага бобу,*
*зялёны шрапнель-гарох»…*

*Сусед суседу на вуха кажа:*
*«Уважліва слухай цяпер…*
*Сляпы — плагіят і злодзей,*
*верш напісаў Гамер!»*

*«Калі слабее каханне,*
*тады прачынаецца страх:*
*а што пра нас скажуць людзі…*
*бусліных крылаў узмах!»*

*Той самы да таго самага шэптам:*
*«Пабойся Бога!*
*Ён гэта скраў у Борхеса…*
*— Не-а, у Джона Гага»*

*Нарэшце ў цямрэчу з ніш*
*святло прабілася звыш…*
*Абвясцілі вынікі конкурсу…*
*Сляпы здаў на конкурс верш,*
*які так пачынаўся:*
*— Калі я ўвайшоў у стан прасвятлення,*
*як быў у цемры, так у цемры застаўся…*

*…Калі Краіну і неба над ёй*
*перамешваюць з бруднай зямлёй,*
*ператвараючы ў склеп…*
*Каб знутры растапіць*
*пыхі ўсяленскай зло,*
*каб у сэрцах бяздушных людзей*
*распаліць цяпло,*
*трэба, каб нехта аслеп…*

*Ці можа адзін Сляпы*
*абудзіць бяздушных людзей,*
*растапіць іх сэрцы знутры,*
*паўплываць на хаду падзей?*

*Сэрца аслеплае ные:*
*эпідэмія шызафрэніі*
*цывілізацыю нішчыць,*
*хто ўмее, той грошы лічыць.*

*Духоўная слепата,*
*старэчы маразм маладых,*
*дэпрэсія, смутак, адчай —*
*збіваюць пад дых.*

*…Тут не канчаецца беспрасветная ноч.*
*Чорны попел знішчае*
*зялёныя зрэнкі воч.*
*Чорная злосць топча*
*сагрэты сонейкам след.*
*Паэт аслеп.*

*Чорны пясок касаватая хрумстае на зубах.*
*Прападае каханне, з ім прападае страх.*
*Дух Святы пакідае, а, здратаваная, ты*
*трымаешся, нібы слімак, за чужыя платы.*

*Жыццё адпачыць не можа,*
*каб завесціся зноў,*
*як пачынаецца песня ад вясковых асноў,*
*як ад малітвы абуджаецца ў пятках душа,*
*як, загнаная ўсімі, да іхняй злосці дайшла…*

*Дзе той Святар — удзяліць Збаўленчай Крыві*
*Укрыжаванага і Ўваскрослага Збаўцы Хрыста,*
*грэх адпусціўшы, ціха сказаць: —Ажыві!?*

*…Там, дзе аднойчы я нарадзілася зноў,*
*кожная расінка свяцілася, было шмат сяброў…*
*Цяпер там не засталося нічога, апроч начы…*
*І як мне аднойчы ўдалося адтуль уцячы?*
*І як мне па цемры душою назад вярнуцца,*
*каб з душамі мамы і таты не размінуцца?*

## Алег Лойка

*Прафесар юнацкіх душаў!*
*Калі гора прымусіла ампутаваць нагу,*
*ніхто з яго вучняў не адгукнуўся*
*забытым словам:*
*— Дапамагу!*

*Паслухалі, выйшлі — жывуць, як чужыя…*
*Душы да ўлады чужой перашылі…*
*А ён, стваральнік самабытнай*
*культуры, —*
*ад чэрствай, непрамакальнай скульптуры,*
*ад тых, каму розум і сэрца аддаў, —*
*у Слонім, як сам ад сябе, уцякаў…*

*Уцякаць гэтак страшна…*
*А, можа, не страшна?*
*да Бога, вечнага, ад сябе, учарашняга…*
*хто мог залічыць у студэнты кожнага,*
*таленавітага, пустапарожняга,*
*кожнаму ўкласці ведаў, як лёду…*
*мудрасці кніжнай, Лойкавай логікі.*

*Калі патрэбны рукі і сродкі,*
*чым заняты былі сябры-аднагодкі?*
*Ніхто на руках яго не панёс,*
*як падносіў бязногіх Хрыстос…*

*Ён вучыў лётаць адкрыта і ўпотай…*
*ды ніхто, між будзённых спраў,*
*крылаў Ікаравых не змайстраваў.*
*Не падставіў плячо, не падаў руку*
*з удзячнасці за навуку…*

*А прыйшла да Лойкі жанчына —*
*яна не ведала, кім быў Скарына…*
*Калі тонеш, хапаешся за саломінку.*
*Лойка прыдумаў,*
*што любіць простую слонімку…*
*Кнігі, узоры, прасторы… музыка…*
*Лойка навучыўся падаць на мулціцах*
*перад тым, невідочным, выраем,*
*у які паляцеў… і вынырнуў*
*на святло — і вярнуўся вуліцай…*

*Шлях, дарога, сцяжына, лаз…*
*Бессмяроцце. Покуць. Імжа.*
*Дыхнуў — сарваўся ў экстаз.*
*Жыве Беларусь! — і жыве душа!*

## На вайне

*Усё жыццё мы тут на вайне,*
*вайна грукоча ў сэрцах на дне.*
*Вайна тут нікому не навіна:*
*першай сусветнай марылі бацькоў,*
*нас замарыла другая вайна…*
*І на першай сусветнай, і на другой*
*мы ваявалі самі з сабой.*

*А не было нам яшчэ двух год,*
*калі на Захад пайшоў Усход,*
*на Загасціцы падняўшы пыл,*
*прагнаўшы сонца за небасхіл…*

*А не было з паловай трох год:*
*па спелым жыце, праз Гаўю, у брод,*
*з Захаду танкі пайшлі на Ўсход…*
*а я схавалася за цётчын плот…*
*Пражэрны пражэктар зыркім агнём*
*ад Ліды знайшоў мяне пад сталом…*

*Маю краіну, маю зямлю,*
*якой не маю, аднак люблю, —*
*схавала на дрыvotні між дроў…*
*Прыйшла вайна, падпаліла зноў.*

*Была цямрэча — стала святло.*
*Чыя любоў перамажа зло?*
*Хто закалыша рунь, як дзіця?*
*Хто прадаўжае вайны працяг?*

*Хто спяшаецца да струхлелых хат?*
*Хто гуляе з вайной у вясёлы тэатр?*
*Нельга так весела ваяваць,*
*воўчы сук вайны ў апілкі хаваць!*

*Чыста вакол, пазмяталі бруд.*
*А не ўсіх вайна пазмятала тут.*
*Кожны жывы герой-франтавік*
*вайну перапісвае на свой чыставік…*

*А тыя, якіх не было на вайне,*
*яны выйграваюць вайну ўдвайне:*
*яны вяртаюцца тут панаваць,*
*ні рукі, ні ногі ім не баляць…*
*Іх справы самі робяцца зноў*
*за іх саміх і за іх сыноў.*

## Самабічаванне

*Каб абмануць сваё гора,*
*сэрца Маці-Радзімы вырвалі,*
*апрануліся ў скуры ворагаў,*
*пераліліся ў іх і загінулі…*

*Беларусь — нявoлі Краіна.*
*Каб жыць тут, трэба загінуць.*
*Беларусь — чужых войнаў дарога…*
*Каб жыць, трэба трапіць да Бога.*

*З нас усе прывыклі смяяцца.*
*Нас яшчэ не б'юць, мы хаваемся.*
*Тут каб жывымі застацца,*
*адразу падпісвай капітуляцыю.*

*Але моцныя мы, арэшкі,*
*вяртаемся ройна ў свой вулей,*
*таму, што ўсе грэблі, сумежкі*
*пераплаканыя матулямі…*

*Зязюля крыжыкам вышывае*
*меткі, у якіх гняздзечках хавае*
*сваіх нявылупленых птушанят…*
*Яшчэ нас, такіх, шмат…*

## Маналог уладаркі склепу

*У склепе мяне нарадзіла мама,*
*склеп мой на два паверхі.*
*Першы паверх — глыбокая яма,*
*другі — страха ў паднябессі.*
*Усе мае смуткі, згрызоты, цярпенні*
*праходзілі ў тым скляпенні.*
*Дажджу і аблокаў песні —*
*ў салодкім водары плесені.*
*Мяне называлі Стракозкай,*
*Склепкай, Саломінкай боскай.*
*Паілі мяне, як цялятка, з соскі*
*па чарзе шкадавальніцы з вёскі.*

*Былі ў мяне два таты,*
*ды яны аб гэтым не ведалі.*
*На хутары жыў дзед барадаты,*
*мяне туды «замуж выдалі…»*
*Калі я за дзеда замуж выходзіла,*
*было мне пяць годзікаў…*
*Мой жаніх-дзядуля быў добры:*
*карміў аладкамі з мёдзікам,*
*сунічкамі і сырадоем…*
*Падараваў мне кужэльную світку,*
*спёк на лісцейку ў печы духмяны хлеб…*
*Аднойчы перастаў дыхаць на досвітку.*
*Я ўцякла і схавалася ў склеп.*

*Шмат сірочых прайшла асяродкаў.*
*Ва ўнівер прынялі мяне, як сірotку.*
*Я працавала пісаркай і пісацелькай,*
*і настаўніцай, і выхавацелькай,*
*і уніяткай, і катэхеткай,*
*і прыбірачкай, і дармаедкай…*
*У хоры спявала святыя песні.*
*Па першай групе далі мне пенсію…*

*Калі мамы не стала,*
*брат не пускае ў склеп…*
*Кажа:*
*— Пайшла ты*
*на ўсе чатыры… у стэп!*

*…У склепе найлепей…*
*Калі тушацца ў вёцы агні,*
*Рыцар збройны на белым кані*
*з мечам і тарчай*
*штовечар ад месяца скача…*
*І няхай сабе конь-агонь*
*ранкам ператворыцца ў клячу,*
*якая траву каля склепу скубае, —*
*мне ўсёроўна добра, я плачу.*
*Мне гэтага шчасця хапае!*

## На горачцы

*Удалося мне ад балота*
*неяк прыжыцца на горачцы…*
*Кожная адкінутая адзінота*
*напіваецца ў горадзе горачка.*

*Места загараецца*
*нерытмічна, рыўкамі,*
*брукае, брыкаецца,*
*падае касой на камень.*

*Гэта не Варшава Твардоўскага Яна,*
*гэта Горадня, у асфальт укатаная…*
*гэта не Смаленск Аляксандра Твардоўскага,*
*гэта Горадня, старасвецка-калгасная вёска*
*і места касцёльна-польскае.*

*Як я тут прышчапілася да старажытнай*
*чарэшні,*
*як я прыбілася да прыбяднялак старэйшых,*
*прыкінулася нявіннай авечкай,*
*забалочанай рэчкай,*
*пасвенчанай свечкай-грамнічкай,*
*наіўнай дурнічкай?!*
*У зман уявла іх усіх*
*і сама сабе неяк паверыла,*
*што я з гэтага крутога скалістага берага,*
*з віру гэтага, стромкага, стромага,*
*што я не з-пад сходу сонейка*
*прыплыла па цячэнні Нёмана…*
*туляюся тут не сёння…*
*праз мяне тут ніхто не сохне.*

*…толькі, чаму так, праз смутак,*
*Невідочны Нехта, бывае,*
*імя маё вымаўляе:*
*— Да-ну-та!*

# Сустрэча ў чаўне Харона

**Элегія**



Алесь БЫЧКОЎСКІ

У гэтым свеце бракуе яснага неба. Тут сонца свеціць зусім па-іншаму. Яно ледзь-ледзь прабіваецца скрозь туман і падфарбоўвае марудныя хвалі цёмнай рачной вады, якая пераліваецца на розныя лады то барвовым, то бледна-фіялетавым колерам, і гайдаецца-плыве ўздоўж стромкіх берагоў. Часам узнімаецца вецер. Ён то цярэбіць рэдкае сухое галлё, прынесенае з ляска, за якім калючы дрот, то гоніць густыя, нібы кісель, хвалі, якія неахвотна плюхаюцца па чорнарэччы, то ледзь штосьці шэпча ў вуха, то перамешвае-ўзбівае дурманісты пах навакольнай травы.

Процілеглага берага адсюль не відаць з-за туману. Там квітнеюць сады, поўныя райскіх птушак, край муз і натхнення. Трыма словамі: запаветная краіна мараў, у якую можна трапіць адно ў думках, ну або папрасіцца ў каменны човен паромшчыка. Кажуць, там жыве фантазія ва ўсіх сваіх мудрагелістых праявах і формах.

Так, цераз раку рэгулярна перапраўляецца човен. Выдзеўбаны з чорнага каменю, даўжэзны і шырэзны, човен незразумелым чынам трымаецца на густой вадзе і крыху пагойдваецца, калі ахвотнікі перабрацца на другі бераг ступаюць на шурпатую цёмную паверхню. Іх заўсёды хапае ўдосталь. Адметная рыса: з таго берага назад ніхто не вяртаўся, ніколі. Таму тое, што адбываецца за туманам, было загадкай. Хаця мне здаецца, я трошкі крывадушнічаю. Калі за туманам на тым беразе знаходзіцца краіна фантазій і мараў, то пра падзеі ў ёй можна даведацца з кніжак, пераважна фантастычных. Але што ёсць фантастыка, калі не скажоная рэчаіснасць? Аднак тут з якога боку паставіцца…

Мне ўсё свярбела паглядзець у твар паромшчыку. Калі цёмная постаць, шчыльна захінутая ў плашч, набліжалася ў чаўне, я намагаўся зазірнуць пад капюшон таямнічаму стварэнню. З кожным разам беспаспяхова.

Існавала легенда, што твар паромшчыка можна разгледзець толькі тады, калі сам апынешся ў чаўне, і ніяк не інакш.

Таксама паданне сведчыла, што і паромшчык насамрэч чыясьці выдумка, быццам бы неверагодным чынам матэрыяльна ўвасобленая ў нашым свеце. Так гэта ці не — людзі аб тым не ведалі. Але ўсе пагаджаліся з тым, што без паромшчыка на той бераг не трапіць, хіба толькі ў думках.

…Здаецца, тады метэарыт упаў у вытак Нёмана. Альбо трубы архіанёлаў загулі ў нябёсах недзе над Уздой і Стаўбцамі. І вада ў Нёмане на хвіліну зрабілася чырвонай, як хто фарбы напусціў ці то соку таматнага націснуў. Штосьці зварухнулася ў той момант у наваколлі. Бабулі пачалі рыхтавацца да канца свету, і жыццё неяк навогул заціхла. Можна было і на працу не хадзіць, але хадзілі па-звычцы ды каб хоць нечым сябе заняць. Увесь Нёман тады накрыўся туманам, непраглядным цяжкай запавесай-сцяной. І прастора выгнулася так, што з абодвух бакоў Нёмана быў ГЭТЫ бераг, а за туманам схаваўся выключна бераг ДРУГІ, і патрапіць туды можна было, паўтаруся, у каменным чаўне.



Фота www.andreymishin.ru

Як растлумачыць? Паспрабую прасцей. Чалавек сядаў у човен да паромшчыка, і той кіраваў да сярэдзіны ракі і тамака ў непраглядным тумане знікаў. Затым вяртаўся, толькі ўжо без спадарожніка. Мы памяркоўна разважылі, што паромшчык — злыдзень, топіць нашых наіўных небарак, якія мараць трапіць у шчаслівы край за туманам. Мне нават адна песня выплыла на памяць з назвай «Карабель дурняў». У ёй спяваецца пра добрых людцоў, якія вырашылі ачысціць свет ад блазнаў, сабраць іх усіх у карабель, вывезці далёка ў мора і ўтапіць. Прыпеў там дужа «ладны»: «Не спяшайцеся, месца хопіць усім!». І ў гэтым святле ветлівая гасціннасць паромшчыка выглядала дужа падазронай.

Так і было: хто плыў на пароме на ДРУГІ бераг, той знікаў у тумане назаўсёды. Дасведчаныя людзі шукалі навуковае абгрунтаванне і знаходзілі! Анамальная з'ява на Нёмане магла тлумачыцца толькі наяўнасцю разлому ў прасторы-часу. Тое значыла, што кліенты паромшчыка знікалі ў іншым вымярэнні. Але ж пакіну разбірацца загадку навукоўцам і не стану загрувашчваць аповед тэрмінамі. Не тое галоўнае цяпер. Важна іншае: адкуль мы ўсе даведаліся, што за туманам хаваецца краіна мараў, мрояў і размаітага шчасця? Вынікала, нехта ж вяртаўся адтуль і расказваў. Аднак — не. Напачатку, яшчэ да калючага дрота, паромшчык быў гаваркім і сам распавядаў пра цуды краіны на ДРУГІМ беразе. За перавоз ён прасіў манетку.

Хітрыя вайскоўцы спрабавалі перабрацца на іншы бок без дапамогі паромшчыка і дзеля эксперыменту паднялі ў паветра пару знішчальнікаў з надзеяй вярнуць назад. Ага, скулля! Летакі зніклі ў густых туманных клубах. Адтуль ніхто і нічога не вярталася.

Насельніцтва ж краіны пакрысе менела: многія спакусіліся аповедамі паромшчыка і сядалі ў човен, каб патрапіць у запаветны край і знайсці шчасце на ДРУГІМ беразе. Навукоўцы памаракавалі сабе і зрабілі выснову, што даследаваць цудоўную з'яву не хапае фінансавання. Прыйшлі неяк агулам да думкі, што трэба жыць далей, не гледзячы на нёманскі феномен. Калі ніхто не вяртаецца з ТАГО берага, ГЭТЫ бераг спехам абнеслі калючым дротам і начапілі шыльдачкі «Небяспечная зона». Дзея была імгненна ўхвалена радай ветэранаў і вядомай грамадскай моладзевай арганізацыяй. Бо калі ўсе людцы паспалітыя рынуцца за туман у край мараў, хто ж тады працаваць застанецца і мацаваць дзяржаву, выконваць планы з дырэктывамі-пастановамі? Таму да калючага дрота следам яшчэ і кантрольна-прапускныя пункты дадалі. Ага, мы ахоўваем не зону ад вас, а вас — ад зоны! Ну а каб увесь свет не вінаваціў нас у адсутнасці дэмакратыі, «там, дзе трэба» вырашылі ўсё ж выпускаць невялікімі партыямі тых небарак, хто хоча ў каменным чаўне праплыць у адзін бок.

**Адны прытварыліся, што працуюць, другія прытварыліся, што плацяць заробак, трэція прытварыліся, што кіруюць працэсамі, чацвёртыя прытварыліся, што пішуць праўду, і далей пералік ужо бясконцы**

З улікам абставін у краіну фантазій вырашылі найперш адпускаць пісьменнікаў. А навошта яны тут? Каб лухту ўсялякую сачынялі? Хай лепей ужо сплывуць падалей…

Праўда, належала спачатку перад спецыяльнай камісіяй даказаць, што ты пісьменнік. Тут ужо іншая праблемка малявалася. Тым, хто меў чырвонае пасведчанне чальца творчага саюза ды па дзясятак выдадзеных кніжак у актыве, ды размаітыя прэміі, у тым ліку і дзяржаўныя, — вось тым зусім не свярбела падаць у край, з якога няма вяртання. Наадварот, трапіць у каменны човен імкнуліся невядомыя ўзнёслыя асобы, якіх не ўносілі ў выдавецкія планы, і ў каго не было грошай надрукавацца самвыдатам. Яны не маглі даказаць нічым, што таксама пісьменнікі, і спецыяльная камісія іх не прапускала. Верыць ім на слова? Тады зноў праблемка. Гэта ж любы беспрацоўны лайдак, гультай і п'яніца можа прытварыцца пісьменнікам-творцам і, не заплаціўшы адпаведнага падатка, пакінуць краіну. Як жа быць? Думалі-думалі і нарэшце прыдумалі!

Вырашылі прытварыцца ўсёй краінай, што таго ДРУГОГА берага проста не існуе. І не было ніколі. І раку Нёман увогуле не тое каб выдалілі з мапаў, а проста выключылі з інфармацыйных стужак і нават са школьнай праграмы, хутка перапісаўшы падручнікі, дзе «забыліся» ўзгадаць. Хто яго ведае, ці быў у нас Нёман той калі, ды з невядомым берагам, ці то проста паданне з сівой даўніны? Міне два-тры пакаленні, ніхто пра ДРУГІ бераг не ўспомніць. Пастанову прынялі, а калючага дрота, праўда, не знялі. Навошта? Забароненая зона.

Праўда, замежным крыніцам і ўсялякім інтэрнэтам іртоў не заткнеш. Плявузгаюць пра наступствы падзення метэарыта і гуд трубы архіанёла. Нёман жа далёка за межы краіны цячэ. У тыя краіны, дзе ДРУГІ бераг афіцыйна прызнаны. І хай сабе. Усім добрасумленным суайчыннікам вядома, што заходняе тэлебачанне хлусіць, у прадажных журналістаў адна мэта: разгайдаць і разбалансаваць нашы пракаветныя каштоўнасці.

Так і жылі далей. ДРУГОГА берага ў нас няма. Краіны мараў дык і пагатоў ніколі не было. Таму нельга фантазаваць, працы непачаты край: бульбу сеяць, кабаноў гадаваць, сумленна галасаваць на выбарах.

Толькі з таго моманту, як выкраслілі з жыцця запаветны край, любая работа стала нашаму чалавеку не ў асалоду. Гульня ў прытворства мела шмат наступстваў. Адны прытварыліся, што працуюць, другія прытварыліся, што плацяць заробак, трэція прытварыліся, што кіруюць працэсамі, чацвёртыя прытварыліся, што пішуць праўду, і далей пералік ужо бясконцы. Увогуле, усе наўкола прытварыліся, што ад іх нешта залежыць. Ну, гэта не ўпершыню ў гісторыі, таму не страшна, бо досвед маецца. Людзі развучыліся марыць.

Толькі паромшчык з каменным чаўном нікуды не знік і нікім не прытвараўся ў гэтай гісторыі. Ён заўсёды падплываў, калі які бадзяга-няўдачнік-боўдзіла-куёўдзіла выпадкова апынаўся на стромкім беразе і воляй звыш не затрымаўся на кантрольна-прапускным пункце (супрацоўнікі каторага, між іншым, даўно забыліся, навошта яны там пастаўленыя і каго ад чаго ахоўваюць ці абараняюць).

…— Ты зноў бяз грошай? — пачаў першым паромшчык. — Мне трэба заплаціць манетку.

Я развёў рукамі. Маўляў, адкуль грошы ў сталкера? Забароненая зона з анамаліямі наш «сталкерскі» вывіх лёсу, гэта наш свет, наша маці і нашае ўсё. Але ж мне вельмі карціла патрапіць у невядомы край, і я жыў надзеяй адкрыць туды шлях.

— Як там? — пацікавіўся я.

— Па-іншаму, чым тут, — прабурчэў паромшчык.

Я ўздыхнуў і прыняўся маляваць пальцам па пяску. Выпісваў розныя знакі. Потым зачэрпнуў жменю і паднёс да твара. Тоненькія струмні пацяклі скрозь пальцы.

— Скажы, у гэтай рацэ можна ўтапіцца? — спытаў я.

Паромшчык, магчыма, і здзівіўся майму глупству, але выгляду не паказаў.

— Не ведаю, — ён пацінуў плячыма. — Мабыць, нельга. А ты паспрабуй… — нечакана прапанаваў ён.

Я прывык да выказванняў паромшчыка.

— Я перавозіў шмат творцаў, ніхто ні разу не цікавіўся, ці можна ўтапіцца ў вадзе мрояў. Дзіўны ты, смяротны.

Задумаўся я мімволі. Сітуацыя складвалася дэпрэсіўная, выдуманая кімсьці. Я зірнуў назад. Далёка ляжаў горад, змрочны да дурнаты і нерэальны, нібы яго і не было на свеце. Адзін з сотні правінцыйных гарадоў без надзеі на штосьці лепшае. Хоць на тысячагоддзе застынь у чаканні, нічога ў наваколлі не зменіцца.

— Слухай, у мяне грошай няма.

— Тады вяртайся назад, — быў сухі адказ.

Я павагаўся.

— У мяне ёсць штосьці большае, чым грошы. Што, калі я распавяду табе цікавую гісторыю ці павучальную казку замест аплаты?

— Дык ты таксама творца? Чаму адразу не сказаў? Калі ласка! — запрасіў паромшчык і саступіў праход.

Нечакана для сябе я ступіў у човен. Нічога не змянілася, толькі вецер дзьмухнуў мацней, зрываючы капюшон з галавы паромшчыка.

І я нарэшце пабачыў яго ў твар.

На мяне глядзеў я сам…

# На апошнім паверсе



Ярына ДАШЫНА

**Кветка**

*Ты ведаеш, мама, у гэтым вянку*
*я кветка, зламаная ў пазванку, —*
*схіляюся долу*
*пакорліва.*
*Повязь усіх і ўсяго —*
*мы нейтралізуем адно аднаго*
*і робім бясполымі…*
*Мама!*
*Здаецца, тут бачыцца дно,*
*здаецца, што мы памерлі даўно*
*ў гэтым спляценні.*
*Здаецца,*
*мяне ў купальскім вянку*
*спусцілі, зламанай у пазванку,*
*уніз па цячэнні…*

***

*На апошнім паверсе маёй адзіноты —*
*пад мінус дваццаць.*
*Так высока яшчэ ніхто і ніколі,*
*ніхто і ніколі…*
*Адусюль можна ўбачыць трубы*
*электрастанцый,*
*дымок уздымаецца ў нябесныя столі.*
*У перыяд распаду на часціны-часціцы,*
*табою перахварэла, рукі прэч*
*ад майго Бога.*
*Я вывучыла на памяць усе твае небыліцы:*
*танную белетрыстыку,*
*папуры-некралогі.*
*Ад таго, што ў гэтых пачуццяў тэрмін кароткі*
*дзеяння і гарантый няма фізічных,*
*у сваёй безвыходнасці, сто адсоткаў,*
*я пампу ад хвіліннай пяшчоты ішэмічнай.*
*На апошнім паверсе маёй адзіноты —*
*пад мінус дваццаць.*
*Я да неба даўно прырасла дагары*
*каранямі.*
*Мама сніцца балюча жывою.*
*Час прачынацца —*
*усюды, дзе сонца рэнтгенаўскімі*
*прамянямі.*

***

*Занатуй мяне ў сваім сэрцы.*
*Крэйдаю, крывёю, пацалункам.*
*Кожную хвіліну, кожны подых*
*буду слухаць я яго біццё.*
*І табе ўжо не будзе балець.*
*Зажыўляю паракісам слова.*
*Я з табой заўсёды буду побач*
*на халодным нашым страшным*
*дне.*

*Мне знаёмая з дзяцінства бездань.*
*Я праходзіла ўсе*
*лабірынты страху, забівала ў пячорах*
*цмокаў адзіноты і тугі.*
*Цьмяным і шчымлівым сэрцасумам:*
*успамінам, дотыкам і*
*пахам занатуй у гэтую рэальнасць…*
*каб у ёй застацца да канца.*

***

*Цемра — як цішы бясколерны атрыбут.*
*Успыхваюць душы анёлаў у зорным*
*сукведці.*
*Мне ўвесь час здаецца, што я ўжо тут,*
*што я ўжо здарылася ў гэтым Сусвеце.*
*Высакамоўна цвыркун адпявае ноч*
*у такт гарадской шашы — пульсуючай*
*вене.*

*Звярні ў правулак*
*і моўчкі прайдзі наўзбоч*
*ценем…*

***

*Бог нешта гаворыць мной і табой,*
*усёю пяшчотаю і брыдотаю ўсёй,*
*што паміж намі…*

*Гэты паверх зямлі*
*перанаселены тымі,*
*хто пакуль жывы.*

*І толькі мы нібыта з табой*
*усёй пяшчотаю і брыдотаю ўсёй*
*сябе забілі…*

***

*Анёлы ажурныя крылы свае раскрылілі —*
*любуюцца, бесцялесыя, у люстра сабой.*
*У іхняй анёльскай краіне — Белай Крывіі,*
*напэўна, зусім не хапае пяшчоты зямной.*

*А мой, аднакрылы, сядзіць*
*ля нябесных варотаў —*
*старае з аблокаў ружовыя вітражы.*
*Ён быў пакараны Ўсявышнім*
*за бездань палёту*
*і прывязаны да грэшнай маёй душы…*

***

*Калі ўжо немагчыма быць нечыёй —*
*прыдумай сабе Айчыну, жыві ў ёй.*

*У ёй нараджай дзяцей, у ёй памірай…*
*Калі ўжо немагчыма, то абірай*
*кім быць, кім здавацца, кім*
*звацца…*

# Рыбы чуюць тваё маўчанне



Таццяна НЯДБАЙ

***

*Горад, дзе*
*Вызначаў маяк*
*Кірункі і арыенціры*

*Горад, дзе*
*Ты казаў мне «мая»,*
*Забаўляючыся ў ціры*

*Горы дзеляць,*
*Стаяць сцяной,*
*Не ссунуць іх, што б ні рабілі мы*

*Горкі прысмак*
*Сваіх надзей*
*Заядаю рабінамі*

*Восень імжыць*
*І спявае блюз*
*У лахманах рыжых*

*Там, дзе я*
*Цябе не люблю*
*Я не змагу выжыць*

***

*паміж вечарам і вечнасцю*
*розніцы асаблівa няма —*
*яны стаяць цяпер за тваёй спінай,*
*па-панібрацку паляпваючы па плячы,*
*таму разняволься і ўсё ў абдымкі прымай,*
*не ўнікаючы — кулі ці кулічы*
*ты рыхтуешся заўтра без допінгу*
*здзейсніць скачок,*
*таму што трыпутнік не прыкладзеш*
*да горычы без падставаў,*
*таму што чакаеш, што хтосьці*
*прыйдзе падставіць плячо,*
*а потым употай дзякуеш, што не падставіў*
*у сутонні асаблівa вострa*
*адчуваеш мяжу ўсяго,*
*лінія жыцця супадае, таючы,*
*з лініяй далягляду,*
*штосьці вярэдзіць, нібыта блізкая*
*прысутнасць Яго,*
*таго, хто небакрай адхінае*
*на Дзяды і Каляды*
*паміж вечарам і вечнасцю*
*выбару асаблівa няма,*
*паміж выбарам і выраем, наадварот,*
*пралегла вечнасць,*
*рыбы чуюць тваё маўчанне,*
*і можаш рашаць сама,*
*калі класціся спаць, калі пакідаць веча*



Фота www.digitaltrends.com

***

*калі ты гаворыш, што горы,*
*як коткі,*
*акруглілішы спіны,*
*пілі мора,*
*не баючыся вады,*
*а яно было ласкавым, туманным,*
*парным, як сырадой,*
*то намагаешся не абмовіцца,*
*як трымаў мяне за руку*
*калі ты распавядаеш,*
*што найлепшая кава ў тым месце —*
*за гатэлем прынцэсы Луізы,*
*то намагаешся не згадаць уголас,*
*як п'янкое віно з келіха*
*перацякала ў заход сонца,*
*а потым — назад у келіх,*
*каб захмяліць нас і застацца*
*слядамі на вуснах*
*усе слухаюць раскрыўшы раты*
*(і я таксама),*
*як выдмы, перацякаючы, мяняюць формы,*
*застаючыся з намі — у нашых кішэнях,*
*на зубах,*
*у сэрцах,*
*але і ў майстэрскім пазбяганні займеннікаў*
*першай асобы множнага ліку —*
*як сцяжкоў на аўтадроме,*
*як буйкоў на вадзе*
*калі ты глядзіш на мяне, я часам баюся,*
*што табе і сапраўды ўдалося —*
*забыць*

***

*дай мне тое, што ты не даваў нікому,*
*і што — ніхто мне*
*дай мне шал і лютасць адстойвання*
*нашых сноў,*
*перамогу і стому, якія мяжуюць з комай,*
*і падатлівасць, у якой мы тонем,*
*дай мне тое, што ляжа ў падмурак асноў*
*не шкадуй і не бойся —*
*няма ні джала, ні куляў,*
*але я ўглядаюся ў студняў гулкі адчай,*
*покуль ты не прыйдзеш,*
*пакуль мяне не прытуліш,*
*а калі прыйшоў —*
*сядай, завару чай*
*і змаўчу пра тое, што недзе на дзікай выспе*
*развіднела і цені спаўзліся ў далёкі кут,*
*бо тым часам яблыкі побач з домам выспелі*
*і палын за рогам гаркавейшы ад цыкут*
*і мы тут*

***

*сцішаны шоргат мая*
*лісцік мяты ў махіта*
*цябе і мяне прымае*
*маўклівая глыб блакіту*
*дзе след самалёта паволі*
*рыбіным тае шкілетам.*
*затухаюць магноліі*
*распаляецца лета*

***

*Тое, пра што немагчыма маўчаць*
*і сказаць немагчыма.*
*Мы набіраем паветра ў сэрца*
*і ім крычым мы.*
*Хай хтосьці адкажа, чаму, за што і — ўрэшце — прычым мы?*
*Схавай насоўкі, яно насоўваецца*
*без дай прычыны.*
*Наступны прыпынак праз вечнасць,*
*дык едзь і маўчы мо*
*ці — нейтралізуй наступствы,*
*ўсміхайся і лыпай вачыма.*

*Цягнік нясе, мы ўсе ў адным вагоне,*
*і дзякуй, што побач,*
*не бачна неба, але пра яго раскажуць*
*парах ці пробашч.*
*Прышпільвайся і трымайся, зрабі хоць спробу.*

*Хоць часам таго, што ў руках,*
*не ўтрымаць, праз шкельцы*
*плыве вясновымі ручаямі радасць тапельцаў.*
*Дай кожнай сястры — па тоне спакою,*
*братам — адвагі і*
*нам усім бы цяпер прыдаліся*
*здольнасці ў магіі.*

*Не зазірай, калі ласка, ў сябе,*
*каб не ўбачыць прадоння.*
*Прабач,*
*мы ўжо праліліі віно.*
*Мы ўсе тонем.*

# Вершы прозай з кнігі «Азарэнні»



Арцюр РЭМБО

### Раніца

Я абняў летнюю раніцу.

Нерухомыя, спалі аблічча палацаў. Мёртваю была вада. Цені вартавалі лясную сцяжыну. Крочыў я — і ажывалі цёплыя подыхі, і міргалі дыяменты, і ціхутка ўздымаліся крылы.

Першай падзеяю сталася кветка, што нашаптала мне імя сваё на сцежцы, па якой рассыпалася халаднавата-цьмянае зіхценне.

Я засмяяўся светлакосаму вадаспаду, які кудлаціўся скрозь голле яліны, і на срэбнай вяршыні яе ўгледзеў багіню.

І стаў зрываць адно покрыва за другім. Ідучы дарогаю, рассоўваў іх рукамі. Мінаючы поле, расказаў пра раніцу пеўню. А яна ўцякала гарадам між званіцамі ды цэрквамі, і я, туляючыся жабраком па мармуровай набярэжнай, даганяў яе.

Напаткаў на сыходзе сцяжыны, ля лаўровага гаю, і, ахутаўшы покрывам, адчуў яе бязмежнае цела. Так мы заснулі на ўзлеску, раніца ды дзіця.

Я прачнуўся — і быў поўдзень.

### Адбыццё

Даволі бачыў. Відзежа прыходзіла ў розных абліччах.

Даволі чуў. Гоман гарадоў увечары, й на сонцы — і заўжды.

Даволі зведаў. Спыненні жыцця. О гукі і здані!

Адбыццё — ў новыя шумы і пачуцці!

### Марына

Калясніцы са срэбра і медзі,
Насы караблёў са сталі і срэбра,
Пену ўзбіваюць,
Уздымаюць карэнне кустоўяў.
Плыні пяскоў,
Каляіны адліву бяскрайнія
Цякуць кругамі на ўсход,
Туды, дзе па́лі лясоў,
Туды, дзе наспаў калоны,
А кут іх віхры святла рассякаюць.

### Сказы

Калі цэлы свет стане чорным лесам для дзвюх пар нашых здзіўленых вачэй, марскім берагам для двух верных дзяцей, музычным прыстанкам для нашай светлай прыязні — я знайду вас.

Няхай будзе ў гэтым свеце адзін стары, ціхі і прыгожы, аточаны «неверагоднай раскошаю» — і я ўкленчу перад вамі.

Хай бы спраўдзіў я ўсе вашыя ўспаміны, хай быў бы тою, што можа вас моцна звязаць — і я задушу вас.

***

Калі мы мацнейшыя за ўсіх — хто ж адступае? Калі нам весела — ад смеху хто памірае? Калі абураныя, хто нам перашкодзіць?

Апранайце строі, танцуйце, смейцеся — я ніколі не здолею выслаць Каханне за дзверы.

***

— Мая сяброўка, жабрачка, дзіця-пачвара! Якая безуважная ты да гэтых няшчасных, і гэтых сваволістваў, і маіх бянтэстваў. Прыхініся да нас тваім неймаверным голасам, тваім голасам! што адзіны лашчыць сырод гэтай агіднай роспачы.

Пахмурная раніца, ліпень. Смак попелу ў паветры; — водар дроваў, што прэюць у печы, — мочаныя кветкі, — выкрадзеныя прагулкі, — імжа каналаў паўз палі, — тады чаму не забаўкі і не духмянасці?

***

Я працягнуў канаты ад званіцы да званіцы, гірлянды ад вакна да вакна, залатыя ланцугі ад зоркі да зоркі, і — танчу.

***

Верхні стаў безупынна курэе. Што за чараўніца паўстане на белым заходзе? Што за бэзавая лістота апусціцца долу?

***

У той час, як дзяржаўны скарб сплывае ў святкаваннях братэрства, ружова-вогненны звон звініць між аблокаў.

***

Вяртаючы прыемны смак чарнілам, чорны попел лагодна дажджыць на маю бессань, — прыцішваю гарэнне лямпы, кідаюся на ложак, і, тварам да ценю, я бачу вас, мае дзяўчыны! мае каралеўны!

### Дзяцінства

I

Гэты ідал, чарнавокі і жоўтавалосы, без бацькоў і двара, высакароднейшы за мексіканскую ці фламандскую казку; яго ўладанні — дзёрзкі блакіт і зяленіва — сцелюцца затокамі, чые хвалі не зведалі караблёў і што носяць таму лютыя грэцкія, славянскія, кельцкія імёны.

На ўзлеску — кветкі мрояў дзынкаюць, мігцяць і зіхцяць, — і дзяўчынка з апельсінавымі вуснамі, з каленямі накрыж у светлым разводдзі, што бруіцца з лугоў; галізна, якую ахінаюць, працінаюць і апранаюць вясёлкі, расліны і мора.

Дамы, што кружацца на тэрасах блізу мора; дзяўчынкі і волаткі, прыгожыя мурынкі ў полельна-смарагдавай пене, самацветы стойма на пульхнай глебе гаёў і расталых садоў — юныя маці і дарослыя сёстры з вачыма, поўнымі паломніцтваў, султанкі, князёўны з тыранскімі звычкамі і строямі, маленькія іншаземкі і людзі з лёгкім сумам.

Што за нуда, час на «роднае цела» і «роднае сэрца».

III

Улесе ёсць птушка, чый спеў вас спыняе і змушае вас чырванець.

Ёсць гадзіннік на вежы, што не вызвоньвае час.

Ёсць дрыгва з нарою белых звяроў.

Ёсць сабор, што ідзе на дно, і возера, што ўздымаецца.



Фота www.mamabarsika.com

Ёсць дзіцячая павозка, пакінутая ў ляску, або тая, што коціцца сцежкаю, застужкаваная.

Ёсць трупа маленькіх акцёраў у строях, што мільгаюць на дарозе праз узлесак.

І нарэшце, калі мы галодныя і сасмаглыя, ёсць хтосьці, хто цікуе за намі.

IV

Я — святы ў малітве на горнай прыступцы, а лагодныя звяры пасвяцца аж да Палесцінскага мора.

Я вучоны ў цёмным фатэлі. Галіны і струмені дажджу разбіваюцца аб вокны бібліятэкі.

Я мінак на вялікай дарозе паўз нізкія дрэвы, роў шлюзаў сцішае мае крокі. Я доўга сачу за маркотным паласканнем у золаце заходняга сонца.

Я мог быць тым дзіцём, пакінутым на грэблі сярод мора, тым маленькім служкам, што крочыць прысадамі і макаўкай кранаецца неба.

Абрываюцца сцежкі. Узгоркі травеюць жаўтазеллем. Дранцвее паветра. Птушкі й крыніцы усё далей! Гэта можа быць толькі канец свету, там, наперадзе.

### Being Beauteous

Насупраць снегу — Уцялесненае Хараство высокага росту. Шыпенне смерці і віхры прыглушанай музыкі вымушаюць уздымацца, шырыцца і трымцець, нібы здань, гэтае за ўсё даражэйшае цела; пунсовыя й чорныя раны разрываюць прыўкрасную плоць. Ясныя фарбы жыцця гусцуць, скачуць і развейваюцца наўкола Мроі падчас стварэння. І трапятанне ўзносіцца і гудзе, і ўтрапёны водар гэтых з'яў поўніцца смяротным шыпеннем і хрыплай музыкай, якія свет, далёка за намі, ускідае на маці хараства, — яна адступае, выпростваецца. О! нашыя косці пакрывае новая закаханая плоць.

***

О попельнае аблічча, шчыт кудзераў, крышталёвыя рукі! Гармата, на якую я мушу рынуцца скрозь бойку дрэў і бязважкага ветру!

### Бессані

I

Вось азораны спакой, ні гарачкі, ні знямогі, у ложку ці на лузе.

Вось сябар, ні палкі і ні млявы. Сябар.

Вось каханая, ні мучаніца, ні мучыцелька. Каханая.

Вецер і свет, нікім не шуканыя. Жыццё.

— Ці было гэта ўсё?

— І свяжэе сон.

II

Асвятленне сягае кроны збудавання. З двух канцоў залі — разматыя ўпрыгожанні, суладныя зрэзы злучаюцца. Сцяна перад назорцам ёсць псіхалагічнай паслядоўнасцю палос фрызаў, зонаў атмасферы і геалагічных асноваў. — Густыя і хуткія сны чуллівых барэльефаў з істотамі самай рознай прыроды ў самых розных абліччах.

III

Лямпы і дываны бессані хвалямі шумяць уначы, уздоўж корпуса і вакол кармы.

Мора бессані, нібы грудзі Амелі.

Кілімы да паловы вышыні, густалессе карункаў смарагдавага адліву, куды зрываюцца галубіцы бессані.

............................

Пліта чорнага каміну, сапраўдныя сонцы пясчаных выдмаў — ах! крыніцы чараў! Адзіны від на світанне гэтым разам.

### Краскі

З залатой прыступкі — між шаўковых стужак, шэрага шыфону, зялёнага аксаміту і дыскаў крышталю, што адлiваюць чорным, як бронза на сонцы, — я бачу, як раскрываецца наперстаўка на дыване са срэбранага ажуру, вачэй і кудзер.

Часцінкі жоўтага золата ўроссып па агаце, калоны чырвонага сандалу — апорай смарагдаваму купалу, букет белага ядвабу і тонкія атожылкі рубіну абвінаюць вадзяную ружу.

Як нейкае боства з вялізнымі сінімі вачыма і целам снегу, мора і неба вабяць на мармуровыя тэрасы безліч юных і моцных ружаў.

### Метрапалітэн

Ад праліву ў танах індыга і да мораў Асіяна, на ружовым і аранжавым пляжы, абмытым вішнёвым небам, узняліся і перасякліся крышталёвыя бульвары, неўзабаве занятыя маладымі і беднымі сем'ямі, што закупаюцца ў гандляроў зелянінай. Ні следу багацця — горад!

Ад асфальтавай пустэльні імчаць бязладна напрасткі — з палотнамі смугі ў брыдкіх зборках на небе, што выгінаецца, адхіляецца і ападае, зробленае з такога злавеснага дыму, на які толькі здатны Акіян у жалобе, — каскі, колы, лодкі, коні — бітва!

Уздымі галаву — драўляны мост аркаю; апошнія гароды Самарыі; пярэстыя маскі пад святлом ліхтара, пасечанага холадам ночы; блазнаватая русалка ў шапатлівай сукенцы на дне ракі — чарапы, што свецяцца на гарохавым полі — ды іншыя фантасмагорыі — вёска!

Дарогі, аточаныя мурамі і агароджамі, што ледзь стрымліваюць напор сваіх гаёў, і пачварныя кветкі, якія б ты назваў і сэрцамі і сёстрамі, Дамаск, што гняце знямогай, — уладанні казачнай шляхты зарэйнскай, японскай, гуаранійскай, па-ранейшаму прыдатныя для прыёму музыкі старажытных; і корчмы, якія назаўсёды не адчыняцца больш, і прынцэсы, і, калі ты яшчэ не знясілеў, вывучэнне зораў — нябёсы!

Раніца, якою вы, разам з Ёю, змагаліся, аточаныя ўспышкамі снегу, зялёных вуснаў, чорных сцягоў, блакітных промняў і пурпуровых водараў палярнага сонца — твая моц!

### Масты

Шэрыя нябёсы з крышталю. Масты размаітай канструкцыі, гэтыя ідуць наўпрост, тыя — выгінаюцца, другія павісаюць і расходзяцца вугламі над першымі, і лініі іх паўтараюцца ў кожнай асветленай звіліне канала; і ўсё такое доўгае і бязважкае, што берагі пад цяжарам сваіх скляпенняў ападаюць і малеюць. Некаторыя з гэтых мастоў усё яшчэ пакрытыя хацінамі. Іншыя трымаюць мачты, знакі і хісткія парапеты. Мінорныя акорды скрыжоўваюцца і лятуць далей, струны цягнуцца з адхонаў. Відаць чырвоныя камізэлькі, а можа і іншыя строі, і музычныя інструменты. Што там, народныя песні, урыўкі шляхетных канцэртаў, недапеўкі патрыятычных гімнаў? Вада — шэрая і сіняя, шырокая, як марская пратока.

Белы прамень, падаючы з неба, абрывае камедыю.

**Пераклала з французскай**
**Яўгенія Якубовіч**

# «Аблічча слоў»

**95-ы нумар часопіса «Дзеяслоў» пачынаецца з фрагмента новага рамана Алены Брава «Садомская яблыня».**

Усё як бы пазнавальна ў параўнанні з папярэднімі творамі пісьменніцы: унутраны псіхааналіз галоўнай гераіні, абсурдны лад савецкай рэчаіснасці...

Пакінутая мужам 42-гадовая жанчына мае сына, працуе ў журналістыцы. Натура творчая, самакрытычная, але залежная ад збегу абставін і ўласнага лёсу. Яна збірае сілы для ўнутранага супраціву квазіісанаванню ў краіне з ідэалагічна-прасветленымі нормамі дэклараванага сацыяльнага жыцця. Стыль, у тон дзяржаўнай журналістыкі, прахалодны, нервовы, абрывісты. Мова актыўная, але сінтэтычная, роўнааддаленая як ад




літаратурнай, так і ад вуснай практыкі.

«Гэтая мова — інвазійная расліна і пустазелле буяе ў галовах абарыгенаў, якія дня пражыць не могуць без свайго ўлюбёнца, тэлевізара. Разам з калегамі я сею атрутную мову з экрана. Насенне ўкараняецца ў барознах і майго мозгу, хоць я спадзяюся абараніць сябе, апранаючыся ў гідракасцюм іроніі. Я кплю з усяго, што ненавіджу. Кплю, калі сорам выядае мне вочы. Кплю з мёртвай тэлемовы. А назаўтра іду карміць сваёй крывёю, сваім мозгам жалезныя раты «развіцця», «прагрэсу» і, ясная рэч, «упэўненасці», якая жыве тут сумесна з «заўтрашнім днём». Пасмяротныя маскі зніклых сэнсаў <...>, словы грымяць сухімі гарошынамі ў бычыным пузыры, вырастаюць тэрыконамі шлаку на лузе жывой мовы».

Ну і спадар Фрэйд у падсвядомасці аўтаркі як заўсёды раскашуе...

Васіль Зуёнак, адзін са старэйшых нашых выдатных паэтаў, апошнім часам як бы прыспешвае сваё жыццё вершамі. У чарговай часопіснай нізцы ёсць творы злабадзённыя, напоўненыя рэаліямі цяперашняга часу, ёсць спавядальныя, самотна-іранічныя, але, трэба прызнаць, — усе яны прасякнуты душэўнай мудрасцю. Як ні дзіўна, але і ў класічна-традыцыйных вершах не абыходзіцца без экзістэнцыі... Паэт такім чынам падсумоўвае вяршыню свайго чалавечага жыцця:

*Свечкі хрышчэнне,*
*Воску свячэнне —*
*І матылёк:*
*Сеў, аднакрылы, —*
*Знакам магілы*
*Сэрца апёк.*
*Мілыя воблікі*
*Зніклі, як воблакі*
*Ў цемры начной.*
*Неба з зямлёю*
*Дзеляцца — двое —*
*Смерцю са мной...*

У празаіка Уладзіміра Сцяпана — мастацкая натуралістычная метафара, якая ўтрымлівае не шчымлівую загадку, а прытоеную недзе наводдаль разгадку (тут — і інтрыга, і заварожанасць, і сентыментальнасць, а то ўспамін, пераказ ці показка). Яго мініяцюры — як маналогавыя, так і дыялогавыя — разважныя і палемічныя. У. Сцяпан — творца сціплы і сціслы, але адназначна таленавіта-выразны. Са сваім мастацкім (мастакоўскім) поглядам: «Ёсць моманты, калі жанчына робіцца неверагодна прывабнай... На балконе сохне бялізна. Вялікі цёмна-сіні абрус, белая прасціна, і яшчэ адна колеру жаўтка, а можа і гэта — вялікі святочны абрус. Палова неба цёмная, а другая чыстая. Пачынаюць ляцець зіхоткія кроплі дажджу. Вецер хістае бялізну. На балкон выбягае жанчына. Яна хапае бялізну, прыўстае на дыбачкі, выструньваецца, спяшаецца. Сцягвае цёмна-сіні абрус, потым жоўты... Вецер вырывае з яе рук белую прасціну ў цёмных плямах кропель, але яна яе ўтрымлівае... Вецер аблепвае жанчыну вільготнай сляпуча-белай тканінай... Па паўнаватых плячах збягаюць кроплі». Што праўда, як аўтар, У. Сцяпан занадта старонні да сваіх герояў. Ці не таму сям-там у яго мініяцюрах прасочваецца і нейкая нязводная аднастайнасць. Тут якраз да месца такі яго запіс: «Стары чамадан выглядае і змястоўна, і паэтычна, але ідзеш і набываеш новы».

Вельмі глыбокая, як вада ў старым калодзежы, у якога ўжо з'іржавеў ланцуг на калаўроце, нізка вершаў Фелікса Баторына. Далёкі бляск і прахалода зямной смагі жыцця прыцягваюць зрок і хваляюць душу. Ратуе да канца неўразумелы спадзеў:

*Хоць і благае сэрца, не пяецца,*
*Як я ні дзьму то ў дудачку, то ў рог,*
*І цемрыва па-д'ябальску смяецца,*
*І ў бездані халоднай плача Бог.*

Аповесць Івана Клімянкова «Мажорны фінал» (самабытнага аўтара, са своеасаблівым бачаннем свету, які, на жаль, друкуецца вельмі рэдка) мае хітра закручаны шахматны сюжэт, на якім утрымліваецца інтрыга твора і ад якога сілкуецца сэнс усяго расповеда. Лёс, вырак, прадвызначанасць жыцця, як шахматная партыя, з нейчым выйгрышам і нейчай паразай. І выйгрыш, і параза заўжды справядлівыя, бо залежныя ад цябе самога.

«І, як ні дзіўна, недзе ў глыбіні свядомасці трымцела зусім беспадстаўнае, бязглуздае спадзяванне на нешта, нібыта можна было пазбегнуць непазбежнага. І ўзнікла яно не проста так, не на пустым месцы, а, як здавалася, выцякала з сутнасці і логікі быцця, з яго законаў, увесь час скіраваных дагэтуль на тое, каб даць упартаму нябогу зразумець марнасць яго прэтэсту, змаганняў супраць наканаванага, давесці, што лёс належыць прымацць пакорліва і змірэнча, інакш ён напоўніцу дасць зведаць сваю бязлітасную жорсткасць. Калі не так, то навошта тады было яму здзеквацца з гэтага непакоры доўгія гады, нявечыць яго жыццё, каб напрыканцы даць пераможна зазірнуць мне, а найперш самому Лёсу ў вочы, пасміхнуцца знішчальна ўсмешкай пераможцы?».

Словам, твой выйгрыш — гэта ўсё ж нечая параза, сцвярджае аўтар аповесці.

Пошукі ў творчасці заўжды прыцягваюць чытацкую ўвагу. Тым больш у творчасці ўжо сталага і даўно вядомага аўтара. Людміла Паўлікава падрыхтавала кнігу інзін-сэкстэтаў (вершаваны цыкл з уласнай формай, якая вядзецца ад старажытнакітайскай сістэмы светасузірання, якой не меней за 5000 гадоў). Падобныя філасофскія тэксты бяруць пачатак ад даасізма і канфуцыянства. Яе ідэі знаходзяць прымяненне і ў сучаснай навуцы і мастацтве. Аўтар прывязвае свае тэксты да структуры традыцыйнага санета і шахматнай гульні (дошкі на 64-х клетках).

*Не радуе пагляд аблога хмар.*
*Так хочацца ў жыцці дзівосных чар*
*святла, яго імклівых гульняў,*
*сноў каляровых і празрыстых мар!*
*Хаця... парой і ў цемры — так утульна!*
*Хаця... і ў цемры — шматаблічны твар.*

Чытаючы аповед Вольгі Бабковай «Палата № 10», узгадвалася арыгінальная проза Мары Вайцяшонак. Ёсць аўтар і аддаленае рэха слоў, што напаўняюць таямнічай аўрай камерную прастору акаляючага нас жыцця. Ствараецца дзіўная сітуацыя: «Словы і літары разбягаліся са сказаў, а пасля заскоквалі не на свае месцы. Поўны гармідар. Трэба было чакаць аўтара, які б вярнуў мне любоў».

Новыя вершы Крысціны Бандурынай, як кажуць, на аматара. У іх ёсць соль паэзіі, гэта бясспрэчна, іншая справа, што не кожны чытач прыме яе дозу... Гэта не для «дыетчыкаў» краснага пісьменства, але варта памятаць:

*Бывае, што мора ў вершы —*
*абавязкова з дном,*
*падвоеным ці патроеным...*
*Бывае, што трэба верыць.*
*Рэжаш вусны і нёба*
*жорсткасцю языка,*
*эфемернасцю слоў заліваеш*
*драпіны і разломы.*
*Бывае, калі завісне рука —*
*як над бязмежнай пустыняй радка...*
*...................................*
*Бывае, што трэба любіць.*

Шчыра-шчымлівыя ўспаміны пра адну з цікавейшых нашых паэтак Таццяну Сапач друкуе Адам Глобус. Узрушаныя памяццю пачуцці — мова запознанага паразумення. «Прачытаў і падумаў пра пасмяротныя зборнікі нашых лепшых паэтаў, пра кнігі Анатоля Сыса і Тані Сапач. Мне падаецца, каб яны спалілі свае юначыя практыкаванні, было б лепей. Сам я вершы і дзённікі паліць не буду. Прынцыпова. Так мяне вучылі разумныя выкладчыкі ў інстытуце — нельга зніштажаць свае творы. Вучылі і навучылі. Хай і пра мяне нехта жорсткі скажа: добра было б, каб і Глобус свае дзённікі спаліў, як той Танэда Сантока».

Спецыфічна-арыгінальныя вершаваныя тэксты берасцейца Яўгена Бяласіна вызначаюцца як філалагічнымі, так і філасафічнымі пошукамі, а таксама формамі выяўлення паэзіі з нутра самой аўтарскай істоты. Ёсць адметныя рэчы, як у творы «Ацалунак»:

*я*
*п'ю цябе,*
*ты*
*п'еш мяне –*

*мы цалуемся,*
*мы ацаляемся,*

*мыстановімсяцэлым.*

Гэткая мройлівая паэзія ў прозе (у мініяцюрах насамрэч). Ёсць думкі і одум, таямнічае і будзённае, «палёты ў сне і наяве»... Стыль сентыментальны. Віктар Чаропка пісаў гістарычныя раманы і эратычную прозу, цяпер шалі жыццёвага часу схіляюць яго да недастворанага, да горкага разумення чалавечай недасканаласці, у тым ліку і мастацкай... «Мы называем сябе рыцарамі, мы называем сябе князямі, а ваявалі заўсёды за спінамі ваяроў, падстаўляючы іх пад смяротны бой. І пад нашыя прыгожыя словы аб гонары і радзіме яны ішлі паміраць. Так вось мы і ваявалі. Вялікасветлы спадар, о мой вялікі князь, хай жа здрада праявіць сябе, хай б'юць кінжаламі і мячамі ў спіну браты і нашы жанчыны, як міласэрнасць прымем мы гэтую здраду, калі мы сябе не можам абараніць, калі няма каму быць смелым. А калі пашкадуюць, калі жалем захлынуцца іх сэрцы, хай нас знішчыць вораг — усіх да аднаго, каб і памяці ад нас не засталося, каб вецер разнёс нашыя імёны, а хіжыя крукі выдзяўбалі нашыя вочы. Вось такі нам прысуд, бо здрада ў нашых сэрцах і мана на языках! Такімі мы сталі, рыцары і князі, і хто народзіцца ад нас?»

Трохрадковікі праграміста Валерыя Ягорава маюць афарыстычны характар і разлічаныя на шырокі абсяг чытацкага светапогляду. Зместавая розназпалярнасць радкоў давзаляе ім быць прыцягальнымі. Не ўсё роўна, аднак лепшае заўважнае:

*Белы матылёк цэлы дзень*
*б'ецца ў шыбу*
*Раніцай ён нарадзіўся*
*Увечары ён памрэ*

Ну і напрыканцы пра найбольш уражлівае. Даўно мне не патраплялася беларуская проза з такім выбітным, амаль класічна-дасканалым стылем, дакладна-загадкавым у апісанні кожнай дробнай дэталі, трапнай да нечакана ўзніклага пачуцця і дарэчнасці думкі... Поўная гармонія і ўзаемаразуменне пануе ў аповедзе Сяргея Вайніцкага «Ліхтар» паміж аўтарам і чытачом. І ўсё гэта на меладычным суладдзі чыстакроўнай беларускай мовы. Пра што? Пра нешта і пра ўсё... Пра сыход часу, зменлівасць прасторы, месца і ўспрымання гэтых працэсаў чалавекам... Рэч сама ў сабе, своеасаблівы псіхааналіз... Нешта паміж Прустам, Пташнікавым і Стральцовым... Сюжэту як такога няма, ёсць удумнае сузіранне, унутраная карціна суперажыванняў, якую хацелася б нанова перапісаць звонку...

«Калі штосьці, укладзенае ў дзіўны, незразумелы спосаб у самае нутро маёй натуры — штосьці трывожлівае, шчыльна павязанае з памяццю і фантазіяй, — час ад часу заклікае да пільнага ўзірання ў рэчаіснасць, у пошуках адзнакаў даўняга, шчаслівага часу, калі ёсць найменшая мажлівасць, хоць бы ва ўяўленні, дазволіць нечаму, лепшаму ўваскрэснуць на момант, пражыць яшчэ некалькі імгненняў жыцця, то ці не варта рызыкнуць? Адсунуўшы ўбок здаровы сэнс, паверыць і даверыцца гэтаму ледзь чутнаму, але выразнаму і настойліваму покліч, захаваць надзею...».

Як на маю думку, у нашу літаратуру ненавязліва стукаецца новы выбітны талент. Хацелася б, каб яго заўважылі.

У часопісе друкуюцца вершы амерыканкі СіДзі Райт у перакладзе В. Гапеевай і паляка Ежы Плютовіча ў перакладзе Ц. Чарнякевіча. Да юбілею Язэпа Драздовіча публікуецца яго малавядомы тэкст «Жыццё на плянэце Сатурне». Таццяна Кабржыцкая піша пра Вацлава Ластоўскага ва ўкраінскім кантэксце. Валянцін Акудовіч згадвае пра гады вучобы ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Уладзімір Мароз успамінае пра сваю вандроўку ў Парыж і звязаныя з гэтым акалічнасці. Сяргей Кавалёў разважае пра Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», дапаўняючы вядомае сваімі ўласнымі алюзіямі. Алесь Бельскі піша пра сваю калегу і паэтку Любоў Тарасюк. Працягваецца публікацыя ўспамінаў вядомага бібліёграфа Юліі Бібілы. Напрыканцы змешчана рэцэнзія Леаніда Галубовіча на зборнік вершаў С. Брыло «Это буквы». У рубрыцы «Практыкум» — раптоўныя замалёўкі Міхаіла Рубіна. Ну вось такое, да прыкладу: «Ты запісаў цудоўную, прыгожую фразу. А потым яна знікла. Такім чынам, ты запісаў знікненне фразы. Мабыць, гэта і ёсць паэзія». Хоць, прабачаюся, асабіста я замест слова «паэзія» напісаў бы «літаратура»...

Дык чытайма літаратуру, якая можа знікнуць.

**ЛеГал**

# Архіў Восіпа Мандэльштама

**Прынстанскі ўніверсітэт (адзін з самых старэйшых і вядомых навучальных устаноў ЗША) выклаў у Сеціве асабісты архіў рускага паэта, пісьменніка, эсэіста і літаратурнага крытыка Восіпа Мандэльштама.**



Архіў захоўваецца ў бібліятэцы Firestone ў Аддзеле рэдкіх кніг і спецыяльных калекцый.

У апісанні калекцыі гаворыцца, што яна складаецца з «друкаванай прадукцыі» рукамоўных твораў, рукапісаў, чарнавікоў і перапіскі Мандэльштама.

У шасці скрынках захоўваюцца рукапісныя і надрукаваныя рукапісы яго вершаў, рэцэнзій, артыкулаў і эсэ, часцей у чарнавіках, якія прадстаўляюць розныя этапы працы літаратара. Некаторыя з тэкстаў напісаны рукой яго жонкі Надзеі, якая была і яго памочніцай, і сакратаркай.

Адзін з найвядомых рускіх паэтаў XX стагоддзя, Мандэльштам уваходзіў у групу паэтаў-акмеістаў, сярод якіх былі Ганна Ахматава, Мікалай Гумілёў, Сяргей Гарадзецкі, Міхаіл Зянкевіч, Георгій Іваноў ды іншыя. Ён быў несправядліва абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі і трагічна загінуў ад знясілення і хваробы ў перасыльным пункце ва Уладзівастоку, не дажыўшы да свайго 48-годдзя.



Фота www.ponedelnikmag.com

# «Пушкін у VK»

**Цяпер кожны жадаючы можа «асвяжыць» свае веды па літаратуры ў незвычайнай сацыяльнай сетцы «Пушкін у VK», а зарэгістраваўшыся пад імем аднаго з вялікіх расійскіх пісьменнікаў (Чэхава, Талстога, Астроўскага, Горкага), наогул можна выкладваць пасты ад імя любімага аўтара.**

Гэтая досыць арыгінальная сацсетка была створана пераможцам Усерасійскага конкурсу маладзёжных праектаў. Праект з назвай «Пушкін у VK» стаў сапраўднай знаходкай для аматараў славеснасці і тым месцам, дзе «ажываюць» класікі рускай літаратуры.

Цяпер кожны карыстальнік інтэрнэту можа выбраць аватар любімага пісьменніка, ад імя якога зможа ствараць пасты, атрымаўшы доступ у асабісты электронны кабінет абранага аўтара. Гэтыя паведамленні могуць быць урыўкамі з лістоў, дзённікаў і твораў літаратара, уключаць фотаздымкі, відэа, інфаграфіку, цытаты.

«Пушкін у VK», як і ўсялякая сацсетка, дазволіць праглядаць «сцяну» іншых пісьменнікаў, пісаць каментары да пастоў і ставіць лайкі. Для прагляду кантэнту рэгістрацыя не патрэбна, аднак калі захочацца пакінуць каментар, паставіць лайк ці нават стварыць пост, то зарэгістравацца неабходна.

У літаратурнай сацыяльнай сетцы існуе яшчэ адна цікавая магчымасць — гэта тэсты. Яны зробяць магчымым адчуць сябе любому ўдзельніку героем знакамітых твораў, да прыкладу, Таццянай Ларынай, Чацкім, Наташай Растовай.

Як адзначыў аўтар «Пушкін у VK», галоўнай мэтай праекта з'яўляецца вяртанне грамадству пяшчотных пачуццяў да рускай славеснасці і аднаўленне цікавасці да біяграфій рускіх класікаў, павелічэнне ахвоты да чытання сапраўдных кніг, а не толькі пастоў у сацсетках.

# Вуліца Чынгіза Айтматава

**Паводле звестак інфармацыйнага агенцтва «24.kg», у сталіцы Казахстана — Астане — адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця вуліцы імя вядомага пісьменніка Чынгіза Айтматава.**

Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Рэспублікі Казахстан Бакытжан Сагінтаеў і прэм'ер-міністр Кыргызстана Мухамедкалый Абылгазіеў.

Прэм'ер Кыргызскай Рэспублікі сказаў, што наданне адной з вуліц Астаны імя вялікага кыргызскага пісьменніка — гэта даніна глыбокай павагі да яго памяці ад казахскага народа і асабіста лідэра краіны Нурсултана Назарбаева. Ён падкрэсліў: «Мы ганарымся, што Чынгіз Айтматаў пакінуў пасля сябе вялікую творчую спадчыну. Яго творы перакладзены на 180 моў свету, і ў кожным кутку нашай планеты ў яго ёсць свой чытач. У гэтым годзе плануецца маштабнае святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння Чынгіза Айтматава, у тым ліку ў цюркамоўных краінах, у краінах СНД і Еўропы».

Бакытжан Сагінтаеў адзначыў, што адкрыццё вуліцы імя Чынгіза Айтматава ў Астане ўнясе вялікі ўклад ва ўмацаванне культурных і духоўных сувязяў паміж дзвюма братэрскімі краінамі. «Чынгіз Айтматаў зрабіў вялікі ўклад ва ўмацаванне і развіццё сяброўскіх сувязяў паміж казахскім і кыргызскім народамі. Яго творы блізкія па духу як кыргызам, так і казахам. Ён з'яўляецца тым пісьменнікам, якім могуць ганарыцца абодва нашыя народы», — сказаў прэм'ер-міністр Казахстана.

Было адзначана, што новая вуліца з'яўляецца магістральнай і мае 8 палос руху, да 2020 года яе працягласць дасягне 7,2 км. Яна злучыць гістарычную частку сталіцы з раёнамі новай забудовы.

# Чак Паланік і бухгалтар-махляр

**Аўтар «Байцоўскага клуба» Чак Паланік даў разгорнутае інтэрв'ю «The Guardian», у якім падрабязна расказаў пра махлярства з яго актывамі, а таксама растлумачыў, чаму страта амаль усіх грошай — гэта «добра».**



Фота www.novostilit.ru

Спачатку яго цесць памёр ад раку, потым з'явілася падазрэнне, што даход пісьменніка за апошнія некалькі гадоў быў прысвоены бухгалтарам з яго літаратурнага агенцтва «Donadio & Olson» у Нью-Ёрку. «Падобна, што мой ганарар, прынамсі, за мае апошнія дзве, магчыма, чатыры кнігі, скралі, і таму ў мяне не засталося «рэзерваў», каб пісаць наступную кнігу», — распавёў Чак Паланік. І дадаў: «Грошы, падобна, бралі працяглы перыяд, і пакуль не вядома, колькі было знята і з якіх рахункаў». Цяпер, магчыма, пісьменніку давядзецца прадаць свой дом, каб застацца «на паверхні».

Чак Паланік паведаміў, што яшчэ 15 траўня яго бухгалтара Дарына Уэба, які працаваў у манхэтанскім агенцтве з 2001 года, абвінавацілі ў махлярстве і арыштавалі за падробку дакументаў. 47-гадовага Уэба абвінавачваюць у прысваенні амаль трох з паловай (!) мільёнаў даляраў ЗША. Яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 20 гадоў і штраф у памеры 250 тысяч даляраў.

Але сваё складанае фінансавае становішча пісьменнік называе «мілым» («It's kind of nice»). «Першапачаткова пісьменніцтва было маім спосабам зэканоміць грошы, бо калі вы пішаце, вы іх не марнуеце. Такім чынам, гэта вяртае мяне да пісьменніцтва... — патлумачыў Чак Паланік. — І ёсць усведамленне таго, што я ўсё яшчэ магу вярнуць усё назад і стварыць нешта сапраўды моцнае, яркае і цікавае».

# Штучны інтэлект і Шэкспір

**Як адзначаецца ў паведамленні індыйскага выдання «Dailyexcelsior», навукоўцы з Універсітэта Таронта, Мельбурна і аўстралійскага філіяла IBM «навучылі» штучны інтэлект генераваць санеты ў стылі вялікага ангельскага драматурга і паэта Уільяма Шэкспіра.**



Нейронную сетку, якая піша пяцістопным ямбам з націскам на другім складзе ў стылі класіка брытанскай літаратуры, навукоўцы вырашылі назваць Deepspeare. Прааналізаваўшы 2,7 тысячы санетаў паэта з свабоднай электроннай бібліятэкі, штучны інтэлект навучыўся ствараць уласныя паэтычныя радкі, пры гэтым прытрымліваючыся стылю Шэкспіра.

Эксперты ў галіне англійскай літаратуры, якія вывучалі санеты нейрасеціва, нават адзначылі, што некаторыя тэксты машыны атрымаліся лепшымі, чым у вялікага паэта, паколькі штучны інтэлект больш дакладна трымаецца памеру пяцістопнага ямба, а таксама дакладней падбірае рыфмы. У той жа час навукоўцы прызналі, што ў машыны маюцца праблемы з сэнсам і «піша» яна яшчэ з граматычнымі памылкамі. Таму да Шэкспіра нейрасеціву Deepspeare яшчэ насамрэч далёка.

Аднак у любым выпадку вынаходніцтва навукоўцаў вартае ўвагі, паколькі палова экспертаў, якія ацэньвалі працу штучнага інтэлекту, не змаглі адрозніць арыгінальныя радкі ад кампутарнай версіі. Адзін са стваральнікаў машыны — навуковец Адам Хэмонд — сцвярджае, што цяпер яна зможа рабіць тэксты больш пісьменнымі і чытэльнымі, бо ўсе недахопы відомыя.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Мечыслаў Грыб: бацька няўдалай беларускай дэмакратыі

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

Лукашэнку, безумоўна, раззлавала адмова Грыба выключыць з парадку дня шаснаццатай сесіі Вярхоўнага Савета антыкарупцыйны даклад Сяргея Антончыка. Сам Лукашэнка 9 снежня 1994 года накіраваў на імя Грыба адмысловы ліст. І хаця даклад Антончыка (20 снежня 1994 года) не быў апублікаваны ў галоўных газетах, ён папсаваў шмат нерваў Лукашэнку і ягонаму бліжэйшаму атачэнню.

2 лютага 1995 года ў спецыяльнай прамове Грыб заявіў, што Вярхоўны Савет зазнае правакацыйныя выкіды з боку прэзідэнцкіх структураў. Але рашучы наступ на Вярхоўны Савет Лукашэнка павёў пасля правалу парламенцкіх выбараў і ўдалага рэферэндуму (май 1995 года). Лукашэнка ўсяляк аказваў ціск на дэпутатаў, заклікаў іх да самароспуску, бо, маўляў, пяцігадовы тэрмін дзейнасці Вярхоўнага Савета скончыўся, прымаў антыканстытуцыйныя ўказы аб скасаванні дэпутацкай недатыкальнасці і г.д. У кастрычніку 1995 года Лукашэнка, выступаючы перад ветэранамі, заявіў, што «Грыб развіваецца па спіралі і прасунуўся ад камуніста да нацыянал-радыкала».

Аднак дэпутаты трымаліся і даказвалі, што «стары» Вярхоўны Савет будзе дзейнічаць да абрання новага. Па запыце Грыба 11 кастрычніка 1995 года Канстытуцыйны Суд пацвердзіў легітымнасць Вярхоўнага Савета 12-га склікання.

Тады Лукашэнка вырашыў абрубіць парламентарыям кіпцюры. З «дапамогай» міністра фінансаў Паўла Дзіка фінансаванне парламента было фактычна спыненае. У снежні 1994 года Грыб накіраваў заяву генеральнаму пракурору Васілю Капітану аб прыцягненні Дзіка да адказнасці.

Адначасова Лукашэнка зачыніў Грыбу шлях да дзяржаўных СМІ. У выніку ў снежні 1995 года Грыб звяртаўся на расійскае дзяржаўнае тэлебачанне.

Дарэчы, Мечыслаў Грыб толькі ў верасні-кастрычніку 1995 года накіраваў у Канстытуцыйны Суд некалькі запытаў аб незаконных прызначэннях Лукашэнкам генеральнага пракурора, міністра абароны, міністра ўнутраных спраў і інш.

### Што было б, калі...

Гісторыя не трывае ўмоўнага ладу. Можна ўявіць, што самай непрыемнай старонкай у жыцці Грыба з’яўляецца збіццё і гвалтоўная эвакуацыя (у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года) з Вярхоўнага Савета дэпутатаў ад апазіцыі БНФ, якія абвясцілі галадоўку супраць рэферэндуму. Што было б, калі б Мечыслаў Іванавіч павёў сябе больш рашуча? Ці пайшла б наша гісторыя ў іншы бок? Вось што казаў лідар парламенцкай апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк на пасяджэнні нечарговай сямнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета 14 чэрвеня 1995 года:

«Тое, што зрабіў прэзідэнт, гэта ўжо пытанне не толькі парушэння Канстытуцыі, гэта пытанне Крымінальнага кодэкса. І заведзена крымінальная справа. І ёй не будзе тэрміну даўнасці. Да яе вернуцца, колькі б часу ні прайшло, бо гэта дзяржаўны пераварот. Я лічу, Мечыслаў Іванавіч, што трэба, каб сабраўся Прэзідыум (Канстытуцыя вас абавязвае), распрацаваў план дзеяння для Вярхоўнага Савета, для тых дэпутатаў, якія на пастаяннай аснове. Павінен ажыццяўляцца кантроль над выкананнем Канстытуцыі і законаў, вы павінны выконваць свае функцыі. Інакш вы, Мечыслаў Іванавіч, і тыя, хто вас будзе падтрымліваць, будуць расчышчаць шлях для дыктатуры на Беларусі. Вы не выказаліся пасля таго, як 12 красавіка збілі дэпутатаў. І вы прадаўжаеце гэту палітыку па сённяшні дзень. Я баюся, што вы будзеце адказваць за гэта разам з прэзідэнтам. Таму я яшчэ раз заклікаю вас і Вярхоўны Савет выконваць законы і свае канстытуцыйныя абавязкі».

У сваіх мемуарах Грыб абмінае гэтую старонку і толькі гаворыць пра тое, што павінен быў праводзіць лінію большасці.

### І зноў у парламенце

Насуперак жаданням Лукашэнкі, Вярхоўны Савет новага, 13-га склікання быў усё ж абраны ў лістападзе-снежні 1995 года. У складанай барацьбе Мечыслаў Грыб атрымаў запаветны дэпутацкі мандат. Ён вырашыў паспытаць шчасця і зноў узначаліць парламент. Кандыдатура Грыба была вылучана маладым дэпутатам Паўлам Знаўцам. Але ж Вярхоўны Савет быў ужо не той. Кандыдатуру Грыба падтрымалі толькі 18 дэпутатаў.

Мечыслаў Іванавіч не крыўдзіўся. У Вярхоўным Савеце ён увайшоў у склад пастаяннай камісіі па міжнародных справах Пятра Краўчанкі.

У апошнім Вярхоўным Савеце Грыб стаў адным з самых паслядоўных крытыкаў беларускага прэзідэнта. У маі 1996 года Грыб стаў старшынёй часовай камісіі па расследаванні абставінаў затрымання 26 красавіка 1996 года дэпутата Паўла Знаўца (быў вызвалены на наступны дзень). Аднак камісія так нічога не выявіла.

Мечыслаў Грыб рашуча выступіў супраць рэферэндуму 1996-га. А пасля рэферэндуму вымушаны быў пакінуць афіцыйную палітыку і сысці ў апазіцыю.

# 1994: Год сабакі пачынаецца

Алег НОВІКАЎ

**У віцебскай гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі выявілі нястачу ваеннай тэхнікі. У сталіцы 300 ліфтаў не працавалі з-за таго, што ў іх скралі дэталі з каляровых металаў. У Гомелі пры спробе абрэзаць дрот таксафона злавілі чальца гарадскога выканкама. Гэта быў 1994-ы, год Сабакі.**

Хоць СССР на той час ужо больш за два гады як памёр, у 1994-ты — Год сабакі — краіна, мабыць, у сілу савецкай звычкі, уступіла з новым рэкордам. Упершыню ў гісторыі незалежнасці індэкс цэн за адзін месяц (снежань 1993-га) вырас больш чым на 50 працэнтаў. Гэта значыць, што інфляцыя ў краіне ператварылася ў гіперінфляцыю. Увогуле, цэны ў 1993-м выраслі ў 28 разоў, а сярэдняя зарплата ўзімку 1993–1994 складала ў эквіваленце ўсяго 23 долары.

Зрэшты, абывацелі слаба рэагавалі на рэкорды эканомікі. Хутчэй, іх цікавілі новыя практыкі выжывання, якія часта ішлі насуперак закону. У віцебскай гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі нават выявілі нястачу ваеннай тэхнікі. У сталіцы 300 ліфтаў не працавалі з-за таго што ў іх скралі дэталі з каляровых металаў. У ФРГ на рынку філатэлістаў з’явіліся маркі РБ, пра якія Мінсувязі, як высветлілася, нічога не ведае. Адна з версій — хтосьці з супрацоўнікаў міністэрства таемна надрукаваў самапальныя маркі, каб пасля штурхануць іх за валюту. У Гомелі пры спробе абрэзаць дрот таксафона злавілі чальца гарадскога выканкама.

Але ўсіх, думаецца, заткнулі за пояс бамжы з Гродна. Яны асвоілі новую тактыку — хавацца ў сталовых перад закрыццём, каб потым, калі персанал сыдзе, удосталь наесціся. Наогул, гродзенскія бамжы чамусьці былі вельмі нахабныя. Яны нават умудрыліся арганізаваць начлежку ў корпусе танка, які ў якасці помніка стаяў на пастаменце ў цэнтры горада.

Нядзіўна, што на зонах імкліва расла колькасць зэкаў. У лютым МУС пачаў біць у званы — колькасць зняволеных дасягнула паказчыкаў пачатку 1950-х гадоў, калі ў СССР быў пік злачыннасці. Да ўсяго гэтага дадаліся новыя праблемы: трэба было кудысьці ўладкоўваць беларусаў, якіх пачалі рэпатрыяваць з расійскіх калоній.

Кіраўніцтву ж краіны, відавочна, было не да зняволеных. Урад займаўся аб’яднаннем фінансавых сістэм Беларусі і Расіі. Валютны пакт чыноўнікі разглядалі як панацэю ад усіх няшчасцяў. Аншлюс «зайчыка» ў пачатку 1994 года анансавалі некалькі разоў — і ўвесь час у апошні момант падпісанне пагаднення адкладвалася.

Пакуль на высокім узроўні ішлі перамовы наконт лёсу «зайчыка», на месцах даводзілася выжываць аўтаномна. Так, дэпутаты Дубровенскага райсавета пастанавілі браць валюту за праезд па тэрыторыі раёна. У Віцебску адмовіліся ад продажу талонаў на грамадскі транспарт. У аўтобусах і тралейбусах можна было ездзіць толькі па праязных, якія каштавалі траціну зарплаты.

Акрамя аб’яднання валют, урад актыўна гуляў у палітыку. Наогул, у пачатку 1994-га ўзмацніўся палітычны крызіс. Алегорыяй настрояў у грамадстве была карыкатура з навагодняга нумару «Народнай газеты», на якой хлопчык — Новы Год цягнуў старога Дзеда Мароза з трыбуны са словамі: «Вы апынуліся занадта гаваркім, дзядуля». Пад дзядулем разумеўся ўвесь стары палітычны бамонд.

Нядзіўна, што ў пачатку 1994-га заканадаўцам палітычнай моды лічыўся Жырыноўскі, чыя партыя на выбарах у расійскую Думу атрымала другое месца. Прэса пісала, што на пасаду фюрэра беларускай секцыі ЛДПР прэтэндавалі ажно шэсць чалавек, хоць такая структура не была зарэгістраваная.

Закладнікам працэсу імклівага расчаравання ў кіроўнай эліце апынуўся старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, які фармальна ўзначальваў дзяржаву. Многія палітыкі, у тым ліку прадстаўнікі Саўміна, спрабавалі зрабіць сабе піяр, патрабуючы адстаўкі спікера. Паводле падлікаў газеты «Свабода», Шушкевіча на стане на 1 студзеня 1994 спрабавалі зрынуць аж шэсць разоў. Адзін раз палітыка выратаваў гіпертанічны крыз: з-за хваробы старшыні галасаванне пра адстаўку адклалі. Іншы раз — дэмарш Ельцына, які забараніў Кебічу «капаць» пад Шушкевіча, што выступіў саюзнікам Крамля ў кастрычніку 1993-га. Але значна часцей Шушкевіча ратавала сітуатыўная падтрымка дэмакратаў у парламенце. Так ці інакш, на пачатак чарговай сесіі, 18 студзеня, апазіцыя анансавала новую спробу імпічменту.

Але да таго найперш усёй краінай трэба было перажыць прызначаны на 16 студзеня візіт Клінтана. Да яго рыхтаваліся вельмі старанна. Так, у вайсковай частцы ва Уручы, дзе чакалі Біла Клінтана, у вартавых забралі зброю. Але вайскоўцы былі ўсё роўна задаволеныя — пад прыезд янкі дарожкі ў іх частцы ачысцілі ад лёду і снегу. Патрапілі пад зачыстку і двое паляўнічых, якія напярэдадні візіту Клінтана чамусьці вырашылі папаляваць у Курапатах.

Як і належыць, напярэдадні пачалі цыркуляваць самыя незвычайныя чуткі. Мінскія пікейныя камізэлькі кляліся, што Біл Клінтан вязе дарожную карту ўступлення РБ у NATO, згодна з якой Сінявокая стане чальцом Паўночна-Атлантычнага альянсу да 2000 года. Другая папулярная тэма — Клінтан прымусіць Шушкевіча і Кебіча распусціць парламент і абвясціць датэрміновыя выбары ў ВС.

Нягледзячы на тое, што Клінтан выдаткаваў на сустрэчу з Пазняком не 10 (як планавалася), а цэлых 20 хвілін, ніякіх палітычных метамарфоз візіт не выклікаў.

Пакуль Клінтан ціснуў мінчанам рукі на плошчы Перамогі, каля бюста Дзяржынскага, што насупраць будынку КДБ, бушавалі жарсці. Тут сумаваў пікет камуністаў, незадаволеных прыездам «мерыкоса». Акцыя перастала быць сумнай, калі гісторык Алег Дзярновіч, які праходзіў міма, іранічна пракаментаваў імпрэзу. Натоўп накінуўся на гісторыка з крыкам: «Бей агента ЦРУ!». Расправа працягвалася, пакуль не прыбыла міліцыя. Яна выцягнула Дзярновіча з бойкі, даставіла ў апорку, дзе адразу пачала шыць гісторыку арганізацыю масавых беспарадкаў. У выніку бакі сышліся на хуліганцы, але пры гэтым у затрыманага забралі ў якасці штрафу ўсю стыпендыю аспіранта.

Нарэшце Клінтаны з’ехалі, прыхапіўшы, у тым ліку, і спецыяльны падарунак — дэкаратыўны саламяны капялюшык. Яго адмыслова для Хілары зрабіла ўмеліца-майстрыха Вера Салдатава. Самае вясёлае, што МЗС, які замовіў Веры Салдатавай капялюшык, так і не аддаў 30 долараў, абяцаных ёй за працу.

Як толькі лайнер Клінтана знік у аблоках, «мачылава» Шушкевіча працягнулася. Падставай на гэты раз стаў інцыдэнт з удзелам двух лідараў кампартыі Літвы, якія збеглі ў Мінск пасля распаду СССР. Літоўскія спецслужбы пранікі ў Мінск, затрымалі камуністаў, каб пасля вывезці ў Вільню. У КДБ не ведалі, што па падведамнай ім тэрыторыі шныраць замежныя джэймсы бонды. Не быў праінфармаваны Літвой і наш МЗС. Дзіўна выглядаюць і паводзіны памежнікаў, якія выпусцілі за мяжу аднаго з літоўскіх камуністаў, хаця той не меў на руках пашпарта.

Праўда, былі праінфармаваныя пра аперацыю ў пракуратуры і міліцыі, кіраўніка якой і атакавала левая апазіцыя ды фракцыя Кебіча (той канфліктаваў з дырэктарам МУС). Дэпутатам прапанавалі рэзалюцыю пра адстаўку галоўнага чэкіста Шыркоўскага і міністра МУС Ягорава.

Адстаўкі сілавікоў супраціўляліся дэмакраты, якія лічылі Ягорава гарантам невыкарыстання міліцыі супраць народа. Дэпутат Лукашэнка меў асобае меркаванне — заклікаў разам з Ягоравым і Шыркоўскім пазбавіцца ад Шушкевіча і Кебіча.

У Авальнай зале, дзе бушавалі жарсці, тады было яшчэ не вядома — адначасова ў суседні з парламентам квартал (там, дзе знаходзіцца Тэатр аперэты) увайшла частка ўнутраных войскаў. Справа запахла спробай ваеннага перавароту...

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Гопнікі як культурная спадчына

Міністэрства культуры Украіны і яго чыноўнікі падзяліліся сваімі планамі. Адна з ідэй выглядае вельмі арыгінальна. Прапануецца ўключыць у культурную спадчыну Украіны такія з'явы, як львоўская «гвара» і львоўскае «бацярства». «Гвара» — львоўскі дыялект, які складаецца з украінскіх, польскіх, ідыш, венгерскіх і нямецкіх слоў. Яшчэ весялейшы феномен «бацярства» — львоўскай субкультуры, якая існавала з сярэдзіны XIX да сярэдзіны XX стагоддзя. Назва субкультуры паходзіць ад вугорскага слова «betyár», якое азначае «разбойнік», «авантурыст». Ініцыятыва вельмі незвычайная, паколькі «бацяры» па сутнасці — гэта звычайныя гопнікі. Большасць бацяраў былі жыхарамі бедных прадмесцяў. Акрамя таго, усім вядома пра актыўны ўдзел бацяр у бітве за Львоў у лістападзе 1918-га. Яны актыўна супраціўляліся спробам украінцаў захапіць Львоў, які бацяры абвясцілі сталіцай Заходне-Украінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР). Так ці інакш, Кіеў настроены забраць бацяраў сабе. Пра гэта сведчыць і нядаўні выхад у пракат фільма «Высакародныя валацугі», героямі якога з'яўляюцца бацяры. Праўда, на экране яны падобныя хутчэй на хіпстараў, чым на «пацаноў».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРГ. Забарона жыць на дрэвах




У ФРГ незвычайная паліцэйская акцыя. Перад праваахоўнікамі пастаўлена задача знішчыць дамы, пабудаваныя на дрэвах у раёне лесу пад назвай Hambacher Forst, што ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Дом на дрэве — будынак, аснову канструкцыі якога складаюць адзін або некалькі стваloў. Мода жыць на дрэвах узнікла ў Еўропе прыкладна ў 1980-х гадах на хвалі росту экалагічнага руху. Аднак сапраўдны бум пачаўся ў 1990-я, калі з'явіліся новыя тэхналогіі будаўніцтва і тэхнікі бяспекі. Гэта спрыяла і цікавасці да экалагічных пытанняў. Калі ў Hambacher Forst пачалася масавая высечка лесу, менавіта такім чынам яе паспрабавалі спыніць экаактывісты: было вырашана жыць у лесе, на дрэвах. Пяць гадоў таму ў лесе было пабудавана 25 дамоў. Але днямі паліцыя палезла на дрэвы, каб закрыць лавачку. Знешне ўсё выглядае камічна, але падчас такога штурму адзін з эколагаў упаў і разбіўся. Навіна ўскалыхнула грамадскасць. На акцыю салідарнасці з камунай аматараў жыцця на дрэвах выйшлі сем тысяч чалавек.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. З эмігрантаў сфармуюць войска?

Не так даўно Нацыянальны фронт (NF) Марын Ле Пэн змяніў назву. Цяпер партыя завецца Нацыянальны сход. Адна з задач рэбрэндынгу палягала ў тым, каб пазбавіцца ад праварадыкальнай спадчыны Нацыянальнага фронту, якая палохае выбаршчыкаў. Праўда, пакуль новая назва не паўплывала на сяброў NF. На апошняй сустрэчы лідараў была агучана чарговая ідэя. Фрэдэрык Бакалеці, адзін з рэгіянальных партыйных баронаў, прапанаваў арыгінальна вырашаць праблему мігрантаў. Палітык лічыць, што іх усіх трэба аўтаматычна запісваць у Замежны легіён — вайсковае фармаванне, якое ўваходзіць у склад сухапутных войскаў Францыі і камплектуецца пераважна з замежнікаў. Больш за тое, мігрантам будзе прапанавана выправіцца ў складзе Легіёну на сваю радзіму і навесці там мір і парадак. Прапанова, на першы погляд, выклікае смех, аднак ілюструе палітычную культуры ўнутры партыі Ле Пэн.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Жэня Лукашын супраць нормаў

Дэпутаты казахскага Мажылісу часам, што называецца, даюць жару. Такое здарылася 20 верасня падчас абмеркавання законапраекта пра стварэнне нацыянальнага фонду падтрымкі айчыннага кіно. Падчас дэбатаў спікер Нурлан Нігматулін назваў парушэннем этычных нормаў паводзіны герояў фільма «Іронія лёсу, ці З лёгкай парай». Паводле словаў спікера, у кіно ёсць такія адмоўныя моманты, як распіванне спіртных напояў у грамадскіх месцах, пранікненне ў чужую прыватную ўласнасць. Заява выклікала ажыўленне ў залі. Так, міністр культуры і спорту Арыстанбек Мухамедыўлы прыгадаў, што галоўны герой таксама скраў чужую жонку. Тут жа сярод дэпутатаў з'явілася апазіцыя. Адзін з дэпутатаў папраівў міністра, адзначыўшы, што гераіня яшчэ не была жонкай. У выніку спрэчкі кіно пра прыгоды Жэні Лукашына ўсё ж не сталі забараняць. Іншыя праблемы вырашылі абмеркаваць пазней.

**Паводле казахскай прэсы**




Фота АР

# Фотаскандал як слабасць апазіцыі?

Алег НОВІКАЎ

**У Вашынгтоне прайшла сустрэча прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды з прэзідэнтам ЗША Дональдам Трампам. Сустрэча ў цэлым мела стратэгічнае значэнне для далейшага развіцця не толькі Польшчы, але і ўсяго рэгіёну.**

Дастаткова ўзгадаць тую акалічнасць, што Варшава пагадзілася самастойна фінансаваць пабудову амерыканскай базы «Форт Трамп». Упершыню спрацаваў прапанаваны Трампам саюзнікам прынцып: мы гатовыя абараняць выключна тых, хто будзе нам плаціць. Цяпер іншым чальцам NATO трэба моцна задумацца.

Між тым, у польскай прэсе смакуюць не гэта, а зробленую з няўдалага ракурсу фатаграфію Анджэя Дуды ў Авальнай зале. На фота польскі гарант, стоячы на рагу стала, падпісвае дакумент. Побач размясціўся ў крэсле Дональд Трамп.

Такая мізансцэна дазволіла аналітыкам назваць сустрэчу Дуды і Трампа «васальнай». Зрэшты, гэта яшчэ самая мяккая ацэнка. На інтэрнэт-форумах згаданай сцэне даюць значна больш жорсткія ацэнкі. «Прэзідэнт Польшчы ў позе афіцыянта — дзве кавы, два піроржных. Што яшчэ пажадаеце, спадар Дональд?», «Добра, што Трамп яшчэ не пасунуўся. У такім выпадку прэзідэнту давялося б падпісваць дакумент на каленях». Не абышлося і без фотажабаў. На адной з іх выяўленая Моніка Левінскі, якая выхваляецца тым, што яна ўжо не адзіная з тых, хто стаяў на каленях у кабінеце амерыканскага прэзідэнта.

Да тэмы высмейвання няўдалай позы прэзідэнта актыўна падключылася ліберальная апазіцыя. У тым ліку яе лідарамі мусіруецца думка пра тое, што Дуда прыняў васальную паставу інстынктыўна, паколькі з'яўляецца крэатурай і марыянеткай Яраслава Качыньскага, лідара ўрадавай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Звяртаецца ўвага на тое, як нядаўна падпісваў дамову з Трампам паўночнакарэйскі дыктатар Кім Чэн Ын. Каб не ўзнікла ілюзій пераваг аднаго з бакоў, дыпламаты ЗША і КНДР дамовіліся, што ўсе дакументы будуць падпісаныя за адным доўгім сталом. Яго спецыяльна знайшлі і прывезлі ў Сінгапур з ЗША.

Акрамя таго, у апазіцыі звяртаюць увагу, што кампетэнцыя польскага прэзідэнта не прадугледжвае магчымасці распараджацца бюджэтам дзяржавы. Дуда не меў права абяцаць Трампу выдаткаваць на амерыканскую базу больш за два мільярды долараў з польскай казны. Бюджэтная палітыка — гэта юрысдыкцыя ўрада.

Не прайшоў міма канфузу Дуды і легендарны Лех Валенса, які таксама апаніруе Качыньскаму. Валенса выклаў у сетку набор фатаграфій, прысвечаных сваёй сустрэчы з Трампам. На здымках Лех сядзіць, а Трамп стаіць побач. «Знайдзі адрозненне», — падпісаў здымкі экс-прэзідэнт. Праўда, Валенса апускае той факт, што Трамп на момант гэтых здымкаў быў усяго толькі бізнесоўцам.

> **Дуда не меў права абяцаць Трампу выдаткаваць на амерыканскую базу больш за два мільярды долараў з польскай казны. Бюджэтная палітыка — гэта юрысдыкцыя ўрада**

Напэўна, самы незвычайны каментар можна прачытаць на старонках часопіса «Wprost». Запрошаны выданнем эксперт лічыць, што выпадак з Дудам трапіць ва ўсе падручнікі дыпламатыі як феерычны правал пратакольнай службы. «Згодна дыпламатычнаму пратаколу, пасля асабістых перамоў прэзідэнты павінны пайсці ў папярэдне абраны пакой, дзе мусіць быць спецыяльны стол для падпісання дакументаў. Усе, хто працаваў над дакументамі, павінны ўдзельнічаць, таму што гэта выказванне павагі да гэтых людзей і да дзяржавы», — тлумачыць эксперт. Дарэчы, ён заклікае да адставак у МЗС, «паколькі тое, што адбылося, можна разглядаць як абразу дзяржавы». Ён пагаджаецца з тэзісам, што амерыканцы не палічылі патрэбным узгадняць з палякамі дэталі пратаколу, паколькі глядзяць на іх пагардліва.

Нават у лагеры кансерватараў, на якіх арыентуецца PiS, чуваць бурчанне. На сайце Kresy.pl лічаць, што цяперашняя адміністрацыя занадта шмат інвестуе ў «стратэгічны саюз» са Злучанымі Штатамі ў галіне ваеннай бяспекі. Нацыяналісты сцвярджаюць, што мэта амерыканскай базы ў Польшчы — не абарона ад Расіі, а стварэнне дадатковага ціску на Варшаву. Усё праз тое, што амерыканскі суд вось-вось, мяркую, высуне пазоў на 300 мільярдаў долараў, якія пойдуць на кампенсацыю для сваякоў польскіх габрэяў — ахвяраў Халакосту.

Відавочна, што кампанія наконт сцэны ў Авальнай зале мае палітычны кампанент. На носе — мясцовыя выбары, і тэма «сервільнага» прэзідэнта можа дапамагчы апанентам PiS набраць пункты. Акрамя таго, поспех на мясцовых выбарах можа стаць пралогам да перамогі на парламенцкіх выбарах у 2019-м. А там на гарызонце і прэзідэнцкія выбары 2020-га.

З іншага боку, прырода скандалу вакол паставы Дуды сведчыць, хутчэй, пра слабасць ліберальнай апазіцыі, якая не здольная атакаваць партыю Качыньскага па глабальных, стратэгічных пытаннях. Больш за тое, падымаючы тэму патрыятызму, лібералы павялічваюць шанцы нацыяналістычнай партыі Паўла Кукіза, да якой могуць перайсці галасы выбаршчыкаў PiS. У выніку Качыньскі, які страціць большасць у Сейме, можа запрасіць Кукіза ў кааліцыю, што яшчэ больш узмоцніць партыю еўраскептыкаў у Варшаве.

Зрэшты, што варажыць: 16 лістапада за Бугам адбудзецца першы тур выбараў, і тэндэнцыі ў польскай палітыцы будуць больш зразумелыя.

# Альтэрнатывы Мюнхену не было?

Алег НОВІКАЎ

**80-я ўгодкі Мюнхенскай дамовы не абышліся без заклікаў рэабілітаваць прэм'ера Невіла Чэмберлена. Таго самага, хто, аддаўшы Гітлеру Чэхаславакію, як лічыцца, даў зялёнае святло Другой сусветнай вайне.**


**Чэмберлен: «Я прынёс вам мір...»** Фота: РИА «Новости»

Як вядома, Нэвіл Чэмберлен, калі ў верасні 1938 года вярнуўся з Мюнхена, ледзь не на кожным кроку любіў казаць: «Я прынёс вам мір». Натоўп рэагаваў на рэпліку прэм'ера бурнымі авацыямі. Лічылася, што Гітлер, які атрымаў паводле Мюнхенскай дамовы чэшскія Судэты, нарэшце супакоіцца. Аднак ілюзіі існавалі нядоўга. Ужо ў пачатку 1939-га, пасля анексіі нацыстамі Чэхіі, Еўропа імкліва пакацілася да Другой сусветнай вайны.

З улікам наступстваў Мюнхена, фантазія малюе нам Гітлера ў верасні 1938-га як асобу, вельмі задаволеную дамовай з Чэмберленам. Аказваецца, насамрэч усё было не так. Як распавядаў пасля вайны адзін з бонзаў Трэцяга Рэйху, пасля Мюнхена Гітлер літаральна не знаходзіў сабе месца. Ён лічыў, што «гэты стары азадак» — так ён называў Чэмберлена — банальна яго «кінуў».

Калі верыць некаторым сведкам, Гітлер напярэдадні Мюнхену марыў пра хуткі захоп усёй Чэхаславакіі. Пасля планавалася перакінуць нямецкае войска на французскую мяжу і прымусіць Парыж і Лондан прызнаць факт ліквідацыі чэхаславацкай дзяржаўнасці. Іншыя ж сведкі кажуць, што гэтая думка не пакідала фюрэра да канца жыцця. Прыкладна за пару месяцаў да смерці ён шкадаваў, што не пачаў вайну ў верасні 1938-га.

Бліцкрыг 1938-га, быццам бы, сарваў той самы Чэмберлен, які літаральна навязаў Берліну мірныя кансультацыі. Прычым прэм'ер дзейнічаў так не таму, што хацеў узняць свой рэйтынг. Ён сыходзіў з дакладаў Генштабу і спецслужбаў, якія адкрыта пісалі: вынікам хуткага канфлікту з Германіяй будзе крах Брытанскай імперыі.

Максімум, што мог зрабіць Лондан у выпадку вайны — даслаць на дапамогу Празе два дывізіёны, якія, натуральна, не маглі вырашыць ход усёй кампаніі. З іншага боку, існавалі сумневы: ці падтрымаюць брытанскія дамініёны ідэю вайны за Чэхаславакію. Нават брытанцы не мелі вялікага жадання ваяваць з нацыстамі, антыгуманістычная сутнасць ідэалогіі якіх яшчэ сябе цалкам не праявіла. Лічылася, што нямецкія фашысты — аналаг італьянскіх. Тыя, асабліва іх правадыр Мусаліні, зарэкамендавалі сябе на той час як нейкія клоуны-дэмагогі. Толькі пасля Крыштальнай Ночы — яўрэйскага пагрому ў Германіі ў лістападзе 1938-га — нямецкі фашызм стаў успрымацца як выклік еўрапейскай цывілізацыі.

Вайна з Германіяй увосень 1938-га пагражала Брытаніі дыпламатычнай ізаляцыяй. Амерыка на той час трымалася нейтралітэту. Савецкі Саюз таксама не меў жадання дапамагаць Лондану. Хутчэй, наадварот: Сталін, скарыстаўшыся момантам, «аджаў» бы Латвію і Эстонію, якія ўваходзілі ў сферу брытанскага ўплыву.

Не было ў Чэмберлена асаблівай надзеі на войска Францыі. Па той бок Ла-Маншу панавала сапраўдная палітычная анархія, калі Кабміны знаходзіліся пры ўладзе ў сярэднім каля дзевяці месяцаў. Падзеі вясны 1940-га, калі немцы за некалькі тыдняў прымусілі французаў капітуляваць, пацвердзілі хваляванні Чэмберлена наконт вайсковай здольнасці Парыжу. Такім чынам, у выпадку вайны Англія павінна была рыхтавацца ў адзіноце супрацьстаяць Германіі, якая мела больш рэсурсаў для доўгатэрміновай вайны.

Як бачым, хапае шмат рэзонаў прызнаць Чэмберлена не палітыкам-лузерам, а архітэктарам перамогі над Гітлерам. Гэта не кажучы пра тое, што літаральна за год ён здолеў моцна мадэрнізаваць брытанскія вайсковыя сілы: наладзіў выпуск самалётаў, пабудаваў сістэму радараў і гэтак далей.

Аднак версія пра тое, што ў Мюнхене Чэмберлен стратэгічна перамог Гітлера, не стала мейнстрымам гістарычнай думкі. Самі аматары Чэмберлена тлумачаць гэта ў тым ліку змовай аматараў Уінстана Чэрчыля, які ў 1930-я гады крытыкаваў палітыку Чэмберлена на супакаенне Гітлера. На Захадзе даўно склаўся культ Чэрчыля, што сімвалізуе супраціў нацызму і камунізму. Важным элементам гэтага міфу з'яўляецца гісторыя, як Чэрчыль у 1940-м узначаліў краіну, прыйшоўшы на змену слабаму прэм'еру, што прайграў першы этап вайны, і ў дадатак даў Гітлеру падмануць сябе ў Мюнхене. Зменшыць імідж Чэмберлена — значыць, прынізіць статус Чэрчыля.

Цяжка сказаць, ці існуе змова фанатаў Чэрчыля. Але на сайтах, якія прысвечаны спадчыне сэра Уінстана, сапраўды, хапае тэкстаў супраць спробаў рэвізіі трактоўкі Мюнхена. На думку іх аўтараў, у верасні 1938 года заходнія саюзнікі маглі адносна лёгка перамагчы Вермахт, які саступаў ім па ўсіх катэгорыях: авіяцыя, жаўнеры, тэхніка. Не кажучы пра тое, што ў самой нямецкай палітычнай эліце на той час хапала крытыкаў нацызму. У той час у гэтых колах нават абмяркоўвалася ідэя антыгітлераўскага путчу. Сама Германія ў эканамічным плане была вельмі слабай для паўнавартаснай вайны.

Аднак, напэўна, галоўная перашкода рэабілітацыі Чэмберлена — не падступнасць сімпатызантаў Чэрчыля або нават іх аргументы. Сама думка пра тое, што можна было так проста ахвяраваць Чэхаславакіяй, і здаць яе нацыстам, дасюль не ўкладваецца еўрапейцам у галовы.


Фота www.novayagazeta.ru

**Шырока вядомы здымак: маці з калыскай на выпадак газавай атакі Вялікабрытаніі 1938 года**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ганна Акапян



Журналістка, жонка армянскага прэм'ера Ніколы Пашыняна, які прыйшоў да ўлады на хвалі вулічных пратэстаў вясной гэтага года, стала галоўнай піяр-зброяй апазіцыі перад выбарамі савета старэйшын Ерэвана.

Літаральна за тыдзень на Акапян тройчы злівалі кампрамат. Спачатку папарацы злавілі яе на шопінгу ў дарагіх парыжскіх крамах. Потым угледзелі на руцэ жонкі прэм'ера гадзіннік коштам у сем тысяч долараў — сума, непад'ёмная для тых, хто працуе ў мясцовай журналістыцы. Нарэшце, падставіўся сам Пашынян, калі прыняў супярэчлівае кадравае рашэнне — прызначыў сваім памочнікам цырульніка жонкі.

Аднак у выніку «чорны піяр» не спрацаваў. Блок «Мой крок», які падтрымліваў Пашынян, перамог на выбарах, набраўшы 81 працэнт галасоў. Вынікі выбараў у Ерэване паказалі, што ў Пашыняна ўсё яшчэ працягваецца «мядовы месяц» з вуліцай. А з улікам таго, што ў Ерэване жыве кожны трэці армянскі выбаршчык, блок Пашыняна можа разлічваць на перамогу на выбарах у парламент, дзе сёння дэпутацкая большасць у рэспубліканцаў — прадстаўнікі старой партыі ўлады.

Зрэшты, няма сумневаў і ў тым, што вал кампрамату супраць Ганны Акапян будзе толькі нарастаць.

### Пётр Парашэнка



Апошнім часам прэзідэнт Украіны выступае з рэзка антымаскоўскіх пазіцый, каб кансалідаваць вакол сябе правы электарат перад прэзідэнцкімі выбарамі 2019-га.

Між тым, у экспертным асяроддзі стала модным меркаванне пра тое, што Парашэнка з'яўляецца галоўным прапуцінскім кандыдатам. Першым версію прапанаваў вядомы расійскі палітолаг Станіслаў Бялкоўскі. Амаль сінхронна Бялкоўскаму ва ўкраінскую прэсу быў зліты сцэнар, нібыта ўхвалены ў адміністрацыі Парашэнкі, які, у сваю чаргу, падтрымаў Пуцін. Паводле гэтага сцэнару, Парашэнка выйграе выбары прэзідэнта, каб пасля парламенцкіх выбараў стварыць шырокую кааліцыю з прарасійскімі і пострэгіянальнымі палітсіламі. Згодна з такой схемай лідар «Апазіцыйнага блока» Юрый Бойка становіцца прэм'ерам, а кіраўнік «Украінскага выбару», кум Пуціна Віктар Медведчук — спікерам Вярхоўнай Рады.

Ідэю падтрымкі Парашэнкі з боку Крамля віталі нават некаторыя расійскія патрыёты. Пераабранне вельмі непапулярнага Парашэнкі (зараз яго рэйтынг — 5–7 працэнтаў), маўляў, паскорыць дэмантаж украінскай дзяржаўнасці.

Натуральна, каманда Парашэнкі наяўнасць такога сцэнару адмаўляе. Між тым, усплыла пацешная дэталь будучых выбараў украінскага прэзідэнта — яны прызначаныя на 31 сакавіка 2019-га. Гэта значыць, што канчатковыя вынікі выбараў стануць вядомыя 1 красавіка, у Дзень дурня, што завочна гарантуе мноства жартаў на адрас пераможцы.

### Джон Турмэль



67-гадовы канадзец лічыцца самым вялікім палітычным лузерам у свеце. Справа ў тым, што Джон стала, з 1979 года, балатуецца на розныя пасады — ад мясцовага дэпутата да прэм'ера — і ўсё беспаспяхова.

Усяго Турмэль праваліўся на выбарах 95 разоў — абсалютны рэкорд за ўсю гісторыю выбараў у свеце. Часам за яго галасавалі 11 чалавек, а часам — аж больш за 4500. Прычына правалаў, магчыма, звязаная з радыкальнай для сярэднестатыстычнага выбаршчыка праграмай Турмэля: яна заўжды ўключала такія пункты, як легалізацыю азартных гульняў, прастытуцыі і наркотыкаў.

Аднак усе мінулыя фіяска не прымусілі Джона капітуляваць. На гэтым тыдні ён заявіў пра намер пайсці на выбары ў 96-ты раз. Ён паспрабуе заняць пасаду мэра роднага горада, дзе жывуць каля 90 тысяч чалавек. Праўда, некаторыя высновы з папярэдніх паразаў Турмэль усё ж зрабіў. Лейтматывам яго цяперашняй выбарчай кампаніі будзе не легалізацыя наркотыкаў або прастытуцыі, а скасаванне вельмі непапулярнага сярод канадцаў падатку.

Дарэчы, магчыма, на гэты раз Джон сапраўды мае шанс. СМІ бясплатна зрабілі яму суперрэкламу. Ледзь не ўся канадская прэса ўзгадала пра новую балаціроўку Турмэля загалоўкамі кшталту «суперлузер вяртаецца».

# Першая: невядомая Палута Бадунова

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

*Змагайся, як мага — зможаш!*
*(Кліч беларускіх эсэраў)*

**Не ўсё яшчэ сказана, напісана пра Палуту Бадунову — першую сучасную беларуску высокага палітычнага ўзроўню. Першую народную сакратарку-міністарку. Адну з першых рэспубліканак. Першую незалежніцу.**



Уадвечным станаўленні, самапаляпшэнні, пошуку і сумненнях, Палута Бадунова — кабета, якая сталася піянеркай у асваенні беларускай публічнай незалежнай прасторы. Калі і сёння нас здзіўляе факт, што ў беларускай палітыцы не жаночае аблічча, дык сто гадоў таму кабетаў у нашай палітыцы не было зусім... за адным выняткам. Кажучы сучаснай мовай, яна распачала нашу сучасную гендарную палітычную гісторыю.

Дысідэнтка, апазіцыянерка, урэшце, рэпрэсаваная, яна пакінула шмат пытанняў, зачэпак з боку калегаў, а таксама з боку гісторыкаў. Яна пакінула да сёння і адзін сюрпрыз у выглядзе сшытку аповедаў, якія ніколі не друкаваліся: успрымаліся як малавартасныя, як спроба пяра. Да ўсяго яна — першая і адзіная ў сузор'і БНР, стагоддзе якога мы адзначаем сёлета.

Да стагоддзя БНР выдалі шмат кніг, але праз патрыярхальную нядбайнасць цалкам забылі Палуту Бадунову. Канешне, перавыдалі кнігу В. Лебядзевай, з'явіліся артыкулы пра Палуту ў незалежнай прэсе, але самі тэксты Палуты так і застаюцца ў друкапісу, у архівах і раскіданыя ў старой прэсе. Таму, акрамя аднаўлення важнай сімвалічна феміністычнай спадчыны Бадуновай (першая міністарка Беларусі, адна з першых у свеце пасля Калантай), варта закрануць малавядомыя бакі творчасці дзяячкі — мастацкая літаратура, публіцыстыка, эпісталяршчына і пераклад.

## Пісьменніца

Так, Палута Бадунова спрабавала стаць пісьменніцай — яна пакінула сшытак з аповедамі, напісанымі прыгожым настаўніцкім почыркам, якія датуюцца 1923-м годам. Маюцца на ўвазе тры аповеды: «Смяюцца... над сабою», «Думкі парабка» і «Смерць мачыхі». Усе тры не проста кур'ёзныя тэксты, а вартыя мастацкага — і нават палітычнага — аналізу, бо ілюструюць цэлую эпоху і станаўленне дзяячкі.

Важная і мова твораў, бо вядома, што паступова Палута Бадунова беларусізавалася і вылучала мову як важны элемент нацыі. Не адразу — праз адданасць сацыялізму перадусім — яна паставіла нацыю і мову на першае месца, тым не менш лісты, выказванні і цяпер яшчэ яе аповеды дэманструюць прынцыповы пераход аўтаркі на беларускую мову. Канешне, сучаснае чытацтва само павінна ацаніць яе не заўсёды роўныя тэксты. Але наперад дазволю пазначыць, што аповед «Смерць мачыхі» — гэта найлепшы тэкст цёткі Палуты. Эмацыйны, інтымны, гэта ў пэўнай ступені прыклад беларускага прыгожага і ў пэўнай ступені феміністычнага пісьма.



С. МАКМАНУС

ІРЛЯНДЗКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ

ПЕРАКЛАД ДОБРАГА КАРЛІКА

З 33 МАЛЮНКАМІ

ВІЛЬНЯ 1923
«ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА» Б. А. КЛЕЦКІНА
БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ

Кавалак інтымнага дзённіка пра нешчаслівае каханне («Успаміны аб маім каханні») — гэта яшчэ адзін, няхай у моўным плане недасканалы тэкст, але ў плане мастацкім — ідэальны і смелы, на які ў беларускай прасторы не адважыўся ніводны мужчына-пісьменнік. Развагі пры гэтым не толькі лакальныя, інтымныя, яны скрыжоўваюцца з думкамі глабальнымі, турботамі пра лёс беларусаў, пра Беларусь. Яна не збаялася інтымнічаць, агаляцца і «апісваць тугу чалавечую» і «як можна кахаць да канца». У гэтых успамінах мы бачым рэальную Палуту Бадунову, якая смела адыходзіла ад свету ідэальнага, удала дэманструючы чалавечае і эмацыйнае ў палітыцы.

**Удалыя ці няшчасныя закаханасці мужчынаў-калегаў мала цікавілі ці ўражвалі, а вось каханні кабеты высокага палітычнага калібру былі і застаюцца пад пільным інтарэсам грамадства. Што да беларушчыны, то многія яе сучаснікі таксама слаба валодалі беларускай**

Не менш кур'ёзным з'яўляецца і яе адзіны вядомы дасюль верш, напісаны па-руску: «Белоруссия». Гарманічны, але і цалкам ідэалагічны — зноў жа ў ім уся цётка Палута: у адным вершы закадаваная цэлая эсэрская праграма і смелае крытычнае пасланне як у бок Польшчы, так і Расіі, а яшчэ і Літвы.

## Перакладніца

*Чытайце, дзеткі, чужыя казкі, дый не забывайцеся, што ў вас ёсць і свае беларусія, вельмі прыгожыя і вельмі цікаўныя.*
*Добры Карлік (1923).*

Цікавая іншая яе іпастась — перакладніца. Як настаўніца, Палута Бадунова цудоўна разумела важнасць слова ў справе беларусізацыі, важнасць беларускага слова ў школках. Важнасць уласнай літаратуры і перакладу. А таму яна ўзялася за пераклад казак. Так, у 1923 годзе ў віленскім выдавецтве Б. А. Клецкіна з'явіліся «Ірляндзкія народныя казкі» ў перакладзе Добрага Карліка (псеўданім Бадуновай). І хоць перакладзеныя яны былі не з ірландскай і не з англійскай, а з рускай мовы, тым не менш, гэта істотна дапамагала ў пытанні беларусізацыі.

Казкі выйшлі лацініцай і кірыліцай і карысталіся моцным попытам, як сведчаць адгалоскі ў тагачаснай прэсе (напрыклад, веснавыя нумары «Голасу Беларуса» за 1924 год). Дый цікавая сама прадмова перакладніцы: у ёй уся Палута Бадунова — павучальная і нацыяцэнтрычная настаўніца. Падаецца, цётка Палута працягнула лінію, пачатую першай беларускай Цёткай (Алаізай Пашкевіч). Сёння ж, падаецца, гэтая лінія па развіцці дзіцячай літаратуры па-беларуску ў незалежнай Беларусі ўспрымаецца так жа скептычна, як і за царскім часам.

Пасьвячаю маю працу маленькаму хлопчыку
РАГВАЛОДУ
РАК-МІХАЙЛОЎСКАМУ.

АД ПЕРАКЛАДЧЫКА.

Чытайце, дзеткі, чужыя казкі, дый не забывайцеся, што ў вас ёсьць і свае беларускія, вельмі прыгожыя і вельмі цікаўныя.

ДОБРЫ КАРЛІК.

## Публіцыстка

Іпастась публіцысткі, трыбункі дасюль застаецца найменш вывучанай спадчынай Бадуновай: многія нумары старой прэсы, дзе яна друкавалася, цяжка даступныя. Аднак якраз у артыкулах мы адкрываем сапраўдную палітычную дзяячку. З улікам таго, што яна не пакінула асобных палітычных тэкстаў, яе артыкулы («Рада і яго значэнне для Беларусі», «Што лепей?», «Беларусь як гасударства») замяняюць іх і дазваляюць да ўсяго ацаніць яе палітычную эвалюцыю.

## Эпісталярніца

Лісты Палуты Бадуновай спаткаў лепшы лёс — яны ўзгадваліся, друкаваліся ў розных кнігах (у шматстаронкавых «Архівах БНР», у «Падарожжы ў БНР» Сяргея Шупы, «Выбраным» Тамаша Грыба ці ў вядомай кнізе Валянціны Лебядзевай «Пуцявінамі змагання і пакутаў»), артыкулах («Любоў як рэвалюцыя ці "незважаючы на Грамшы" Палуты Бадуновай» Алены Гапавай), аднак вельмі частка менавіта ў лістах выкрываюцца і знаходзяцца спецыялістамі «жаночыя слабасці» дзяячкі. Наколькі суб'ектыўныя і інтымныя самі лісты, настолькі ж суб'ектыўныя сучасныя каментары і выкарыстанні яе лістоў. Пры гэтым у трактаванні эпісталяршчыны першай міністаркі выразна прысутнічае мізагінная прызма ці прызма патрыярхальная: многія чапляюцца да яе жаноцкасці, эмацыйнасці, закаханасці (напрыклад, у маладзейшага па гадах Тамаша Грыба), а яшчэ да часам слабай моўнай беларушчыны, як да слабасці.

Удалыя ці няшчасныя закаханасці мужчынаў-калегаў мала цікавілі ці ўражвалі, а вось каханні кабеты высокага палітычнага калібру былі і застаюцца пад пільным інтарэсам грамадства. Што да беларушчыны, то многія яе сучаснікі мужчынскага полу таксама слаба валодалі беларускай мовай, пісалі і выступалі па-руску, аднак чамусьці асаблівай зачэпкі заслужыла ў гэтым пытанні Палута Бадунова і яе «недасканалая беларуская мова». Зноў крайняя? Зноў адзіная вінаватая? У той (дый цяперашні) час вялізная частка публічных асобаў Беларусі выступалі па-руску: чаму гэта нікога не здзіўляе?

А яшчэ часцей, канешне, яе лісты проста замоўчваюцца, аніяк не прыгадваюцца, не аналізуюцца. Як не называецца, не аналізуецца паўнавартасна ўся складаная і цікавая спадчына цёткі Палуты.

Адзінае, у чым згодныя ўсе: яна — першая беларуская міністарка, першая рэспубліканка-незалежніца, якая смела даводзіла правы беларусаў на незалежнасць і ўласную рэспубліку (не манархію). Палута Бадунова паказала шлях іншым і зрабіла звыклай для нас прысутнасць жанчыны ў палітыцы.

У лістападзе 2018 года ў Вільні нарэшце з'явіцца маленькі зборнік яе твораў, каб стрымана, але сімвалічна важна і паўнавартасна адзначыць стагоддзе БНР, беларускай дзяржаўнасці, створанай няўрымслівымі, смелымі і апантанымі мужчынамі і жанчынамі.


Першыя «будзьмаўскія» цішоткі, 2008 год


Канцэрт Лявона Вольскага ў Віцебску ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!», 2008 год


Скрыншот з анімацыйнага фільма «Будзьма беларусамі!», 2011 год

# Кампанія «Будзьма» — 10 гадоў разам!

## 1 кастрычніка спаўняецца 10 гадоў ад моманту заснавання грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!»

### Як усё пачыналася

На той момант падобных ініцыятываў у Беларусі папросту не было. Безумоўна, у краіне дзесяцігоддзямі працавалі шматлікія недзяржаўныя арганізацыі, якія пашыралі беларушчыну, займаліся папулярызацыяй беларускай мовы і культуры, рабілі ўсё магчымае ў даволі складанай грамадска-палітычнай сітуацыі, але кампаніі, якая замахнулася б на агульнанацыянальны ўзровень і шматпрофільную дзейнасць, не было. І адной з задач, якую ставіла перад сабой «Будзьма», было аб'яднанне не толькі ўжо наяўных ініцыятываў, але і прыцягненне новых прыхільнікаў. Было вельмі важна, каб жыхары Беларусі перасталі ўспрымаць высілкі рупліўцаў на ніве беларушчыны як часовыя, лакальныя дзеянні апантаных і асэнсавалі неабходнасць развіцця краіны менавіта на глебе нацыянальна-культурных каштоўнасцяў.

Ініцыятарам стварэння кампаніі стала Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Сярод тых, хто першым падтрымаў стварэнне такой ініцыятывы, былі Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы, Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, суполка «Пагоня» Саюза беларускіх мастакоў, грамадскае аб'яднанне «Гісторыка» ды іншыя. Усіх, вядома, не пералічыш. «Бацькаўшчына» ўзяла на сябе ролю каардынатара на чале з Аленай Макоўскай і Нінай Шыдлоўскай.

Такіх ініцыятываў не існавала не толькі ў Беларусі, але і ў суседніх краінах. Таму стваральнікам кампаніі давялося натхняцца… уласным досведам. А пастаўленая мэта засталася актуальнай і сёння: яднанне беларусаў на глебе нацыянальных каштоўнасцяў.

Вось што казала тады на першай «будзьмаўскай» прэс-канферэнцыі каардынатар кампаніі Алена Макоўская: «Працэс кансалідацыі грамадства з тым ці іншым поспехам прайшоў на тэрыторыі ўсяго былога Савецкага Саюза, але ў Беларусі да гэтага часу ніхто не здолеў аб'яднаць беларусаў ці прапанаваць глебу для гэтага. На нашу думку, павага да сябе, свайго народа, мовы, культуры, любоў да гісторыі і могуць стаць такім падмуркам».

Не дзіва, што кампанію ад пачатку акрэслілі ініцыятывай, у якой «не будзе канца». Бо, згадзіцеся, працэс кансалідацыі беларускага грамадства — з'ява вельмі складаная і доўгатэрміновая.

Каардынатар кампаніі Ніна Шыдлоўская адзначыла гэта ў сваім выступе: «Які б ні быў зменлівы свет, ва ўсе часы найбольш цэніцца самабытнасць, пачуццё ўласнай годнасці і яснае бачанне перспектывы. На працягу шматлікіх стагоддзяў нашае грамадства дзяліў па палітычных прыкметах, матэрыяльным стане і інш. Відавочна, што былі спробы аб'яднаць нашае грамадства, але ў большасці выпадкаў яны рабіліся на палітычнай глебе, можа, таму яны і цярпелі паразу? Мы ўсё больш пераконваемся ў тым, што кансалідаваць насельніцтва краіны могуць не часовыя паняцці і інтарэсы, а тое, што можна з усёй адказнасцю назваць словам «вечнае».

**Гучыць фантастычна, але «Будзьма» была адной з першых, хто пачаў пераасэнсоўваць нацыянальныя сімвалы, распаўсюджваючы адзенне і аксесуары з іх выявамі. Раней былі ў асноўным выявы «Пагоні»**

### «Будзьма» як пункт збору

Шукаючы шляхі да яднання, кампанія ўзялася за беларускую культуру ў самым шырокім разуменні гэтага слова. Ад першых дзён існавання пад эгідай ініцыятывы пачалі праводзіцца шматлікія культурніцкія імпрэзы з удзелам вядомых беларускіх літаратараў, музыкаў, мастакоў. За гэтыя гады такія «культурніцкія дэсанты» наведалі сотні школаў, садкоў, летнікаў, публічных культурных асяродкаў ды іншых установаў культуры і адукацыі па ўсёй краіне. Дзякуючы гэтаму людзі ў рэгіёнах адкрывалі для сябе сучасных беларускіх творцаў, чые імёны не згадваліся ні ў падручніках, ні ў дзяржаўнай прэсе.



Плакат «Тое, што нас аб'ядноўвае і робіць унікальнымі!», 2008 год. Аўтар — Міхал Анемпадыстаў

Як і раней, галоўным чынам імпрэзы адбываюцца ў рэгіёнах, дзе дагэтуль культурніцкае жыццё заўважна слабейшае за сталічнае. Пры падтрымцы кампаніі ў Беларусі адбыўся цэлы шэраг фестываляў у розных гарадах: напрыклад, «У госці да Лепельскага Цмока» ў Лепелі, «Свята ветру» ў Віцебску, «DranikFest» у Магілёве ды іншыя. Акрамя гэтага кампаніяй ад пачатку ладзіліся шматлікія музычныя імпрэзы, Шоў Беларушчыны, экскурсіі, дабрачынныя мерапрыемствы і многае іншае — каб захавоўціць людзей цікавіцца гісторыяй, культурай нашай краіны, у якой і ёсць, мы верым, наш падмурак для яднання і дэмакратычнага развіцця.

Кампанія шукала і знаходзіла фарматы ўзаемадзеяння з рознымі групамі — бізнесам, дзяржаўнымі ўстановамі культуры і адукацыі, і ўсе мерапрыемствы праходзілі пад агульнымі слоганамі: «Будзьма беларусамі! — гэта тое, што нас аб'ядноўвае і робіць нас унікальнымі», «Культура паляпшае жыццё!», «Разам да справы!». Дарэчы, некаторыя з іх былі нават на той момант падхопленыя дзяржаўнымі ўстановамі.

Гучыць фантастычна, але «Будзьма» была адной з першых, хто пачаў пераасэнсоўваць, асучасніваць нацыянальныя сімвалы, распаўсюджваючы адзенне і аксесуары з іх выявамі. Гэта цяпер мы маем цэлы шэраг самых розных брэндаў, а 10 гадоў таму такой разнастайнасці не было — былі ў асноўным выявы «Пагоні». «Будзьма» ж прапанавала альтэрнатыву для тых, хто хацеў падкрэсліць сваю беларускасць, але без настолькі яўнай палітычнай дэманстрацыі. Адметныя торбы, цішоткі, нататнікі, закладкі за гэты час сталі не толькі пазнавальнымі, але і папулярнымі як у Беларусі, так і за яе межамі і прадэманстравалі, што ўвасобіць беларускасць можна так, каб гэта было цікава і прывабна для сучаснага чалавека.

Кампанія пастаралася вярнуць у шырокі ўжытак традыцыю вечаў — абмяркоўваць шырокім сходам актуальныя пытанні. Так, ужо прыжыўся ў Беларусі фармат публічных дыскусій і Кірмашоў праектаў. Менавіта яны далі магчымасць у рэгіёнах «падняць» людзей на лакальную дзейнасць, прывучыць самім ініцыяваць і рэалізоўваць свае задумы на карысць іншых.

А сама «Будзьма» за гэтыя гады ператварылася ў сапраўдны пункт збору актыўных, творчых і крэатыўных людзей, неабыякавых да беларушчыны. Гэта вельмі важны ўнёсак кампаніі не толькі ў прамоцыю актуальнай беларускай культуры, але і ў развіццё грамадзянскай супольнасці.

### Чым запомніліся

«Будзьма» стварыла цэлы шэраг праектаў, праз якія мы вучылі і вучыліся гісторыі; адкрывалі новыя імёны ў спорце і культуры; даводзілі, што беларуская мова — якасны сродак камунікацыі, а ўсё беларускае можа і мусіць быць модным, сучасным і актуальным. Гэтыя праекты (мы гэта бачым) натхнялі іншых на далейшы крэатыў і стварэнне новых яскравых падзей. Найбольш вядомыя з такіх праектаў-натхняльнікаў варта згадаць:

- Анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі!»
- Камунікацыйная праграма «У пошуках Цмока»
- Спартовы праект «Байцоўскі ген»
- Выдавецкая серыя «Не маўчы па-беларуску!»
- Музычны праект «Тузін.Перазагрузка»
- Серыі інтэрв'ю «Будзьма беларускамі!»
- Серыя ролікаў «Культура паляпшае жыццё»
- Новы мультымедыйны праект «Край|by»
- Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі «Аднак!»
- Паэтычны відэапраект «Чорна-белыя вершы»
- Рэгіянальная праграма «Разам да справы!»

Але кампанія ніколі не стала б такой папулярнай, калі б не тыя людзі, арганізацыі і ініцыятывы, што спрычыніліся да яе сваім талентам, сваімі ведамі і майстэрствам. Мы ўдзячныя ўсім, хто пачынаў разам з намі, хто дапамагаў і актыўна ўключаўся ў справу, і ўсім, хто разам з намі цяпер!

Будзьма разам!

budzma.by



# Інтэрнацыянальны дукорскі Багач

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У маёнтку Дукора (Пухавіцкі раён) адсвяткавалі Багач — свята беларускага традыцыйнага календара, што прыпадае на восеньскае раўнадзенства. Яго сімволіка шматгранная: гэта час збору ўраджаю, запальвання агню ў хаце.**

Фестываль распачаў гурт Студэнцкага этнаграфічнага таварыства абыходам тэрыторыі і беларускімі спевамі. Потым на сцэне выступілі калектывы, што прадстаўляюць культуру Украіны, Ізраіля, Карэі, Іспаніі, Арменіі, Азербайджана.

Свята Багач вядомае не па ўсёй Беларусі, мае рэгіянальны характар. Багач нагадвае шматлікія абрады пераносу свечкі, распаўсюджаныя па ўсёй краіне: на пэўнае свята штогод пераносіцца ў новую хату абрадавы комплекс са свечкі ў жыце і абраза. Паходжанне такіх абрадаў даследчыкі выводзяць са старажытнага культу хатняга агменю, а звычай калектыўнага сукання свечак, што пераносяцца, — з рытуалаў сярэднявечных братчын пчалаводаў.

Святкаванне Багача ў Дукоры дзяўчаты са Студэнцкага этнаграфічнага таварыства распачалі абыходам рамесных падворкаў. Наведвальнікі маёнтка на ўваходзе разам з білетам атрымлівалі мяшэчкі з зернем, якое падчас шэсця гурта ссыпалі ў агульную місу са свечкай. Каля сцэны вядучы фестывалю, які выконваў ролю гаспадара, запаліў свечку. Дзяўчаты заспявалі некалькі восеньскіх, жніўных і вясельных песень ды распачалі майстар-клас па беларускіх танцах.

Акрамя Студэнцкага этнаграфічнага таварыства Беларусь на свяце ў Дукоры прадстаўляў народны фальклорны ансамбль «Вербіца». Фестываль працягнуўся выступамі і майстар-класамі ансамблю карэйскага танцу «Арыранг», калектыву «Фламенка», ансамблю «Легенды Каўказа», фальклорнага тэатру ўкраінскай песні і абраду «Ватра», ансамблю армянскага фальклорнага танцу «Эрэбуні», калектыву «Лейсэн», дуэта «Jazz doit» і ансамблю інтэрнацыянальнага сяброўства «Згода». Ізраільская песні выканала Галіна Левянт. Фестываль завяршыў танцавальны флэшмоб.

**Фота аўтаркі**

# На Тыдні Германіі прыедзе Берлінскі фестываль XJAZZ

**Больш за 15 гадоў кожную восень пад патранажам Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі праводзяцца Тыдні Германіі. Сёлета яны пачаліся 23 верасня і працягнуцца да 18 лістапада.**

Пасольства запрашае ўсіх, хто хацеў бы пазнаёміцца з нямецкай культурай, моваю і грамадствам, наведаць шматлікія мерапрыемствы ў адзінаццаці беларускіх гарадах.

Багатая праграма прапануе на ваш выбар:

- шматлікія кінапаказы: сучасныя кароткаметражныя стужкі, мастацкія фільмы на нямецкай мове з субтытрамі на рускай, музычны фільм з наступным Live-DJ-Set, дакументальны фільм у гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна, а таксама нямы фільм «Насферату» (1921) Фрыдрыха Вільгельма Мурнау, які будзе дэманстравацца ў чатырох гарадах з жывым музычным суправаджэннем у выкананні аўтара музыкі Вольгі Падгайскай і ансамбля сучаснай камернай музыкі «Five-storey-ensemble»;
- самыя разнастайныя канцэрты ад класікі да стыляў рок і поп, а таксама джаз (у Мінск упершыню прыедзе Берлінскі фестываль XJAZZ);
- чытанні, выставы, майстар-класы і лекцыі на спецыяльныя тэмы;
- творчыя мерапрыемствы і магчымасць прыняць удзел у захапляльных акцыях у бібліятэках гарадоў Баранавічы, Брэст, Барысаў і Маладзечна;



- а таксама многія іншыя невялікія і буйныя мерапрыемствы ва ўсіх рэгіёнах Рэспублікі Беларусь.

Тыдні Германіі праводзяцца Пасольствам Федэратыўнай Рэспублікі Германія сумесна з Інстытутам імя Гётэ ў Мінску, прадстаўнікамі нямецкіх культурных арганізацый у супрацоўніцтве з беларускімі ўстановамі і партнёрамі.

Праграма Тыдняў Германіі апублікавана на www.minsk.diplo.de.

# «Рок за жыццё»

**Штогадовы фестываль «Рок за жыццё», прымеркаваны да Сусветнага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання, пройдзе сёлета ўжо трэці раз.**

Каб падтрымаць уведзенне мараторыя на вышэйшую меру ў нашай краіне, папулярныя гурты «Nizkiz», «Петля Пристрастия», «Мутнаевока», а таксама пераможцы конкурсу знакамітага фестывалю «Басовішча» двух апошніх гадоў, «SnopSnoŭ» і «Teleport», сыграюць 7 кастрычніка ў мінскім клубе «Re:Public» (вул. Прытыцкага, 62).

Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання адзначаецца 10 кастрычніка. Ён заснаваны Сусветнай кааліцыяй супраць смяротнага пакарання — аб'яднаннем прафсаюзаў, мясцовых і рэгіянальных органаў улады, юрыдычных асацыяцый, а таксама праваабарончых арганізацый з мэтай паўсюднай забароны на гэты від вышэйшай меры пакарання. Прыхільнікі руху выступаюць супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння, незалежна ад характару злачынства, характарыстык злачынцы і спосабу, якім дзяржава пазбаўляе жыцця асуджанага. Смяротнае пакаранне парушае правы на жыццё, абвешчанае ў Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека.

Беларусь дагэтуль застаецца апошняй еўрапейскай і адзінай постсавецкай краінай, якая прымяняе смяротнае пакаранне. Паводле звестак праваабаронцаў, за апошнія дваццаць гадоў у краіне пакарана больш за 400 чалавек.

На думку дэпутата Палаты прадстаўнікоў, чальца Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы, экс-намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Пятра Атрошчанкі, Беларусь паступова ідзе да мараторыя, і яго падтрымлівае моладзь: «Усё часцей маладыя людзі прытрымліваюцца такой пазіцыі: нельга пазбаўляць чалавека жыцця свядома, якое б злачынства ён ні здзейсніў».

Не выпадкова фестываль «Рок за жыццё» штогод прыцягвае ўсё больш увагі моладзі. У папярэднія гады ён таксама праходзіў у клубе «Re:Public», сваім удзелам ідэю адмены смяротнага пакарання падтрымалі «Дай Дарогу!», «Akute», «Re1ikt», «:B:N:» і іншыя гурты, а таксама тысячы іх прыхільнікаў. Акрамя Мінска, летась музыкі сыгралі аналагічны канцэрт у Брэсце. А сёлета ўпершыню «Рок за жыццё» пройдзе і ў Віцебску. Фестываль адбудзецца ў самым міралюбівым месцы горада, «Бітлз-клубе», 5 кастрычніка з удзелам «Nizkiz», «Разбітага сэрца пацана», «Re1ikt» і «Teleport»!

**Даведкі: +375 29 12 12 296.**



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №836

Падпісана да друку 28.09.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.